# КАРУСЬ КАГАНЕЦ

На вуліцах губернскага Мінска ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя можна было сустрэць прысадзістага, барадатага чалавека ў сялянскай вопратцы. Зімою ён звычайна быў у жоўтым кажусе, падпяразаным поясам, у высокай аўчыннай шапцы, у юхтовых ботах. Улетку таксама нічым асаблівым не вылучаўся сярод сялян з-пад Койданава, хіба толькі тым, што паверх палатнянай кашулі заўсёды насіў суконную світку, каб не так кідаўся ў вока горб. З усімі, нават панамі і падпанкамі, гаварыў ён толькі па-беларуску. Ва ўсёй яго постаці і ў абліччы адчувалася моцная сіла волі чалавека працы, з глыбокім пераконаннем гаварыў ён любімыя словы: «Беларусь трэба падымаць!»

Такі быў Карусь Каганец — вядомы беларускі грамадскі дзеяч, драматург, паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, аўтар першых беларускіх падручнікаў, перакладчык, вучоны-мовазнаўца і фалькларыст, здольны мастак і скульптар. Псеўданімы Каганец і Будзімір добра перадавалі змест і ідэйны напрамак разнастайнай творчай дзейнасці таленавітага пісьменніка, які ўсё сваё кароткае жыццё распальваў у народзе святло асветы, будзіў яго да сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Сапраўднае прозвішча Каруся Каганца — Казімір Карлавіч Кастравіцкі. Нарадзіўся ён 29 студзеня (10 лютага) 1868 года ў Табольску. Бацька яго паходзіў з даўняга баярскага роду і быў раднёю Міхаіла-Апалінарыя Кастравіцкага, дзеда вядомага французскага паэта Гійома Апалінэ-

ра, але ў сярэдзіне XIX стагоддзя валодаў толькі фальваркам Навасёлкі пад Койданавам, да якога было прыпісана 6 сялянскіх двароў, што плацілі чынш. За ўдзел у паўстанні 1863 года бацька быў высланы ў Сібір, а зямля і маёмасць у Навасёлках канфіскавана. У Табольску бацька знайшоў службу (ён меў агранамічную адукацыю), да яго ў скорым часе прыехала жонка. Калі сыну Казіміру споўнілася чатыры гады, Каставіцкія атрымалі дазвол вярнуцца на радзіму. Бацька купіў коней і сані, і ўся сям'я сваім ходам дабіралася з Табольска ў Маскву, а пасля цягніком да Мінска.

Каставіцкія знайшлі прытулак у вёсцы Засулле, непадалёка ад Стоўбцаў. Бацька ў хуткім часе раптоўна памёр, маламу Казіміру прыйшлося наняцца ў Засуллі пастушком. Жыццёвыя нягоды сям'і ўсугубіліся калецтвам Казіміра: яшчэ ў Табольску ёнываліўся з высокага акна на вуліцу і моцна пакалечыўся. Пазней, у Засуллі, на яго ўпалі цяжкія вароты, і ў Казіміра вырас горб (бацька яго быў гарбаты ад нараджэння).

Неўзабаве маці ўзяла прымака — мясцовага селяніна. Потым сям'я пераехала ў Юцкі (Прымагілле) каля Койданава, дзе на Казіміра, як на аднаго са старэйшых, лёг увесь цяжар гаспадарскіх клопатаў.

Вучыўся К. Каганец спачатку дома, пасля ў Мінскім гарадскім вучылішчы, скульптурным майстэрствам авалодваў у Маскве і Пецярбурзе, але вучобу там не закончыў, бо не было сродкаў. Прыйшлося зноў брацца за плуг і касу.

Вясною 1899 года К. Каганец ажаніўся з Г. Пракаповіч і асеў ва ўрочышчы Лісі Норы ў Прымагіллі. Біёграф і даследчык творчасці аўтара «Моднага шляхцюка» Мікалай Касяровіч у 1928 годзе зрабіў здымак хаты Каруся Каганца з пазнейшай дабудоўкай злева [1]. Саламяная страха,

[1] «Наш край», 1928, № 10.

два падслепаватыя акенцы хата без сенцаў, уваход праз хлеў, дзе стаялі коні,— так несамавіта выглядала сядзіба пісьменніка-селяніна. Не толькі кепскай была хата, але і пясчаная зямля радзіла слаба,— гэта прымушала шукаць яшчэ і дадатковага заробку. К. Каганец працаваў у мастацкай майстэрні ў Рызе, у Мінскім таварыстве дабрачыннасці, служыў дзесятнікам у Лідзе на будаўніцтве чыгункі Балагое — Сядлец.



*К. Каганец.*
*Тып беларуса (алей).*

К. Каганец прымаў актыўны ўдзел у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху, быў членам Беларускай сацыялістычнай грамады, рабіў захады яшчэ ў 1904 годзе адносна выдання ў Мінску беларускай газеты «Палессе». Таму ў гады рэвалюцыі 1905—1907 гг. ён на самым пярэднім краі барацьбы з царызмам. За агітацыйную дзейнасць сярод сялянства Койданаўшчыны К. Каганец трапіў у снежні 1905 года ў Мінскую турму і праседзеў там да мая 1906 года. Пасля ён жыў выпадковымі заробкамі, працаваў у лясніцтве ля Крычава, выкладчыкам малявання ў Вільні.

У 1910 годзе Віленская судовая палата прыгаварыла К. Каганца за ўдзел у рэвалюцыі 1905 года да зняволення ў Мінскай крэпасці, дзе ён з 26 ліпеня 1910 года адседзеў роўна год. За турэмнымі сценамі пісьменнік не падаў духам, многа пісаў і маляваў (дарэчы сядзеў ён у крэпасці разам з Якубам Коласам).

Пасля К. Каганец доўгі час не мог знайсці працу і толькі ў 1912 годзе атрымаў, нарэшце, службу ў фальварку Жортай на Барысаўшчыне, дзе быў аканомам у пана Копаця. Вясною 1918 года ў яго абвастрылася даўняя хвароба лёгкіх, ён паехаў з Жортая да брата ў Прымагілле, але там пачалося запаленне лёгкіх. К. Каганец памёр 20 мая 1918 года, пахаваны ў вёсцы Навасёлкі.

Літаратурную дзейнасць Карусь Каганец пачаў у канцы XIX стагоддзя. У далёка няпоўным архіве пісьменніка, які захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі і старадрукаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна, самыя ранція творы яго датуюцца 1893 годам. Упершыню апрацоўкі народных легенд і артыкулы К. Каганца былі апублікаваны на беларускай мове ў 1902 годзе ў газетах «Минский листок» і «Северо-Западный край».

Пры жыцці пісьменнік друкаваўся мала. На гэта было многа прычын. Адна з іх: жыццёвыя ўмовы складваліся так, што пісаць мастацкія творы, шліфаваць, заканчваць іх не было калі, трэба было думаць, як зарабіць кавалак хлеба. Другая — К. Каганец, увесь час адстойваючы свой пагляд на асаблівасці беларускага правапісу, ставіў, пасылаючы свае творы, умову: «...друкуйце, як яны напісаны, не зменьваючы правапісьма». Гэта часам закрывала дарогу ў «Нашу ніву» ці ў іншую выдавецкую суполку.

Творчая спадчына Каруся Каганца ў поўным выглядзе да нас не дайшла. Асобным выданнем выйшлі пры жыцці пісьменніка толькі «Беларускі лемантар» (1906) і вадэвіль «Модны шляхцюк» (1910). Невялікая частка яго твораў раскідана па розных беларускіх газетах, альманахах і календарах. Матэрыялы з архіва К. Каганца друкаваліся пасмяротна ў газетах «Вольная Беларусь» і «Беларусь» (1918—1920), многія нумары якіх, на жаль, сталі бібліяграфічнай рэдкасцю ці зусім загінулі...

Карусь Каганец — цікавы і самабытны празаік. Боль-

шасць яго празаічных твораў — гэта своеасаблівая апрацоўка фальклорных матэрыялаў: народных легенд і гістарычных паданняў, казак і жартаў.

Апавяданні «Прылукі», «Засульскія турэ», «Машэка», «Вітаўка», «Навасадскае замчышча» створаны паводле мясцовых легенд і даносяць як бы ў даслоўных запісах мовы расказчыкаў жывы подых народных уяўленняў паходжання геаграфічных назваў. Гістарычна-легендарны каларыт у гэтых творах не толькі ў адпаведнай лексіцы, але і ў рытмічна-сказавай манеры апісання: «Дарога задуднела, і на ўзмыленым кані паявіўся ўвесь запылены княжны ганец і, сукланіўшыся баярству, павяшчае нядобрую навіну, што вораг рубеж перайшоў і дужа наш край пустошыць... Баярын рад чыну даказаць, сабе славы прыдбаць; хутка сабраў сваю дружыну і паехаў» («Прылукі»). Пра іх Максім Багдановіч пісаў: «Рэзка індывідуальную фізіяномію маюць творы К. Каганца, ад іх вее язычаскай Руссю» [1]. У іншым плане напісаны апрацоўкі «Чым болей хто мае, тым болей жадае, або адкуль мядзведзі на свет узяліся», «Бутрымава прыгода», «Скрыпач і ваўкі», «Ваўчок», «Адкуль зязюля ўзялася» і некаторыя іншыя. Тут таксама бачна фальклорная першааснова, але аўтар на свой лад, ярка і дынамічна перадае сюжэт, напаўняе яго трапнымі мастацкімі дэталямі, пружыністым дыялогам. Увогуле ў творчасці К. Каганца заўважаецца моцны ўплыў жывой гутарковай мовы, а ў апрацоўках народных казак гэта відаць асабліва. З якой экспрэсіяй і ўнутранай напружанасцю перададзена гісторыя са скрыпачом, які ўваліўся ў яму, дзе сядзеў воўк: «Ахрэм усё іграе. Ніколі яшчэ ён так шчыра не іграў, як цяпер, бо думаў, што як кіне іграць, то воўк зараз да яго ды з'есць. Калі гэта адна струна — дзын! — дый парвалася. Няма чаго рабіць,— трэба

[1] М. Багдановіч. Збор твораў у двух тамах, том II. Мн., 1968, стар. 237.



*К. Каганец. За сахой (туш).*

іграць на трох. Калі і другая дзын! — і тая парвалася» («Скрыпач і ваўкі»).

Некаторыя апрацоўкі беларускіх народных казак («Журавель і чапля», «Што кажух, то не вата») і вельмі ўдалыя па зместу і форме навукова-папулярныя нарысы («Вандроўка кроплі вады», «Год», «Нашыя птушкі»), відаць, напісаны былі для школьнай чытанкі. Выдавецтва «Загляне сонца ў наша аконца» заказвала К. Каганцу чытанку, але яна па нейкіх невядомых прычынах не выйшла з друку. У гэтых творах пісьменнік выступае як самародак-педагог, які ўмела і проста тлумачыць дзецям складаныя жыццёвыя і прыродныя з'явы.

Сярод празаічных твораў К. Каганца трэба выдзеліць апавяданне «Бывалы Юр у Мінску». Гэта крытычны погляд

бывалага селяніна на гарадскія забаўкі. Арыгінальна пабудавана апавяданне: дзеянне разгортваецца толькі ў форме дыялога Юркі з Пракопам.

Ёсць у К. Каганца цікавыя бытавыя апавяданні («З нашага жыцця», «Тры алешыны», «На сплаве» і іншыя). Яны вызначаюцца не толькі жывымі малюнкамі побыту плытнікаў і леснікоў, у іх выразна адчуваецца сацыяльнае завастрэнне («На сплаў»), зрэдку трапляюць і сатырычныя матывы («Ахота віцгубарнатара на вядзьмедзя»).

Асобна трэба сказаць пра К. Каганца-публіцыста. У артыкулах «Прамова», «Думка», «З рэферату на калядны сход беларускай грамады 1903 года» ў цэнтры ўвагі праблемы нацыянальнага адраджэння, развіцця беларускай культуры, мовы, асветы. Ацэньваючы публіцыстычныя творы К. Каганца, іх моцныя і слабыя бакі, трэба мець на ўвазе канкрэтна-гістарычныя ўмовы і абставіны часу, якія выклікалі палемічную завостранасць некаторых выказванняў пісьменніка. Сёння гэтыя выказванні ўспрымаюцца як ідэалізацыя гістарычнага мінулага беларускага народа і сведчанне пэўнай абмежаванасці поглядаў К. Каганца. Але ў свой час яны былі абумоўлены ідэйнай барацьбой, што вялася паміж прагрэсіўнай грамадскай думкай і афіцыйнымі выданнямі, якія праводзілі палітыку царскага самаўладства і адмаўлялі беларускаму народу ў праве на развіццё сваёй нацыянальнай культуры. Каб актывізаваць перадавыя грамадскія сілы на барацьбу супраць «старой Расіі», за «вялікі саюз свабодных народаў», К. Каганец, як і Ф. Багушэвіч у прадмове да зборніка «Дудка беларуская», звяртаўся да фактаў далёкай гісторыі, часам атаясамліваючы тэрыторыю Беларусі з межамі колішняга Вялікага княства Літоўскага («Прамова»).

Ідэйная пераклічка К. Каганца з Ф. Багушэвічам адчуваецца не толькі ў публіцыстыцы, дзе ёсць многа ана-




*К. Каганец. Вокладка кнігі Я. Коласа «Другое чытанне».*

лагічнага і блізкага, але і ў паэзіі. Розніца хіба толькі ў тым, што аўтар «Дудкі» і «Смыка» гаварыў ад імя селяніна, а вуснамі К. Каганца прамаўляў сам селянін, чалавек працы.

Як вядома, большая частка жыцця Каганца прайшла ў беларускай вёсцы, сярод працоўнага сялянства: «...разам пасвіў, разам гуляў, разам працаваў і цяпер маю між імі сваякоў»,— прызнаваўся пісьменнік. Гэта акалічнасць наклала свой адбітак на яго паэзію. У ранніх вершах К. Каганца праўдзівыя і простыя малюнкі сялянскай працы і народнага побыту, скарга на нялёгкую долю («Песня зіме» [1], «Палессе»). Часам ціхая скарга пераходзіла ў ваяўнічы заклік:

Адважна, брацця, наперад ідзіце
Цвёрдай і правай ступою!
Кожнаму смела ў вочы глядзіце,
Праўду нясіце з сабою!

---

[1] У К. Каганца былі таксама вершы «Песня вясне», «Песня лету», «Песня восені», «Жняя», «Касар», «На сяле вечарам», але знайсці тэксты іх не ўдалося, бо ў друк яны не трапілі, а рукапісаў не захавалася.

Адклікаўся паэт і на грамадскія падзеі. Жывым водгукам на руска-японскую вайну былі вершы «На мабілізацыю» і «*** Які ж то вецер буйны грае»:

Мы тыя бедныя
рэкруты,
Гарматна мяса
на вайну,
Каторых цар і
доля люта
Жане за мора
ў чужыну.

Вялікае месца ў паэзіі К. Каганца, як і ў яго публіцыстыцы, займалі нацыянальна - вызваленчыя матывы («Плач беларуса», «Наш покліч», «Наш сымболь»), пісаў ён вершы на гістарычныя тэмы («Сцяты камень», «Нёман», «Згадка пра Галубка»), займаўся перакладамі польскага паэта Б. Залескага («У тры шляхі ідуць ляхі»). Шкада, што не захаваўся своеасаблівы прыродаапісальны цыкл вершаў паэта «Каханне Каганца». «Яго мілая — гэта кветка ў траве, птушачка ў лесе, што лашчыць вока сваёй красой і вуха сваёй песняй»,— характарызаваў гэты цыкл М. Каспяровіч [1].



*К. Каганец. Вокладка да ўласнай кнігі, якая мелася выйсці яшчэ да рэвалюцыі.*

Заканчваючы гаворку пра К. Каганца-паэта, трэба

[1] М. Каспяровіч. Карусь Каганец. Да дзесятай гадавіны смерці. «Маладняк», 1928, № 10, стар. 85.

адзначыць, што найбольшага поспеху ён дасягаў у творах, якія выраcталі на здабытках беларускай народнай песні, тады, калі творча выкарыстоўвалася фальклорная паэтыка. Узорам такога верша беларускага складу быў вядомы «Кабзар», высока ацэнены М. Багдановічам: «...рэч сама-родная, веючая народным духам і пакідаючая моцнае ўражанне» [1].

У творчай спадчыне К. Каганца вялікае месца займае драматургія. Ён аўтар вядомага вадэвіля «Модны шляхцюк» (Пецярбург, 1910), а таксама бытавых драм «У іншым шчасці няшчасце схавана» і «Двойчы прапілі», няскончаных твораў на гістарычную тэматыку «Старажовы курган» і «Сын Даніла».

У камедыі «Модны шляхцюк» К. Каганец ярка і жыва адлюстраваў жыццё беларускай засцянковай шляхты. Трапны сатырычны вобраз ганарлівага і сквапнага на добры пасаг шляхцюка Пранцішка Карчэўшчыка, дасціпная заключная сцэна, сапраўдны дынамізм дзеяння, багацце мовы, умелае выкарыстанне народных прыпевак,— усё гэта спрыяла выключнаму поспеху вадэвіля, асабліва ў дарэвалюцыйны час. Цікава адзначыць, што з вадэвілем К. Каганца пераклікалася купалаўская «Паўлінка» (1912), дзе ў вобразе Адольфа Быкоўскага далейшае развіццё і завастрэнне атрымлівае тып мясцовага шляхцюка-пустазвона, які выракаецца ўсяго роднага.

На вялікі жаль, засталася няскончанай вялікая бытавая драма ў 4 частках «Двойчы прапілі» (1910). На шырокім фоне народнага побыту драматург праўдзіва паказвае сялянскае жыццё, сацыяльную няроўнасць, бічуе п'янства. Дзеянне ў драме адпавядае яе назве: заможны селянін Пракоп — бацька Хоўры — пад чаркаю згаджаецца выдаць дачку замуж за гультаяватага і падкага на выпіўку

[1] М. Багдановіч. Том II, Мінск, 1968, стар. 168.

Атрыхона, а той за добры пачастунак уступае дзяўчыну другому — беднаму хлопцу Іўку. Такім звілістым шляхам ідзе да свайго шчасця Іўка...

Затое Астап («У іншым шчасці няшчасце схавана») не толькі страціў каханую, але і сам трапіў у турму, бо панічу ўсё можна рабіць, а парабку зачынена дарога ў жыццё. Шкада толькі, што гэтая сацыяльна-напружаная драма засталася канчаткова не завершанай.

Цікавымі па сваёй задуме былі і няскончаныя драмы «Старажовы курган» і «Сын Даніла». У «Старажовым кургане» нечаканы трохкутнік: ваявода, дачка карчмара Хэйна і казак Мікола. Дзеянне абрываецца на такім моманце: помсцячы Міколу, ваявода пасылае яго ў небяспечную разведку — на курган сачыць за татарскімі войскамі; там казак сустракае прыгожую дзяўчыну Вульяну... Яшчэ больш востры і нават трагічны канфлікт у драме «Сын Даніла»... Увогуле, у адной і другой драме вобразы задуманы з размахам, сюжэт вельмі арыгінальны і напружаны, добра адчуваецца сярэдневяковы гістарычны каларыт.

Увазе чытача прапануюцца старонкі эпісталярнай спадчыны Каруся Каганца. Дзякуючы шчаслівай выпадковасці захаваліся некаторыя лісты пісьменніка, датаваныя 1899—1912 гадамі. Гэта пераважна пісьмы К. Каганца да жонкі і дзяцей, перапіска, звязаная са спробамі наладзіць выданне беларускай газеты «Палессе», а таксама лісты ў «Нашу ніву». Гэтыя матэрыялы ўдакладняюць многія моманты біяграфіі пісьменніка, раскрываюць яго інтарэсы як грамадскага дзеяча, знаёмяць з працаю ў галіне выяўленчага мастацтва.

К. Каганец, заняты гаспадарчымі клопатамі, памятнай для яго вясной 1899 года за кароткі тэрмін з 2 па 20 сакавіка напісаў ажно чатыры лісты Г. К. Пракаповіч (неўзабаве яна стала жонкай пісьменніка). Побач са шчырымі

прызнаннямі («Пішы, Гануська! Будзь ласкава, бо мне дужа цяжка...») суседзяць празаічныя гаспадарчыя навіны: «Каштана і сівую кабылу я прадаў, кабылу то яшчэ як-небудзь, а што Каштана, то з утратай... Дровы ў лесе засталіся, а тут цяпер і няма на чым вывезці, бо коні ўсе маладыя, а катора сталейша, то та жарабіцца мае...» (12 сакавіка 1899 г.).



*К. Каганец.*
*На ростаньках (туш).*

Пятнаццаць лістоў напісаны К. Каганцом з мінскай турмы. У яго турэмных пісьмах няма ні слова скаргі ці наракання на свой лёс. Больш таго, ён імкнецца развеяць жончын смутак і яе невясёлыя думы, умее падтрымаць у цяжкую хвіліну нястач і гора: «Старайся, галубка, захаваць сваё здароўе, бо яно вельмі дарагое; а тады і мыслі весялейшыя будуць і надзея заяснее... Без надзеі і жыццё — не жыццё» (10 лістапада 1910 г.). У другім месцы ён зноў суцяшае і абнадзейвае яе: «Адно ты, Ганулька, не бядуй!.. Нашай матцы горш прыходзілася, аднак пагадаваліся. Не ў багацтве шчасце, а ў чыстым сумленні. І лепей, што нашы дзецi разумецьмуць, што е гора на свеце; нечага другім будуць спагадаць» (7 мая 1911 г.). Клапатлівы і ўважлівы

бацька — вязень мінскай турэмнай крэпасці — амаль у кожным лісце да жонкі робіць асобныя прыпіскі для дзяцей, пасылае ім свае малюнкі. Яго турбуе вучоба старэйшага сына, меншым дзецям ён наказвае любіць працу, шанаваць маці. Піша К. Каганец пра турэмныя будні, свой штодзённы занятак, рэдкія навіны.



*К. Каганец. Буслы (туш).*

Для нас цікавасць мае і такая вестка пра Якуба Коласа: «...Адзін паэт, што пісаў у «Нашу ніву» і завецца Якуб, тутака» (пачатак жніўня 1910 г.). Скупа паведамляе, што час не марнуе, а займаецца творчай справай: «Маляваць я маляваў усё найболей беларускія тыпы, ажно два малюнкі з турэмнага жыцця, а то нарысаваў 12 рысуначкаў Якубу Коласу да яго твораў» (18 снежня 1910 г.).

Апрача літаратурнай працы аўтар «Моднага шляхцюка» разгортваў актыўную грамадскую і асветніцкую дзейнасць, выступаў як вучоны-мовазнаўца, фальклярыст і этнограф. У 1904—1905 гг. К. Каганец рабіў захады наладзіць выданне беларускай газеты «Палессе», але не атрымаў дазволу царскіх улад. Ён склаў кнігу «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» [1], якую выдала су-

---

[1] «Беларускі лемантар...» выйшаў ананімна, але ў архіве пісьменніка захоўваюцца матэрыялы (рукапісы і малюнкі), якія сведчаць, што аўтарам гэтай кнігі быў К. Каганец.

полка «Загляне сонца і ў наша аконца», па прапанове суполкі рыхтаваў школьную чытанку, збіраў матэрыялы да слоўніка роднай мовы, пісаў беларускую граматыку. К. Каганец быў адным з перакладчыкаў кнігі «Гутаркі аб небе і зямлі» (Пецярбург, 1907).

Рыхтуючы ў 1928 годзе артыкул пра К. Каганца[1], М. Каспяровіч меў магчымасць пазнаёміцца з паперамі пісьменніка, у якіх былі яго запісы беларускай лексікі, народных казак, песень, прымавак і гульняў. Слоўнікавая праца вялася вельмі мэтанакіравана: К. Каганец запісваў сакавітыя ці вартыя ўвагі даследчыка народныя словы (цэд, талька, стрынгаль, карабаты, золкі, петавацъ, верадзіцца, выцяць і г. д.). Занатоўваў ён назвы сваяцтва, уласныя імёны рознага фанетычнага гучання, ласкальныя прыметнікі, займаўся пытаннямі азбукі і правапісу.

К. Каганец быў таленавітым жывапісцам, графікам і скульптарам. Яшчэ ў часе вучобы ў Маскоўскім мастацкім вучылішчы ён выляпіў бюст Івана Грознага. Гэтая ранняя скульптурная работа была вельмі высока ацэнена яго настаўнікамі. Пасля ён вырэзваў з дрэва і слановай косці. К. Каганец пакінуў шмат цікавых малюнкаў тушшу і алоўкам («Маці», «За сахой», «На ростаньках», «Буслы»), рабіў палітычныя карыкатуры, упрыгожваў пейзажамі і рознымі арнаментнымі аздобамі бытавыя рэчы, зрабіў вокладку да кнігі Я. Коласа «Другое чытанне для дзяцей беларусаў». Падрыхтаваў афармленне і да свае кнігі, яна, на жаль, не толькі не выйшла з друку, але і рукапіс яе дзесьці загубіўся...

Максім Багдановіч у вершы, прысвечаным Карусю Каганцу, пісаў:

---

[1] М. Каспяровіч. Карусь Каганец. «Маладняк», 1928, № 10.

Змоўк пясняр, затаіў свае песні,
Ён іх болей ужо не пяе.
Але рвуцца яны, і калісь на прадвесні
Лёд халодны ў душы пад напорам іх трэсне,
І струёй лынуць вершы з яе.

Гэтак часам уходзіць у зямлю крыніца,
Дзесь у нетрах таемна бяжыць,
Але мусіць урэшце на зямлю прабіцца,
Шмат яшчэ па зямлі будзе ліцца-каціцца
І радзімаму краю служыць.

Засталася «радзімаму краю служыць» і спадчына слаўнага сына беларускай зямлі Каруся Каганца. Шчырыя і простыя яго творы, ўпершыню найбольш поўна сабраныя ў гэтай кнізе, раскрываюць прывабны воблік пісьменніка-дэмакрата і актыўнага грамадскага дзеяча, які стаяў ля калыскі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя. Проза, паэзія, драматургія і публіцыстыка Каруся Каганца — гэта своеасаблівае пераходнае звяно ад творчасці Францішка Багушэвіча да лірыкі Янкі Купалы і Якуба Коласа, яшчэ адзін доказ таго, што пасля «Дудкі беларускай» літаратурна-грамадскі працэс, нацыянальна-вызваленчы рух на Беларусі не прыпыняўся ўжо ні на хвілю...

*СЦЯПАН АЛЕКСАНДРОВІЧ*

## ПРЫЛУКІ

Не летась, не залетась, а калісь у старыну, як мы самі сабою яшчэ жылі, тое, што казаціму, было.

У адным месцы абапал Птыча-рэкі высяцца дзве горкі дужа красныя, а пасярод ракі востраў ляжыць. На той гарэ, што па правым беразе, стаяў двор знатнага баярына, іменем Яраслаў.

Дый красен жа той двор быў, увесь у садах, будынкі ўсе спраўныя былі, а ўвакруг тынам белым абведзены; ад двара дый да шляху былі прысады ліповыя.

Быў дзень ясны, харошы, ведама, як у пачатку лета бывае, калі яшчэ лукі зіхацяць кветкамі, птушкі залліваюцца рознымі галасамі, рыба ў рэчцы раз у раз плюхае, разганяючы шырока вакорыну, пчолы і ўсякія мошкі ды казяўкі цэлымі раямі завіхаюцца каля кветак. Дзе ні глянь — усюды жыццё кіпіць, а сам пазіраеш па ўсё гэта неяк радасна.

І вот па прысадах тых, у прыятным прахалодзе, любуючыся прыродаю і самі сабою, прахаджваліся малады баярын Яраслаў са сваёю паняю, маладою жаною, краснаю Люблянаю. Ходзяць яны і цешацца, ажно дарога задудпела, і на ўзмыленым кані паявіўся ўвесь запылены княжны ганец і, сукланіўшыся баярству, павяшчае нядобрую навіну, што вораг рубеж перайшоў і дужа наш край пустошыць і што князь прыказаў усім сваім баярам на вайну, чым дужы, паспяшаць.

Баярын рад чыну даказаць, сабе славы прыдбаць; хутка сабраў сваю дружыну і паехаў.

Спачатку баярын слаў часта ганцоў да любай жонкі, а далей — ні ганцоў, ні самога штось не чутно стала. І затужыла вельмі красна пані Любляна — усё выходзіць на шлях ды ўдаль пазірае, ды ўсё дармо.

Прайшло лета, настала зіма, а любага Яраслава як няма, так і няма. Прыйшла ізноў вясна. Выйшла раз красна Любляна ў канец прысад і як толькі на шлях зірнула, так дужа і зрадзела: бачыць, коціць дружына, а наперад любы вараным канём едзе. Ды нядоўга яе радасць была, бо як той пад'ехаў бліжэй, пазнала, што гэта другі.

Той пад'ехаў, сукланіўся, а яна і думае: «Можа, ён што пра майго ведае?..» Просіць яго к сабе ў харомы спачыць трохі. Той рад, прыстае, ідзе за ёю ў святліцу. Яна, яго за стол пасадзіўшы, гукнула на слугі, сказала прынесці піва, мёду і ўсялякай стравы; стала яго частаваці і яго пытаці пра мужа любага. Той, пагадаўшы, так ёй павядае: «Не хочацца мне табе, красна пані, жалю задаваці, ды мушу... Вото ж бачыш, твой муж, а мой друг сардэчны, быў цяжка ў баі ранены і, уміраючы, кажа мне так: «Слухай, дружа! У мяне е жонка, дужа красная пані, а ты яшчэ не жанаты, так успакой мяне перад смерцю, бо мне скора канец,— пакляніся заступіці ёй маё месца!» Што ж я меў рабіць? Мусіў прысягнуць і цяпер ад прысягі адступіціся мне нельга... Так пані няхай мя выбачыць і будзе прыхільна!»

Тая тое як учула, давай плакаць, галасіць і слухаць яго не хоча.

Плакала яна дзень, плакала другі, а на трэці і

падумала: «І чаго я гэтак плачу?.. Што я тым па-магу?.. Адно лічка сваё красна папсоваю ...» — і на чацвёрты дзень гутарку з ім прыязну павяла, а на пяты — так і жартаваць сталі, а далей і пабраліся.

Прайшло ізноў лета, прайшла зіма, а за зімою — вясна, а за вясною і лета настала. Сядзяць гэта той прыезджы баярын з краснаю Люблянаю, як галубкі ў парачцы, і сабою цешацца ды любуюцца. Ажно разам Любляна як крыкне і, хапіўшыся за сэрца, абамлела. Той — зірк: бачыць — перад ім Яраслаў стаіць...

Хапіліся спярша за шаблі, а далей Яраслаў, адумаўшыся, кажа: «Адзін з нас павінен умерці, дык няхай бог судзіць каму. Вазьмі ты сабе лук і сагайдак з стрэламі і ідзі на гару за рэчку, а я вазьму сабе і стану на гэтай гарэ і будзем страляцца».

Як сказаў, так і ўчынілі: выпусцілі па страле — нічога, выпусцілі па другой — нічога, а па трэцяй як выпусцілі, так абодва аж асунуліся, як два падкошаныя каласочкі.

Тое месца з тых пор «Прылукамі» стала звацца. І цяпер там стаяць мураваныя харомы і ліповыя прысады, і жыве там пан дужа багаты, толькі той пан цяперашні не наш, а прыйшлы з памор'я, але дабраваты сабе.

*1893 г.*

# ПРАМОВА

Гэй, хлопцы, брацця мае, а сыны Зямлі Беларускай, каторая раскінулася ад Гродны да места Смаленска і ад Прыпяці аж на другі бок ракі Дзвіны перакінулася. Кіньце ўвакол вокам, сабярыце харашэнька думкі і скажэце, ці павінна так быць, як цяпер ёсць? Ці справядліва гэта — усяго, што сваё, чурацца: і мовы сваёй, і звычаю свайго, і апраткі сваёй? А ведаеце тое, што мова наша калісь слаўнай была, і быў час, калі наша мова працвітала пры двары каралёў польскіх. Ведайце, што спамеж вас больш, як спамеж другіх народаў славянскіх, слаўных людзей выходзіла даўней і цяпер выходзіць і розумам і ваеннымі заслугамі.

Колькі то вучоных людзей, колькі то слаўных казакоў, ваявод і гетманаў наша зямліца выгадавала?

Адно нядобра, што кожны славу прыносіць не сваёй старонцы, а ўсё чужым. Прымерам кажучы, як той Галубок, просты селянін зямлі Навагрудскай, што са сваёю сотняю казакоў — ці мала славы прыдбаў паляком так, што і песні аб ім складалі. А ў нас? Ці ведае хто яго?

І бяру я гэта ўсё на вум, і здаецца мне, што хутка саўсім загіне наш народ, бо яшчэ за гадоў трыста таму, як паны, так і халопы свае мовы не саромяліся: і гаварылі, і пісалі ўсё па-свойму. Потым мала-памалу паны сталі сваіх звычаяў чурацца, сталі свае парадкі і мову сваю пакідаці ды польскую пераймаці і так, што далей-болей, аж саўсім палякамі сталі. На паноў гледзячы, сталі і сяляне апратку сваю мяняць на нямецкую і мову

калечыць. Нават сваіх спяванак пачынаюць саромяцца, мужыцкімі называюць.

Але не! Наш народ не загіне, і прыйдзе такая часіна, што прачнецца наш русьняк і скажа суседзям так: «Служылі мы вам — заплацеце вы нам! Нам грошай не трэба, бо свайго хопіць хлеба. А скажэце нам толькі: «Беларусы вы!» Вось толькі!

Ды і красна ж бо наша зямліца, усе выгады мае: і скіба ўрадлівая, і лесу багата, і сена аж надта. І рэчак сплаўных многа, а па краёх, як бы ад ворага абгароджана пяском, балотамі ды цёмнымі лясамі. Вось выйдзі толькі дзе-небудзь на гару, пад гай зялёны, ды азірніся на свет божы! Так душа твая і зрадзее.

Бач! уніз аж да рэчкі гара зараснікам пакрыта, уся арэшнікам, чаромхай, каліннікам ды маліннікам зарасла. А чаромха то цвіце няйначай хто пухам лябяжым укрыў, і пах за вёрсты ветрам нясе. А рэчка сама — моў стужка блакітная, між верб ды альшын ветрам раскінутая. А за рэчкай лука аж зіхаціць кветкамі. А далей за лукай поле зелянее. А ўвакол усяго цёмны лес сінее. Глянь улева — панскі двор бялее, і таполі тырчаць, моў на старожы стаяць; а ўправа сяло ціха лягло, поўз раку на беразе. У сады прыбрана яно, а ў сяле хлопцы, як дубкі, а дзяўчаты, як ягадкі. Пазіраеш на ўсё гэта, і штось за сэрца шчэміць, і грудзі шырака раздымае, і ляцеў бы, здаецца, над палямі, над лугамі, па-над лесам сінім...

І на гэтай нашай зямлі спрадвеку нашы дзядыпрадзяды жылі, каторыя не раз грэкамі, немцамі і рымлянамі траслі. А мы?..

Мы — не знаем, хто мы такія...

*1893 г., в. Лісі Норы, Мінск. губ. і пав.*

## НАВАСАДСКАЕ ЗАМЧЫШЧА

Над рэчкаю, над Слаўкаю, недалёка святога месца Студзянца, дзе з-пад дарогі на гары вада цудоўная выліваецца і спадае ў яр глыбокі, а ярам у Слаўку цячэ, а Слаўка па каменнях шапоча,— стаіць княскае гарадзішча.

Высокія берагі Слаўкі парасталі ўсякім лесам: раслі там і дубы магучыя, і светлыя ясені, і клёны, і альшыны, і асіны, і бярэзіны касатыя, і бразгаліны касцястыя, і чаромхі пахучыя,— ды многа ўсяго было.

Над усім гэтым западала ночка цёмная. Неба было засуплена чорнымі хмарамі, а вецер сярдзіты раз-паразу зрываўся і з шумам і свістам пралятаў над гарамі, над лясамі і над тым гарадзішчам, маўляў, штось нядобрае павяшчаў.

Усе ў гарадзішчы ў тым спалі. Спалі і ў месце, што ляжала ў кліну між Слаўкай і Ус-рэкай. Адна толькі душа ў гарадзішчы не спіць: паволі ўсё ходзіць і, знаць, думу цяжкую думае, бо аж пот на белым лобе выступае перлістымі кроплямі.

А хто гэта ходзіць, як не княжна, слаўная красою і багацтвамі сваімі? І ростам высока, і ліцом красна, хоць не так-то ўжо і малада. І грудзі яе поўныя высока падымаюцца, і вочы карыя аж у цемнаце свецяцца, а буйныя косы вецер па воздусе трэпле.

Ходзіць княжна гордаю ступою, ды на сэрцы яе, знаць, невясёла, бо ўсё то рукі заламае, то вяла іх апусціць, то ўздыхне цяжка, як канаючы, то абедуч галаву сцісне; то, быццам на штось адважыў-

шыся, вочы падыме і ўдаль смялей гляне і заходзіць байчэйшаю ступою, а праз момант ізноў яе сэрца зойдзецца, і рукі павіснуць, і вочы затуманяцца, і ногі як бы падкашывацца стануць. Ды вось яна канцом на штось адважылася. Пайшла хуткаю ступою ў гарадзішча, чэлядзь сваю будзіць, усе багацтвы свае прыказвае збіраці і што дарожшае, то ў скрыню кавануло кладзе, а што меней вартае, тое чэлядзі раздае. Сабраўшы ўсё і спакаваўшы, скрыню зачыніла на тры замкі, а ключы на залаты паясок нанізала і туга ім падпяразалася. Тады, сеўшы на скрыню, горка заплакала:

— Няма ў мяне ні шчасця, ні долі, ні вернага друга, няма мне з кім дзяліцца ні сваею красою, ні каханнем, ні багацтвам вялікім, а моладасць мая ўцякае, лічка маё бела пажаўцела, грудкі мае поўныя сталі вянуць, вочкі карыя — ліняці, буйныя косы — выпадаці, а сэрца маё стала заміраці... Няхай жа, калі так, я згіну і ўсё са мной: і думкі мае, і каханне маё, і жаданне, і краса, і багацтвы мае, бо так сіратліва жыці не пад сілу мне!..

І загадала сваім служкам прывязаці сябе да скрыні і кінуць у студню дужа глыбокую і поўну вады, што ў тым гарадзішчы на дварэ была. Загудзела, зараўла навальніца з неба з громам, з градам, з пярунамі ды маланкамі, а прайшла навальніца, і краснай княжны не стала... Кінулі яе верныя служкі ў студню глыбокую, і апусцела зараз тое гарадзішча, а после і саўсім яго не стала. Толькі гара з валам ды студняй, поўнай камення, тое месца азначае. Скора вораг люты сюды найшоў, людзей павыразаў, хаты з зямлёю зраўнаваў, а тое месца, дзе места было, людзі Рэзанамі празвалі.

Каму ж з таго месца бог судзіў жывым астацца, тыя трохі аддаль на гары, над крыніцамі, пабудаваліся насупроціў таго ж гарадзішча і Студзянца і празвалі сваё новае селішча «Навасадамі».

*1898 г.*

## АДКУЛЬ ЗЯЗЮЛЯ ЎЗЯЛАСЯ?

*(з народнага апавядання з-пад Нёмну)*

Калісь праз вякі, у нашым краю, жыў багаты земянін,— Властам яго звалі, і меў ён тры дачкі: Мляву, Здану і Зязюлю, як кветкі красны, ладны, як птушкі, але крашча за ўсіх, то Зязюля была. За гэта завідушча Млява процiў Зязюлі зло на вуме мела.

Раз, пад вечар, пасля спякоты, прыбягае Млява да сясцёр і кажа:

— Сястрычкі, кветачкі, пойдзема на возера купацца!

Тыя, вядома, як дзяўчата,— рады падурэць, кінуліcь навыперадкі. Зязюля апярэдзіла ўсіх, бо спраўнейшая была; за ёю і Здана пабегла.

Кінуўшы вопраткі на беразе, паскакалі ў воду і давай пляскацца, а Млява, тым часам, спраўне ўвінулася: вопратку Зязюльчыну скраўшы, патапіла ў возера і сама, як бы нічога не ведаючы, палезла купацца.

Купаюцца гэта яны, ажно загрымела — зірк! — бура, навальніца надходзіць.

— Сястрыцы, уцякайма! — крычыць Млява і, не чакаючы другіх, схапіўшы вопратку, духам дамоў. За ёю і Здана паджгала. А Зязюля ходзіць па беразе, рукі ломіць, усё вопраткі шукае, шукае ды глядзіць. А вецер то свішча, а на неба аж страх глянуць: хмары з рэхатам адна на другую пруцца, барукаюцца, варочаюцца,— няйнача, як у гаршку. Ходзіць Зязюля галосячы — зірк! — з-за куста паніч выходзіць — красен, што крашчага ў свеце не знайсці, і вопратку Зязюльчыну ў руках трымае.

Зязюлька хацела ўцякаці, але, глянуўшы яму ў вочы, стала, як прыкована, і глядзіць, вачэй адвесці не можа; штось да яго цягне, а сэрца, як бы чым цёплым аблілося, а яшчэ як загаварыў, так Зязюля не вытрымала дый кінулася яму на шыю. І забраў той закляты княжыч Зязюлю да сябе ў крыштальныя палацы, у возера.

Жывуць яны ў шчасці, што лепшага і не згадаць, год, другі і трэці, а далей — згадала Зязюля бацькоў, і захацелася ёй праведаць іх, і просіць мужа:

— Саколе мой ясны, пусці мяне дадому збегаць, бацьку ды маці пацешыць!

Той хоць нехаця, але пазволіў і кажа:

— Глядзі, Зязюля, не баўся, перад ноччу назад вяртайся, і як прыйдзеш на бераг, то клікні тройчы: «Якуб!» — і выплыве вуж вялізны, а ты не лякайся яго, бо то я буду і забяру ця!

Прыйшла гэта Зязюля к бацькам, а тыя рады,— не знаюць, як яе прыймаці: на кут пасадзіўшы, белым пірагом ды салодкім мёдам трактавалі. А Млява, гледзячы на тое, яшчэ горш зло бярэ. Як толькі маці з Зязюляю засталіся самі ўдзвёх, стала маці пытаціся, дзе яна жыве, як і з кім, як яго зваці. Тая, бедная, вядома, як матцы, і выказала ўсё, і таго не ведала, што Млява пад дзвярыма ўсё чуе і на вум бярэ. Прагаварылі так да вечара і не агледзеліся, як стала цямнець. Тады бачыць Млява, што Зязюля да мужа збіраецца, сама, узяўшы тапор, чым дужа на бераг і кліча:

— Якуб! Якуб! Якуб!

Ён, небарака, не распазнаўшы голаса, выплыў, а яна як трэсне тапаром яго па галаве, так напал і рассекла, а сама наўцёкі. Счакаўшы крыху, пры-

бягае і Зязюля, але, знаць, сэрцам чуе нядолю, бо і губы пабялелі і ручкі чагось трасуцца, а сэрца аж здалёк чуваць, як калоціцца. Стала на беразе і кліча:

— Якуб! Якуб! Якуб!

І жаласць бярэ яе вялікая... З той вялікай жаласці зрабілася яна птушачкай, і ляціць Зязюля на вярбу, з вярбы ў лес, і так з дрэва на дрэва ляціць і кліча:

— Якуб! Якуб! Якуб!

## ВІТАЎКА

Хто не знае станцыі Хванізаль, першай ад Мінску на дарозе на Бярэсце? А каля станцыі і двор таго ж наймення стаіць. Насупроць таго двара, праз балоты і рэчку Хамычку, стаіць дзервяная цэрква, нізкая і шырокая, рубленая на квадрат. Стаіць гэтая цэрква пагразшы ў балоце, і толькі па кладкам да яе ходзяць. І дзіву чалавек даецца, што гэта собіла людзям у такім мейсцы цэркву будаваць.

Вота ж паслухайце, што старыя людзі гавораць.

Тут, дзе цэрква цяпер стаіць, колісь быў груд, а на тым грудзе стаяў двор дужа багатага баярына, на імя Віт. Жыў той Віт па праўдзе, у веры, і бог быў на яго дужа ласкаў. Вота ж пайшла трывога вялікая, што швед у наш край наехаў і горш усякага татарына грабіць і пустошыць, а над народам здзекуецца. Віт быў удавец і меў адну дачку, вельмі красную панну. Вітаў двор быў прыродаю забяспечан ад ворага: спераду непраходным балотам, што і цяпер цягнецца абапал рэчкі Хамычкі, хоць шмат ужо сушэйшае, як за тыя часы: а за балотам і за дваром цягнуліся бясконцыя, адвечныя лясы,— тая старана і цяпер пушчаю завецца. Віт з дачкою, гэта цямячы, а прытым, як людзі набожныя, на бога надзею пакладаючы, былі спакойны ў сваім двар. Але, знаць, слава пра яго багацце далёка ішла.

Аднак гэтак ночы, калі ў дварэ ўсе крэпка спалі, спаў і сам баярын Віт, спала і красная яго дачка. Чуе гэта Віт праз сон зычны голас: «Віце, Віце! Устань і выстралі!» Віт прахапіўся, аж нідзе

нічога не чуваць. Ён ізноў стаў засыпаць ды ізноў чуе: «Віце, Віце! Устань і выстралі!» Ён і на гэты раз прахапіўшыся і нідзе нічога не бачачы і не чуючы,— стаў драмаць ды зноў чуе: «Віце, Віце! Устань і выстралі!» Тагды ён ужо мусіў устаць і, узяўшы стрэльбу, выйшаў на перамёт і бачыць, што шведы ўжо гаспадараць у яго на дварэ. Ён, тое ўбачыўшы, дужа спалохаўся, і як трымаў стрэльбу, так і выстраліў на вецер, а сам пабег у пакоі дачку будзіць. Толькі пабудзіў,— чуюць на дварэ якісь голас падняўся. А калі яны выйшлі паглядзець, бачаць — шведы ў вялікай замешцы хочуць з двара ўцячы ды, не папаўшы ў вароты, ціснуцца на платы, душацца, калечацца, а каторым і ўдалося з двара выбрацца, тыя, чуваць, ратунку крычаць, папаўшы ў балота або ў рэчку. Так да раніцы ніводнага з тых шведаў жывога не засталося, бо, паслепшы воляю божаю ад Вітавага стрэлу, усе пагінулі, каторыя ў дварэ падушыліся, каторыя ў рэчцы і балоце патапіліся, а каторыя патрапілі ў лес, тых звер люты парэзаў.

Вот на тую памяць, што бог яго ад шведскай рукі захаваў, паставіў ён сярод свайго двара цэркву мураваную і вельмі яе ўкрасіў.

Жывуць так Віт з сваёю дачкою, краснаю паннаю, ізноў у дастатку і супакоі. Адно нячыстая сіла не дрэмле, і пакусы вялікую сілу маюць. І ўпаў наш баярын у вялікі грэх, так што зямля нават здрыганулася. І аступіўся той узгорак, на каторым двор стаяў, і рынуліся мураваныя палацы і пахавалі пад сабою грэшнага баярына. Дачка ж таго баярына зышла дзесь у далёкі манастыр і там веку даканала. Чэлядзь па свету разышлася, а двор той штораз болей і болей стаў у балота пагрузаць

і аднае ночы саўсім затануў. Толькі на тым мейсцы, дзе цэрква стаяла, людзі расяцце знайшлі. Потым паставілі на тым мейсцы цэркаў дзераўляную і тое распяцце ў ёй паставілі. І праславілася тое распяцце цудамі рознымі, і ўсякі год на Уздзвіжанне збіраецца там шмат багамольцаў з усіх канцоў нашае зямлі. Завецца тое мейсца В і т а ў к а, або Вітавец. Там і цяпер у балоце можна абмацаць кавалкі муру.

*1902 г.*

## ЗАСУЛЬСКІЯ ТУРЭ

Ёсць у нашым краю сяло Засулле, а каля таго сяла, на краю баханскага балота, ляжаць тры вялізныя каменні, што Турамі завуцца. Два з іх большыя ляжаць поплеч, як два пірагі зліпшыся, а трэці меншы, круглы, як баханок, ззаду паміж пірагоў паложаны.

Вота ж, як старыя людзі павядаюць, гэтыя каменні калісь-то людзьмі былі такімі, як і мы. Гэта было яшчэ тады, як наш край у пагапстве быў, а толькі чутка хадзіла, што ад Кіева нека новая вера разыходзіцца і штораз далей і далей па гарадах, сёлах і сялібах пашыраецца. І ад гэтае чуткі страшна людзям станавілася. Баяліся новае веры, як заразы якой.

Людзі зыходзіліся ў святыя дубровы ды гаі, там раіліся і прыносілі ахвяры багам, каб уласкавіць і ўпрасіць аб помачы процiў насуваючай з поўдня страшнае навіны.

Вот у адным сяле пад Сулаю разышоўся пагавор, што да аднаго гаспадара, каторы жыве за сялом на адзіноце і Турам празываецца, па начах прабіраецца нейкі невядомы чалавек з вялікаю барадою, з доўгімі валасамі, павучае гаспадара таго новай веры. Сталі сяляне падглядаць, і дзе каторыя з іх бачылі, як невядомы з гаспадаром, з гаспадыняй і з малымі іх сынамі кланяліся нейкім рагачам. Сталі прызірацца да гэтых рагачоў і дагледзелі, што яны пароблены з залезных шынаў, зложаны накрыж.

Тых крыжоў налічылі тры: адзін вялікі пасярэдзіне, а два малыя абапал яго. Сабралі сход і

ўраілі, каб сям'ю і сялібу тых Тураў знішчыць дазвання, каб і следу не было.

Аднэй гэтак раніцай запрагае той апрычны гаспадар валы араць ехаць, ажно бачыць: з сяла народ да яго валіць — хто з сякераю, хто з пілою, хто з насекаю, а хто проста з кіем. Сцяміў ён бяду неміпучую. Кінуўся ў хату, разбудзіў жонку і сына, сам узяў вялікі крыж, а ім даў па маломy і чым дужы ў лес. Сяляне тое як забачылі,— зараўлі ад злосці ды кінуліся ўдагонку. Турэ тыя ўцякалі на ўсю моц, ажно разам спыніліся, бо прыбеглі к вялікаму непраходнаму балоту. І апанаваў іх вялікі страх, ды кажуць яны:

— Што мы з новае веры скарысталі? Бадай мы той час лепш каменнямі сталі, як малі яе пазнаваць!

Тады бог і перакінуў іх за гэта ў каменне. Прыбягаюць людзі ўслед за імі — аж нідзе нікагутка, адно тры каменні ляжаць.

— Вот табе і нашы Турэ! — кажуць сяляне, апусціўшы рукі.

Турамі завуцца тыя каменні і цяпер, а крыжы пазнаходзілі ў зямлі ўжо за нашых часоў. Яшчэ гадоў дваццаць таму жылі тыя людзі, што з тых крыжоў нарогі (лемяшы) рабілі.

*1902 г.*

## ХАЛЕРА 40-га РОКУ

Настала лета саракавога року, і страх вялікі агарнуў людзей, бо як з-пад Менску, так з-пад Койданава і з-пад Радашковіч і адусюль наўкруг чутно было, што халера людзей коціць. Людзі нідзе не выязджалі, ніхто і ў нашу старану не заглядаў. Усе сталі неяк невясёлы, але пакуль што ў нас, каля Волмы, ніхто не захварэў.

У адну так нядзельку святую бог даў раніцу вельмі красную. Якраз зачалася касьба, і месцамі свежанькае сена стаяла ўжо ў копах. Ранні свежы воздух быў насякшы пахамі новага сена і красак яшчэ някошанай сенажаці. Сонца паволі вылынала з-за далёкага лесу і адбівалася ў расінках, на ўсялякіх кветках аганькамі. Пакоша выглядала, як усыпаная дарагімі каменнямі. Пастушкі выгналі сваю гавядку, каторая са смакам скубла чуць паадскакваўшую сочную травіцу. Так усё было хараша, весела,— здаецца, і не падумаў бы аб якім няшчасці. Тым часам старэйшыя штось як бы чулі. Усякі, каго ні сустрэнеш, ідзе нейкі насуплены і слова не пракажа. А калі запытаеш ці завядзеш гутарку, дык адказваюць нехаця, як бы баючыся большай размовы, ды кожны ідзе па сваёй справе.

Пасуць пастушкі сваю скацінку на свежай пакошы,— аж бачаць, як з дарогі ідзе якаясь баба, уся мокрая да руба. Прыйшла яна да аднае капіцы і лягла пад сена. Пастушкі, вядома, блазнота, падшывальцы,— абступілі яе здалёк, няйначай птушкі саву або варанне арла, але блізка падысці баяліся, хоць і дужа цікавасць брала. Гэтак стоячы, давай яны шпурляць у яе чым папала: хто пакалкам, хто

грудкаю, хто каменьчыкам. І так ёй не давалі супакою амаль ні да поўдня, хоць тая і прасілася і малілася, каб далі ёй сапачыць крыху. А далей не вытрывала дый кажа:

— Чакайце, калі так. Папомніце вы мяне! — ды выйшла ім з вачэй. А з гэтага дня ў нашым сяле стала халера людзей каціць з канца ў канец. Мала хто жыў застаўся.

* * *

Была ўжо сярэдзіна лета. Пагода стаяла харошая. Буйнае жыцейка выспела як мае быць і хіліла свой поўны колас да зямлі, адно жаць яго неяк не хапаліся. Усе хадзілі, як патручаныя, бо халера стала ўжо і ў наша сяло заглядаць, а пра суседняе, то й казаць нечага,— там мала хто жыў застаўся. Толькі на адну ніўку пад лесам выйшла жонка і стала жаці.

Не нажала яна яшчэ двух снапоў, як выйшла з лесу нейкая дзяўчына ўся ў белым і сама белая, як малако, ды прытым такі дужа прыгожая. Тую жонку паняволі якісь ляк узяў.

Падышла белая дзяўчына з сярпом і, заняўшы постаць пры той жанчыне, давай жаць і снапы вязаць,— усё як мае быць. І гэта робіць яна ўсё моўчкі, а жонка гэтаксама баіцца да яе загаварыць, толькі дзівіцца на яе раз ад разу. Так жнуць, завіхаюцца, покі не прыйшла пара палуднаваць. Жанчына адважылася ды кажа:

— Я схаджу дамоў папалудную,— можа, табе чаго прынесці?

— Шклянку малака, калі ласка,— больш нічога,— сказала тая і давай зноў завіхацца. Жанчына,

папалуднаваўшы, прынесла той дзяўчыне шклянку малака, а тая выпіла, падзякавала,— ды сталі зноў жаць і маўчаць.

Жнуць так моўчкі, завіхаюцца,— і вечар ужо блізка. Тая дзяўчына паглядзела-паглядзела ў лес ды кажа:

— Зараз, зараз іду.

А сказаўшы, зноў пачала жаць. Жанчына вума ні дабярэ, што яно такое. Чуе — крача, глянула — крумкач ляціць з-за лесу. Дзяўчына абярнулася да яго і кажа:

— Зараз, зараз іду, адно сноп дажну.

Гэта, кажа, мой брат мяне на вяселле кліча.

Як дажала сноп, звязала яго як трэба ды пайшла сабе ізноў у лес, як прыйшла.

З таго часу халера стала сціхаць, сціхаць і заціхла.

*1902 г.*

## ЧЫМ БОЛЕЙ ХТО МАЕ, ТЫМ БОЛЕЙ ЖАДАЕ, АБО АДКУЛЬ МЯДЗВЕДЗІ НА СВЕТ УЗЯЛІСЯ

Жыў сабе чалавек бедны ўдваіх з жонкаю. Паехаў гэта ён у лес па дровы і, аблюбаваўшы старую ліпу, прыгатаваўся сячы яе. Але як толькі сякануў у ліпу, дык ліпа і загаварыла:

— Чаго табе трэба? — пытае. Мужык азірнуўся сюды-туды ды ізноў стаў секці.

— Чаго табе трэба? — пытае ізноў ліпа.

Мужык тагды, дужа спалохаўшыся, чым дуж на сані ды наўцёкі дадому. Расказаў ён гэта жонцы, а жонка як накінецца на яго: «Сякі-такі, ты дурны! Чаму ты не сказаў чаго нам трэба?» — «А чаго ж нам трэба?» — запытаў мужык. «Едзь і скажы, каб ты быў панам, я паняю». Той хоць нехаця, але паехаў. Прыехаў у лес, падышоў да ліпы дый стук у яе сякераю. «Чаго табе трэба?» — пытае ліпа. «Каб я быў панам, а мая жонка паняю»,— кажа той са страхам. «Едзь дамоў!» — кажа ліпа. Мужык паехаў і скора панам стаў. Жывуць яны часу колькі, а далей падумала баба, што калі маглі стацца панамі, то маглі б стацца і чым большым. Кліча яна мужа і кажа: «Едзь ты, мой дзядулька, да ліпы і скажы, каб ты быў ваяводаю, а я ваяводзіхаю». Той, прыехаўшы ў лес, стук у ліпу. «Чаго табе трэба?» — «Каб я быў ваяводаю, а мая баба ваяводзіхаю».— «Едзь дадому!» Прыехаў — так яго зараз і ваяводаю зрабілі. Пажылі так трохі, и баба і кажа: «Дурны ты, дзядулька! Чаму адразу не сказаў, каб ты быў князем, а я княгіняю?!» Паехаў мужык ізноў у лес ды стук у ліпу. «Чаго табе трэба?» — пытае. «Каб я быў князем, мая баба княгі-

няю».— «Едзь дамоў!» Так скора і князем зрабілі. А баба і кажа раз: «Чаму гэта мы не дагадаліся ў цары папрасіцца! Нечага б тагды нікому не кланяліся. Паедзь ты яшчэ ў лес!»

Той, прыехаўшы, стук у ліпу. «Чаго табе трэба?» — «Каб я быў царом, а мая баба царыцаю».— «Едзь дамоў». Стаў скора і царом. Але бабе ўсё мала, і кажа: «Слухай, дзядулечка! Купіў — не купіў, а патаргавацца можна. Папрасі ты ў ліпы, каб ты быў богам, а я бажыцаю, бо ўсё ж такі хоць і царом, а паміраць трэба будзе, а багом, дык ніколі». Яшчэ паехаў ды стук у ліпу. «Чаго табе трэба?» — «Каб я быў богам, а мая баба бажыцаю!»

«Вота ж ідзі ты мядзведзем, а твая баба — мядзведзіцаю!» Пайшоў ён да воза, каб дадому ехаць, а конь як убачыў яго, ды як пусціцца наўцёкі, так толькі яго і бачыў. Нечага рабіць, пайшоў пехатою. Толькі на нагах іці яму штось няспраўна паказалася, усё як бы да зямлі клоніць. Ён паспытаў ракам іці, аж шмат лепей, і пайшоў ён так, аж бачыць: звер ідзе к яму насустрач, а падышоўшы бліжэй, пазнаў сваю бабу. Тагды, зароўшы з жалю, пайшлі яны ў лес на векі вечныя.

*1902 г.*

# ТАКАЯ ДОЛЯ

На краю лесу ліставога, падшытага арэшнікам і падтыканага старымі развесістымі хвоямі, на мяккай, зіхацячай усялякімі праскамі траве ляжаў дзяцюк. Гадоў з васемнаццаць яму было. А недалёчка ад яго пасвіўся конь буланы.

Ляжаў той хлапчына чарнявы, залажыўшы рукі пад галаву, і, відаць, добра яму так было, бо вочы яго карыя неяк весела глядзелі то на воблачкі белыя, каторых лёгкі цёплы ветрык гнаў кудысь па чыстаму сіняму небу, то на расінкі, вісячыя на лістах і мігаючыя рознымі аганькамі, каторых сонейка, нядаўна выглянуўшае з-за лесу, яшчэ не ўспела асушыці. Часам наслуховываў, як бы стараючыся распазнаці птушачыя галасы, ды гэта яму пэўне не ўдавалася, бо ў такіх лясах усякая твар божая любіць прыбываці, а несчыслёныя птушачыя галасы з зыкам усялякіх мошак да казявак зліваліся ў адну музыку, катора чаруе, так сказаць, людзей, а катору так мала знаюць гарадскія.

Ды, відаць, незаўсёды яму так добра бывае, бо на худых яго руках жылы, знаць, ад працы былі пабрыняўшы і босыя ногі яго былі патрэскаўшыся і, як кара, выглядалі; валасы, знаць, даўно нячэсаны, былі зблытаны; світына, знаць, калісь белая, цяпер шэра і абтрэпана; кашуля зрэбная, хоць, знаць, дзеля свята далі яму чыстую; парціны — гэтак жа сама.

Але вось яго чорнае аблічча чагось засупілася,— знаць, нагадаў аб сваёй цяжкай долі. Ды яно такі падумаць! Як яму будзе, як лета пройдзе? Ён, знаць, сірата, служыць парабкам за быля што ў

мала што багатшага ад сябе і, знаць, не саўсім здаровага гаспадара. Гэта відаць па кані і па тым, што парабка трымае.

Лета яшчэ сяк-так, хоць і працуе, можа, і цяжэй, як другой парою, ды затое на свеце цёпла і хоць у нядзельку ды ў свята мае аддышку каня пасучы. А прыйдуць — холад, зіма, мяцеліца... Тады што яму дадуць апрануць? Прыбавяць да цяперашняй вопраткі дзіраву паношану кажушыну і лапці падплятаныя.

А і ён мог бы меці свой кавалак зямлі, хоць невялікі, з паўчвэрці, а ўсё ж свая... Ды ўсё суды нашы валасныя... Было двох братоў на чвэртцы зямлі. Меншага здалі ў салдаты, а старшы застаўся на гаспадарцы. Вярнуўся меншы з маскалёў, застаўся ў двор за фурмана. Там пазнаўся з пакаёўкаю, ажаніўся і, прыдбаўшы двое дзетак, сам богу душу аддаў. Тады ўдаве дзе дзецца? Стала ў дзевера зямлі даходзіць. Дзевер не дае. Пайшлі ў суд. Дзевер суддзяў загадзіў, бо меў чым, а яна не здагадалася нават паноў папрасіці, каб з членам перагаварылі. Пайшла да члена у горад,— дзевер першы дапаў, завёз гладышык масла, кадобчык мёду, з паўкапы яец і парасят са трое. Член ёй нагаварыў такога, што і сам, пэўне, не разабраў. А ў канец канцоў прыйшло з прысуцтва ў воласць, каб перасудзіць нанава. Перасудзілі, далі ёй месца на хату, кавалак агароду, як старой бабе сесці, агароду — і ўсё па ўсім. Яна ў двары выпрасіла за мужавы заслугі верхаўя на хату; людзі добрыя за пачастунак і за добрае слова хату зрабілі. Сяк-так пазычыла ў суседа на адработак грошай рублёў з дзесяць, і за гэтыя грошы накрыла, а заміж сенцаў прыставіла будку з лапак... І стала там жыць з ма-

ленькай дачушкай і на хлеб зарабляці: улетку — полівам, грэблівам, жнівом, а зімою — прадзівам. А старшага сына аддала ў людзі.

І вот гэты хлопец ужо і лет дарос, а ўсё служыць у таго ж гаспадара. І ляжыць цяпер на краю лесу, каня пасе, і думае ды гадае. А ён думаць умее...

*1902 г., ліпень*

## ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА ПЕРАЖЫТКІ ПАГАНСТВА Ў БЕЛАРУСАЎ

Пан Сліжань няхай мне выбачае, што я, прачытаўшы ў № 88 «Северо-Западного края» яго «Два слова о пережитках поганства у белорусов», асмелюся яму трохі папярэчыць. Пан Сліжань піша, што ў беларусаў астаткі паганства неяк няясны, туманныя; што ў расіян і маларусаў яны шмат жывейшыя. А я скажу, што ў ніводнага народа хрысціянскага не захавалася так многа, так жывых і ясных слядоў паганства. Беларус хоч хрысціянін і набожны, а між тым ён напалавіну паганец, бо спаўняе верна ўсе абрады паганскія...

Вото ж я пану аб'ясню тое, што ведаў, будучы яшчэ малым пастушком...

Нашы каровы сталі мала малака даваць. Знаць, ведзьма прычапілася. Вот нас пастушкоў колькі, бо ў нашай вёсцы згоннага не было, а ўсякі сам сваё пасвіў, сабраліся гэта мы і ўраклі, каб на Купалле ведзьму вызваць і прымусіць яе, каб малако аддала. Вот настаў дзень Купалля; мы, пасучы, цэлы дзень шукалі па полі зубоў ад бараны, а як толькі сонца стала заходзіць, пусцілі мы быдла дадому адно, а самі, пабіўшы зубы каменем, наклалі з іх агню, узяўшы для смеласці пугі ў рукі, давай ведзьму чакаць. Адно, ведама, малыя, як толькі ведзьму ўбачылі, так чым душы ў ногі.

На левай руцэ ў мяне было бародавак, як асыпана... Пайшоў я па захадзе сонца ў лес, знайшоў тое, чаго шукаў, пацёр гэтым бародаўкі і, кінуўшы тое на месца, пайшоў дадому, не азіраючыся, хоч дужа манулася азірнуцца, а праз дзён колькі рука чыста стала, і сам я не цямлю, куды бародаўкі па-

дзяваліся. Балелі мне зубы... Я стаў на маладзіку загаварваць, і сціхлі зубы, толькі каторы нездаровы — так возьме і выкрышыцца без болю.

Калі хто хоча пазнаці тую ведзьму, што ў яго каровы малако адбірае, так няхай на Купалле папільнуе каля аборы і як будзе паўзці вараповіца, то няхай зловіць і адсячэ ён лапу, а назаўтра ў той ведзьмы будзе тая нага або рука абвязана, каторую лапу вараповіцы адсек.

А што такое каляды? Каляды ё гаспадарскае свята «Ляды». Пад час таго свята людзі завяраюць новыя... умовы з чэляддзю. Калядамі няможна ні сукаць, ні круціць, ні плесці, бо будзе жывёла раджацца з крывымі нагамі або нядошлая якая. А калі часам так выпадзе, што мусіш што-небудзь сплесці ці закруціць, то вазьмі рассячы перавітку ў плоце, так не будзе шкодзіць.

Далей: Грамніцы, Саракі і Хрэсцы. У адно з гэтых святак, толькі не помню ў каторае, уся нечысць хаваецца ў пекла, і людзям не шкодзіць аж да Купалля. Потым — свята Валосся. Гэта быдлячае свята «воласа»: у гэты дзень скаціне не робяць.

Свята вясны прыпадае на Юр'е. Тады дзяўчата ідуць на расу і там куляюцца, каб былі ўвесь час харошы, здаровы і свежы, як вешняя расіца; а гаспадарэ таго дня ідуць у поле з гарэлкаю, кладуць там агні, пякуць сала і яешню і там спажываюць.

Беларус хоч і памрэ, та ўсё пра сваю сям'ю не забывае і часта прыходзіць яе праведаць. Жывыя такаж помняць змерлых і рады ўсім з імі падзяліцца, чы радасцю, чы горам. І вот пройдзе цяжкая зіма, беларусы рады вясне, ідуць на радаўніцу, на могліцы падзяліцца з нябожчыкамі сваёй радасцю.

Настане граная нядзеля... Русалкі да гэтага часу павыходзяць з вады ў лес, а далей у жыта: адно да Купалля яны трымаюцца купамі, а па Купаллі розна рассыпаюцца па лесе і толькі ў патрэбе склікаюцца. Дзяўчата ходзяць у лес завіваць вянкі і дружыцца з русалкамі, каб яны іх не палохалі і не ласкаталі хлопцаў.

Праходзіць радасна вясна, наступае гарачае лета; тут людзі святкуюць Купалле,— свята сонца, дзень прашчэння. Усё ў гэты дзень заварушыцца: і людзі, і жывёла ўсякая, і дрэва, і былінка найменша, і камень і той нават; нечысць усякая вылазіць з пекла і начынае людзям усяк шкодзіць; для людзей зачынаецца цяжкая праца, бо трэба чыніць запасы на зіму і вальчыць з нячыстаю сілаю, і дзеля гэтага голас купальных песень нявесел.

Далей, свята Роя — апякуна пчол. Настане дзень дажджа,— гэта Ілья, русалкі сходзяць з лясоў у ваду; толькі іх цяпер трудна ўбачыць, не так, як вясною, у месячную ноч, калі яны ў тумане над вадою ўсяк выкручываюцца. Хіба часам хто прыцікуе, як на беразе касу чэша...

У дзень святога спаса прыпадае свята Спарыша.

Потым людзі пазбіраюць усё з поля. Беларус чуе ў сэрцы якусь радасць, гледзячы на поўныя гумны і адрыны, і вот спяшыць ён падзяліцца сваім дабром і радасцю з душачкамі змерлых. Гэта «дзяды». Толькі на дзяды людзі не ідуць на могліцы, а змерлыя прыходзяць к ім у госці ў хату.

Гэта я толькі збольшага апісаў, бо шмат чаго забыў, а то і саўсім не знаў; а е такія беларусы, што ўсё знаюць і гутарку ўсякую цямяць не толькі людскую, а ўсякага тварэння божага.

*1902 г.*

## БУТРЫМАВА ПРЫГОДА

У Засуллі ў сяле, што абапал рэчкі дзвюма вёскамі раскінулася, быў гаспадар, Бутрымам празываўся. Тады ён быў яшчэ малады, гадоў колькі як жанаты, ды любіў часам загуляці.

Што буду гаварыць, то не выдумка якая, на то сама жонка яго, Марцэля, будучы ўжо ўдавою, клялася ды бажылася.

Зышоўся гэта той Бутрым са сваім кумам у Мэндалевай карчме, павялі гутарку пра сёе-тое і згадалі пра грошы.

— Ведаеш,— кажа Бутрымаў кум,— дзе нам грошай узяці?

— А дзе? — пытае Бутрым.

— А ў панскім лесе... Я ўчора нагледзеў на Папоўшчыне, каля балота, брускі ляжаць. Дык ты пайдзі, запражы вала ды едзь пад Туры, а я там чакаціму цябе. А там узложыш адзін і ў Стоўбцы... Вот і будзе які рубель...

Як параіў, так і зрабілі. Бутрым запрог вала. Прыехалі пад брусcе, узлажылі адзін на воз і паехалі. Не праехалі яны і дзвюх вёрст, як валы чагось утарапіліся. Калі глядзяць — ажно на дарогу чалавек выходзіць. Яны дужа спалохаліся, бо думалі, што хтось са двара. Адно, прыгледзеўшыся, пазналі, што гэта хтось чужы: у кароткім сурдуціку, у вузенькіх штоніках, у капелюшы і, залажыўшы рукі назад, як бы кійком памахівае. Сказаць пан — не пан, бо на пана затонкі; жыд — дык у жыда полы доўгі, а не кацап — хоць з барадою, бо ў капелюшы і дужа падхірысты... Адным словам, хтось такі незнаёмы. А каб яны лепей прыгледзелі-

ся, то б убачылі, што гэта ззаду ў яго не кіёк, а хвост касматы, а ён адно для віду, рукі залажыўшы, яго прыдзержывае, і што з-пад капелюша рожкі невялічкія тырчаць. Ды ім гэта няўцямкі было.

— Куды гэта, людцы, едзеце? — пытае той ягомасць.

— У Стоўбцы, паночку,— кажуць мужчыны.

— Гэ, гэ! Да вы, кажа, заблудзілі.

— Не можа быць, паночку! Мы ж не толькі дарогу, а кожную хвою, так сказаць, тутака знаем.

— Аднак жа вы заблудзілі, вот прыгледзьцеся добра.

Калі яны сталі прыглядацца, дык і ім здалося, што заехалі ў незнаёмае месца, і, скрабучы за вушамі, кажуць:

— А-а, дык ваша праўда! І што мы цяпер рабіцімем?.. Хіба, панок — будзь так ласкаў,— і пакажы нам дарогу!

— Дык добра, я вас аж у Стоўбцы завяду, бо і сам туды ж іду. Вярнеце налева і едзьце за мною!

Тыя, яму падзякаваўшы, паехалі за ім. То як стаў ён іх вадзіць па нейкіх невядомых дарожках, па карэнні ды па балоце, а яны скрозь за ім.

І няма б ведама, як доўга б ездзілі, але адзін вол паў. Тады яны, дагадаўшыся, давай хрысціцца ды богу маліцца, дык той храпт перш усё корчыўся, пляваў, а далей — як зарагоча ды ў балота як скоча — адно пырскі выш лесу паляцелі.

А нашыя мужчыны назаўтрае на адным вале дамоў прыбіліся.

*1902 г.*

## БЫВАЛЫ ЮР У МІНСКУ

— Трэк... мг... трэк... трэба пайсці за імі паглядзець, што такое трэк, бо хоч не мала свету з'ездзіў, а трэка не бачыў.

Так размышляў Юрка Мілюк, ідучы па самай доўгай вуліцы нашага горада.

— А, бач!.. Здаецца, Пракоп?

— Ён самы, а вы чы не Юры Мілюк?

— Але ж.

— А я і не пазнаў бы, каб не загаварылі.

— Бо даўно ж і бачыліся, гэта ж яшчэ як на Капказі не быў. А ты тутака служыш, чы што?

— А як жа, вось у гэтым доме дворнікам, а вы докуль ідзеце?

— А вось іду трэка пабачыць, што за штука такая. Іду — чую, гэтыя паны кажуць да сябе: «Пойдзем на трэк». Я думаю, што за трэк, і пайшоў за імі назіркам. А ты бачыў калі трэк?

— А-ей, чы раз!.. Толькі там дарам не пусцяць, трэба білет браці.

— А шмат плаціці трэба?

— Не лішнее... Па залатоўцы.

— А можа, маеш час, так пойдзем разам, я і за цябе заплачу?!

— Ну што ж, хадзема! Ну, што ў вас чуваць? Здаровы ўсе?

— Ат, што... Ад ліха ціха, добрага не чуваць... Жывём сяко-тако, дзякаваць богу. А гэта што за гай?

— Губернатарскі сад называецца, тут гарадскія гуляць ходзяць. Тутака і трэк, і тэатр ё, і рэста-

ран... Вось і трэк. Тутака ў гэтай будцы білеты браць трэба.

— А дзе гэта музыка іграе?

— А тутака ж на трэку...

— Так на ж табе, Пракопе, дзве залатоўкі, вазьмі білеты! Чы бачыш, які кленнік харошы?.. Эх, каб мне такі.

— Та вот лепей пойдзем! Наце білет! Толькі схавайце добра, каб не згубіці!

— А гэта што за паветка? Там нейкія цацкі відаць.

— Гэта тут у цэль страляюць, у гэтыя цацкі.

— Хіба яны плату вялікую бяруць за гэта, бо адкуль жа б гэтых цацак набраліся!

— Та з гэтай стрэльбы нічога не папсуеш, толькі лясне, як бы гарошынай кінуў. А бяруць, добра не ведаю колькі, здаецца, чы не па грыўні, а мо і па саракоўцы... Не ведаю.

— А гэта шыбеніца што азначае?

— Гэта ж гімнастыка, тутака панскія дзеці чапляюцца, а гэта гыганы...

— Але... Гэта я адразу не разабраў. Вот мой божа! І гарадскія маюць ахвоту чапляцца... Нашы то за птушкамі, а яны птушак не маюць, так вось яку штуку прыдумалі. А дзе ж той трэк? Нешта я ніяк не цямлю, што гэта трэк.

— А вось гэта кругловіна.

— Так вось што трэк!.. Гэта ж тут на ласіпедах ганяюцца адзін за другім. А гэта пасярэдзіне што?

— Гэта?.. ай, та я і забыўся. Сапраўды, чакай!.. Здаецца, тры... гу... на. Ага, трыбуна — тутака пузатыя паны засядаюць і глядзяць, як падхорцістыя панічы кругом лятаюць, каторы каторага абгоніць.

— Цяпер я цямлю. А, бач, што гэта, чы гэта яны нарокам так у кучу ссыпаліся?

— Да дзе ў ліха нарокам... Адзін як скінуўся, так другі, разагнаўшыся, не можа здзержаці і валіцца на яго, а на таго трэці, і так усе.

— Калі так, то, пэўна, ім не да смеху, але здалёку гледзячы, так дужа ўцешна. Быў я ў цырку, так і там хораша скачуць, та ўсе на адзін лад, а тутака: той выпучыцца, той скуліцца, той на бок перакрывіцца, той носам, той патыліцай, а ўсе рукамі і нагамі махаюць, быццам што злавіці хочуць. О! так аднача ім добра падаставалася... Бачыш, як крыўляюцца? Адзін так сам і не ўстане... Вось так забава! А паветкі гэтыя навошта?.. Ага, тут у неважта іграюць... у шашкі, чы што?

— Не, гэта не шашкі; у шашкі — так усе хвігуркі аднакай формы, толькі адны белыя, другія чорныя, а тут, бачыце, усякія: і малыя, і вялікія, то як бы вежы, то як коні, а гэтасама вышпа-то караля азначае, трошкі меншая — то каралева... Гэта па-расійску «шахматы» называецца, а паны называюць «шахы». А ў той паветцы нейкія галкі кідаюць, адно не ведаю, як ту ігру называюць.

— Давай лепш музыкі паслухайма! Гэта лепш за ўсё.

— Так сядзьма вось на лаўку! Яны ж дзеля таго пастаўлены.

— Калі блізка вельмі, неяк глушыць. Пойдзем хіба на гору, у гэны хвойнічак, там пасядзім!

— Ідзема!

— Але тут такі месца харошае...

— Ат, нішто; і ўсё ж такі троха маркотна на старане, злашча, як касьбу згадаеш.

— А каб гэта, Пракопе, нам у тэатр пайсці? Яшчэ ні разу не быў.

— Абы грошы.

— А колькі ж трэба?

— Зараз пабачым. Хадзем! Вось бачыце, вашэць, чырвону паперу наклеену? Там напісана.

— Гэта на той стадолі?

— Але... Гэта не стадола, а тэатр.

— Ага. Я перш думаў, што гэта бровар, але бачу — вокан няма, ні комінаў, так змеркаваў, што стадола. Ажна гэта тэатр, мг...

— Сягоння іграць будуць «Хаджы-Мурата», а найменша плата, па галёрцы — семнаццаць капеек, толькі там стаяці трэба.

— Ну, то што?.. Чы мы не прывычны?

— Толькі яшчэ рана... тут пішуць, што зачынаюць праставуляці ў дзевяць часоў, а цяпер восьмы. Вашэць, мяне тутака пачакайце. Я толькі збегаю...

— А ты мяне знойдзеш?

— Знайду, толькі не адходзьце далеча...

— Хаджы-Мурат... гэта штось як бы капказскае. Як бы бісурманьскае імя... Бачыш, як здароўкаецца... адно мак зацвіў... вось зачырванелася... А вот і Пракоп.

— Вашэць тут? Хадзема білеты браць!

— Каб ты, Пракопе, ведаў... ха-ха-ха!.. што я тутака чуў і бачыў... ха-ха-ха!..

— Потым скажаце, цяпер бярыце білеты! А то дайце грошы, я вазьму!

— На, браце. Ха-ха!.. Вось так пацеха...

— Наце! хадзема месца заняці, а то потым не ўбіцца! Што вы такое смешнае ўбачылі?

— Та як тут не смех? Стаю я гэта, бачу: ідуць

тры панічы як панічы, а насустрэчу ім якась пані садзіць. Пані маладая, ніштавата сабою, у капелюшы з рашато. Толькі мя зацікавіла, што яна на аднаго з тых панічоў неяк углядаецца. Ён пакланіўся і далей хацеў ісці, та яна яго прытрымала: «Чаму гэта, пытае, пан к нам ніколі ўжо не заходзіць?» — «Часу не маю, усё занят».— «Так ідзём цяпер!» — «Не магу».— «Чаму?» — «Так... у тэатр іду».— «Ага... так прыходзь, пан, заўтра!» — «Добра... а калі пані дома бывае?» — «Хоч калі, буду чакаці».— «У восьмым часу можна?» — «Чаму не? Але прыходзь, пан, раней, штоб даўжэй разам пабыць!» — «Што?.. Можа, і даўнейшы часы можна будзе памянуць?» Пані пачырванела і кажа: «А што ж...» — «А муж?..» — «Мужа дома нямашака, але каб і быў, то нічагутка... Ён добры... Ну, бывай, пан, здароў! Чакаю».— І гэтак пры народзе, чы ж гэта не смех? Ха-ха-ха!

— Чы гэта навіна! У нас гэта часта бывае. Наштo ўчора, вось на гэтай дарожцы, на той вось лаўцы, тры панічы і тры паненкі па пары абняўшыся сядзяць і чым дужы цалуюцца. Ну, але годзі! Трэба ісці, бо зараз прастаўленне зачнецца.

— Э... а на трэку такі музыка харашэй іграла... Ну, а чаму гэта ніякага прастаўлення не відаць?

— Чакайце, зараз гэту завесу чырвону падымуць.

— А, бач! Вось дзе завеса прадрана, так праз тыя дзіркі відаць, як якіясь людзі там варушацца.

— Цсы, ужо вось падымаюць.

— Уга, так іх тутака шмат! І што гэта за народ прастаўляецца? Хіба запарожцы?.. Бо я на малюнках бачыў — так такая ж вопратка. Та як мне

дзед павядаў, то ў нас усё дваранства ў гэтакіх кунтушках хадзіла.

— Сказаў бы, та сам не ведаю.

— А гэты, што сядзіць і гарэлку п'е, то саўсім расейскі ямшчык, адно браню мае. Чакай, хіба гэтага паніча спытаю!

— А што такое?

— Што гэта за народ і што яны прастаўляці будуць?

— Гэта грузіны, а прастаўляці будуць, як лезгін грузінску дзеўчыну ўкраў, нарачону аднаго малайца, а яна ад лезгіна ўцякла, і калі таго лезгіна злавілі і хацелі расстраляці, аказалася, што гэта яе брат быў.

— Выбачце, панічку, але яны неяк на грузінаў не пахожы... Я, бачыце, троха жыў на Капказі. Яны то носяць кунтушы, та не такія зяхратыя. Што я бачыў, так суконныя цёмныя, а найболей саўсім чорныя або шаўковыя серабрыстыя з ліловым пералівам. Толькі падбіўку зяхрату даюць, і кунтушы іхнія доўгія, аж па костачкі, а рукавы аж па лыткі вісяць. І гэта толькі старшыя дваране, а маладзёж то ўсе ў чаркесках гуляюць.

— А хто іх знае. Можа, у тэатры вопратак грузінскіх няма.

— А хто гэта? Мяснік якісь, чы што?

— Гэта ж Хаджы-Мурат, лезгін, каторы мае грузінку ўкрасці.

— Цікавасць! Я колькі быў на Капказі, так пузатага лезгіна не бачыў, бо і дзе ж яму па гэтакіх гарах пуза цягаці. А яны ж як козы чапляюцца... Яны ж не жывуць пры месцы як другія, бо яны гарачыні не любяць... На лета ідуць у самыя горы, а на зіму на ніз спускаюцца.

— Так вы бывалы чалавек.

— Ат, паездзіў па свеце. Бачыце, я ў дохтара служыў... Так за ім...

— А вось і грузінкі выйшлі. А вось і маладая... Гэта яны нарачонага выйшлі спаткаці.

— Мг!.. Чаму гэта я што бачыў, то ўсе ў чорнай вопратцы, як манашкі, толькі на лобе абручык залацісты, так у пальцы два шырыні... Гэта лезгінкі і татаркі ў чырвонае адзяюцца, толькі татаркі паверх белае пакрывала яшчэ накідаюць. Дзякую, панічу, што аб'яснілі.

— Ну, Пракопе, мо пойдзем да мяне, павячэраем?!

— Яшчэ ж гэта не канец. Яшчэ дзве часці будуць.

— А бог з імі, калі нічога ўцешнага няма... А то паглядзім другой часці. Аднак звоняць ужо... Можа, будзе весялейша.

— Ну што, як гэта спадабалася вашэці?

— Ат, мала. Адно гэты Давыдка так пацешны. Найболей як стаў прыказваць, а злашча пра Манджурыю, як нашы рускія храбрацы ўсё ліха забралі... ха-ха-ха!.. Но!.. Але ідзём!

## АХОТА ВІЦГУБАРНАТАРА НА ВЯДЗЬМЕДЗЯ

Пашлі наказы ад адміністратара да ляснічага, ад ляснічага да аб'ездчыкаў, ад аб'ездчыкаў да стральцоў, штобы на той і той дзень сабрацца народу і лясной стражы ў паплаўскіх абходах на вядомае месца, будзе бо, знаеш, аблава на вядзьмедзя, і сам віцгубарнатар прыедзе, і ляснічы сказаў раз клічаўскаму аб'ездчыку, што вядзьмедзя павінен забіць віцгубарнатар.

Вось наступіў дзень ахоты. Яшчэ добра не развіднела, а лясная стража тупала ля разведзенага [цяпла] на паляне за паўтары вярсты ад оступа. Зачалі і сяляне гурткамі прыбываць з акалічных сёлаў, а па дарозе з Клічава да зборнага месца расстаўлены стральцы на старожы, а ў Клічаве аб'ездчык вярхом. Прыехаў і ляснічы на зборнае месца.

Вот стаяўшы на ростаньках стралец прыбег задыхаўшыся і далажыў, што ўжо едуць. Аб'ездчыкі пастроілі людзей дзясяткамі і пры кожным дзясятку прыставілі па стральцу. Ляснічы адабраў чалавек шэсць дазнаных стральцоў, між каторымі былі Якаў Самец, Сыдар Крыванос і Мікола Ляскавец, штобы паставіць іх у няпэўным месцы, дзе мог бы звер прарваць, улева ад засадак.

Прайшоў па людзях шорах, і сталі спешна строіцца ў рады, бо ўбачылі на дарозе клічаўскага аб'ездчыка, што скакаў ад мястэчка. За ім зараз паказаліся і падводы з панамі. У пярэднім вазку Яўсташынскага арандатара ехаў сам віцгубарнат з адміністратарам. Адміністратар першы выскачыў з санак; к яму падбег ляснічы і далажыў, што ўсё гатова, толькі яшчэ няма Кузьмы, кухараўскага

аб'ездчыка, што пайшоў праверыць оступ. Паны сталі вылазіць, скідаць доўгія шубы, папраўляцца, аглядаць стрэльбы. Даязджаючыя парадкуюцца з сабакамі, дзеляць порах. Мінут праз колькі паказаўся зы стараны і стары Кузьма.

Ляснічы з аб'ездчыкамі абраілі, адкуль даезджачым заходзіць, раздзялілі народ на два крылы, прыставіўшы да іх па аб'ездчыку із малодшых дзеля расстаноўкі людзей, і па камандзе ляснічага ўся чарада рушыла сцежкаю ўлева поўз старыну к заначанаму на чарце развароту. За імі і даязджачыя адправіліся. А паны з ляснічым і з астаўшыміся аб'ездчыкамі рушылі за Кузьмою. Перш пайшлі за імі, а потым звярнулі ўправа к засадкам, і стала ціха, ціха, як бы ўсё гэта ў зямлю правалілася...

Чуеш! Зайграла трубка ляснічага. Знаць, крылля звялі. На трубку адвецiў стрэл ад разварота, а за ім зайгралі ў трубы даязджаючыя, і пайшлі стрэлы адзін за другім. Ахвотнікі стаяць з захвачанаю душою, зацікаючы стрэльбы ў руках. Вот зайгралі сабакі, і трубы разам перамянілі голас, узяўшы грубую ноту — знак, што звера паднялі. А па чарце прабягаюць ускрыкі і адзіночныя стрэлы.

Вось з таго месца, дзе былі пастаўлены адборныя стральцы, раздаліся гвалтоўныя крыкі і ўчапічана стральба. То агромністая вядзьмедзіца, падняўшыся на заднія лапы, ідзе проста на выбарных стральцоў, каторыя скучыліся і самі не ведаюць, што пачаць, бо крыкі і стрэлы нічога не памагаюць, а вядзьмедзіца ўжо вот, вот прарвецца або ўссядзе на каго.

Вот Якаў, перамігнуўшыся са стральцамі, залажыў у стрэльбу кульку, бухнула разам колькі стрэлаў — і вядзьмедзіца асунулася.

Стральцы, гэта ўбачыўшы, злякаліся, ды зараз папраравіліся, яко людзі ўжо бывалыя, і паднялі яшчэ большы крык і голас. К таму і сабакі падскочылі, так што вядзьмедзіца паднялася на пярэднія лапы і, валочачы зад, папаўзла к засадкам, і чуць выставіла галаву з гушчару, як раздаліся два стрэлы з засадак, ад нумара віцгубарнатара, і дзве кулі прасвісталі над галавамі ляснікоў. А вядзьмедзіца ўжо і та стала свяжынца. Стральцы не дурні,— паднялі крык:

— Гатова! Гатова! Віц папаў...

## З РЭФЕРАТУ НА КАЛЯДНЫ СХОД БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДЫ 1903 года

Кажаце, панове, што беларус свае народнасці не знае і нічога пра яе не цяміць... Вота ж мяне гэта вельмі чапіла за сэрца, як кроў з крыві і косць з косці беларуса. (Я родам з даўнейшых баяр княжаства Мсціслаўскага. Мой род меў айчыма мужыка-наднямонца, а сам я колькі часу змалку і потым дзецюком жыў між сялян: разам пасвіў, разам гуляў, разам працаваў і цяпер маю між імі сваякоў...)

Я думаю, што мы не просім ніякай помачы дзеле таго, каб зліцца з расейцамі або палякамі, бо як захочам і самі туды дарогу знайдзем...

Гэта, што беларусы названня *беларус*[1] не знаюць, то праўда, але тое, што яны з народнасці свае ніякай справы не здаюць, то няпраўда. Яно то можа трохі і не так, як бы трэба было, але ўсё ж такі цямяць, што яны не маскалі і не палякі. А калі станеш у каторага дапытвацца, хто ён, то адкажа, што ён тутэйшы... Помніць наш селянін, што Кацярына II увяла паншчыну, а Мікалай I паправіў, бо да Мікалая былі яшчэ дзе-нідзе вольныя людзі...

Нагаворам прыхільнікаў расійскага ўраду, што палякі ў часе паўстання 1863 г. хацелі паншчыну вярнуць, наш брат не дае веры, бо помніць Кацярыну і Мікалая.

Як прыклад, што не ўсіх салдацкая служба маскаліць, раскажу вам гэткія здарэнні.

Быў у мяне сусед-арандатар, салдат з турэцкай

---

[1] Курсіў у арыгінале.

вайны, прозвішчам Банькоўскі. Зышліся мы з ім на полі пры рабоце (я сеяў авёс, а ён гараў), палеглі на мяжы і разгаварыліся. Ён стаў расказваць, як яны Балканы пераходзілі, як цярпелі голад і як, перайшоўшы Адрыанопаль, стала замірэнне, і як яны стаялі там колькі часу. То ў такім, кажа, жылі мы там давольсцве, што і здумаць лепшага нельга. Здаецца б, жыві ды гуляй. Але ж было так цяжка, так цяжка, што і веры не імеш. Здаецца б, птушкаю паляцеў у сваю старану. Як прыехаў у сваю старану і пачуў сваю мову, то, маўляў, на свет нарадзіўся.

Ехаў я летась з Вільні да Ліды, а разам са мною ў вагоне сядзелі плытнік-беларус, цесля-расіец і адзін літовец. З гутаркі выявілася, што гэты плытнік быў на заработках у Расіі, дзе яму добра жылося і дзе ён чатыры гады пражыў.

— А чаго ж ты назад вярнуўся, калі дома цяжка жыць? — запытаў расіец.

— Бо дадому захацелася,— кажа плытнік.

А я кажу:

— Усюды добра, а дома найлепей.

— Вось гэты чалавек шчырую праўду кажа,— адказаў плытнік, паказваючы на мяне.

Калі вы, панове, чаго і не падмячаеце, то не дзіва, бо, ведама, панове. Вам і світка сялянская смярдзіць і махорка ў носе круціць, і вы стараецеся ў чысцейшае месца забрацца, каб магчы аб «інтэлігентных жэчах» гутарку весці.

Не кажу да ўсіх, але да большай часці.

Шмат хто з цяперашніх інтэлігентных юнакоў на пытанне, да якой народнасці яны сябе далучаюць, адказваюць, што яны людзі,— вышэй за ўсякую народнасць.

Калі яны хочуць служыць на дабро ўсяму чалавецтву, то гэта рэч — вельмі высокая і красная, але ўсё ж не разумею, каб яны былі слабодны ад нацыянальнасці. Выходзіць, што ніводзін беларус не можа быць чалавекам у поўным значэнні гэтага слова, а нібы, каб стацца чалавекам, трэба адрачыся і народу свайго, і мовы свае. Па-моему, адракаюцца ад свае народнасці толькі тыя людзі, што не маюць сумлення.

*1903 г.*

## МАЯ ПЕРШАЯ АХВОТА

Быў асенні дзень цёмны і ціхі, і мой бацька чагось захадзіўся: то кастрыцаю вокны абкладаў, то прызбу абсыпаў, а пад вечар клікнуў матку памагчы яму сані з вышак зняць і стаў іх наладжваць. Хоч і чуў я пры полудні штось пра снег гаварылі, але мне не напамкі было за гульнёю: усё я бегаў у сад сілоў глядзець — чы не папалася яка сініца або снігір, то старую клетку наладжваў, хоч то мне не ўдавалася неяк. Перад самым сумаракам я заўважыў, што ў воздусе сталі лятаць беленькія малюсенькія зоркі. Я зразу дагадаўся, што гэта снег, і пабег сказаць пра тое матцы. Матка ласкава ўсміхнулася, пагладзіла мяне па роснай чупрыне, бо ў мяне яшчэ шапкі не было, і маці часта журыла аб тое бацьку, на што бацька адказваў спакойна: «Пачакай, куплю», і прамовіла да сябе, гадаючы:

— Ды яно ўжо і пара!

Да ночы снег стаў падаць гусцей і ўжо не дробнымі зоркамі, а як бы клачкамі пуху.

Назаўтрае я прачнуўся, гляджу — у хаце неяк відна, ясна; галава мая нейкая мяккая і на душы весела. Я кінуўся ў акно і бачу, што ўсё, як зямля, так і стрэхі і плот зверху і грубшыя галіны на садовінах, пакрыта свежым бялюсенькім пушыстым снегам. Я, схапіўшы матчыну копту, кінуўся было на двор, адно маці мяне вярнула, штобы я бацькавы боты надзеў. Я хоч не рад, але мусіў надзець вялізныя боты, у каторых чуць не паваліўся, лезучы праз парог. Першым дзелам я заўважыў, што зы двара пайшоў свежы тор ад саней — знаць, бацька

дзесь паехаў, но зразу я не пайшоў пытаціся, а стаў, соваючы вялізнымі бацькавымі ботамі, бегаць ва ўсе стораны па бялесенькаму двару і, толькі набегаўшыся і накачаўшыся па снегу, пабег я ў хату пытаці, дзе бацька. Маці мне сказала, што ў млын павёз. І так мне шкода стала, што я раней не прахапіўся — нечага б з бацькам хоць да крыжа пад'ехаў па першаму снегу. А знаеш, як то прыятна ляцець па беламу гладкаму полю: ні скалане, ні здрыгане... Як плывеш маўляў бы...

...Прышоў бацька ў хату і кажа мне апрануцца і абуцца, а сам узяў стрэльбу з калка і стаў яе чысціць і набіваць. Я сабе думаю, абуваючыся,— няўжо ж бацька мяне на ахвоту возьме. І так я таму зрадзеў, што як бы на цэлу галаву падрос, і стаў гадаць, як то, пайшоўшы на сяло, буду прад хлопцамі хваліцца. І так у думкі гэтыя здаўся, што каб бацька мне не нагадаў, то пайшоў бы без шапкі.

Выйшлі мы ў поле, а бацька мне і кажа, паказваючы на кудру сярод поля:

— Абыдзі ты, сынку, здалёку на той бок кудры і ідзі, гамонячы і з шумам, праз кудру на мяне. Там, бачыш, заяц ляжыць. Вазьмі гэту вітку і будзеш ёю па дрохве ляскаць.

Я рады, вабражаючы сабе настаяшчым стральцом, у лапціках лёгка падыбаў па шэрапу, каторы быў крэпкі, хоч бацькі то ён не дадзержываў і ўсякі раз бацька праваліваўся. Зайшоў я за кудру і з крыкам і піскам пусціўся праз кудру, аж чую бацька ўжо стрэліў і штось закрычала:

— Кі-гі! кі-гі! кі-гі!

Но, хоцячы быць добрым ахвотнічым, я не выскачыў глядзець, што там такое, а пашоў далей, гу-

каючы і па дрэве віткаю стукаючы, а бацька мне крычыць:

— Годзе! дурны ты. Ужо заяц ляжыць.

Я выскачыў і бачу на полі ляжыць заяц і заднюю нагою яшчэ дрыгае, а бацька каля яго стаіць і стрэльбу набівае. Я адышоў і пытаю:

— Дзе ж ён быў, што я яго не бачыў?

— Дзе? У кудры, ведама,— кажа бацька.

— Дзе ж? Да я яшчэ ў кудру не ўвайшоў, як вы стрэлілі!

— А што ж, ты хацеў, каб заяц чакаў, пакуль ты яму на хвост наступіш?

Я схапіў зайца на плечы, і пайшлі мы да хаты. Я ўсё цягнуўся ўгору і задзіраў галаву, і хацелася мне, каб таварышы мяне з зайцам бачылі, адно якась гэтага не папалася...

*1903 г.*

## ПАРАДА

Гэй, брацця,— сынове зямлі Палескай і ўсёй Белай Русі! Паслухайце перш, што я стары скажу. Можа маё слова і недарэчы будзе, паводлуг разумення іншых, ды затое ад шчырага сэрца. Як тагды сабе будзеце рабіць, як справіцца, каб лепш жылося беднаму чалавеку.

Зямля наша не багатая, але і не зусім бедная. Месцамі скіба ўрадлівая, а дзе горшая зямля, там лесу і сена багата. Праўда, што лясы ўжо не тыя, што калісь былі,— ужо і дзесятай долі няма, ды ўсё ж такі болей, як па другіх краёх. І зверыны і рыбы яшчэ багата. Народу яшчэ не вельмі так густа, як у другіх старонах.

Адно бяда, што парадку няма. Наш брат — працавіты чалавек — сядзіць па вушы ў бядзе і выбрацца яму нельга, хіба якім случаем. А чаму гэта так? Чы мы не людзі? Здаецца, і рукі і ногі маема, і сэрца і галаву на карку — усё не горшае, як у другіх народаў.

Бачыце, прайшлі тыя часы, калі мы мелі між панамі сваіх. Як толькі краем нашым завaладзела Расія, дык паны нашы, каторыя былі каталіцкае веры, перакінуліся ў ляхі, а каторыя былі праваслаўныя — тыя расійцамі менавацiся сталі, і хоць косць з косці і кроў з крыві — нашы, але пазракаліся свайго народа. Так што ўсё беларускае пайшло на здзек і на паругу. Усё нашае стала называцца хамскім, мужыцкім. А потым і сяляне сталі свайго цурацца, але ім гэта не памагло ў долі.

Цяпер некаторыя пачулі сумленне і сталі варочацца да свайго народа, а другія — хітрыя, стара-

юцца адно паказацца, што яны нам спрыяюць, бо такі час настаў, што ўжо народы заварушыліся. Адны з гэтых хітрых хочуць, каб у нас была Польшча, а другія — каб была Расія, і стараюцца нас так увесці, каб мы ўвекі не патрапілі на сцежку да лепшай долі.

Мужыкоў надзялілі зямлёю, адно каб з голаду не ўмёр, а ўся зямля ў паноў ды ў казны асталася. Бо ведалі, што гэта грунт, што як даць зарабіць галоднаму чалавеку на кусок чорнага хлеба, дык той гатоў і душу палажыць. Адно толькі не меркавалі, што збан да пары ваду носіць: як вуха абарвецца, дык і збан паб'ецца; што з голаду сабака шалее, а як ашалее, дык не паглядзіць, ці ты яго калі пакарміў, ці не.

Насталі цяпер часы крывавыя. Народу зацяжка ўжо стала, і ўскінуў ён сваю буйную галаў, распрастаў спрацаваныя рукі і кажа: «Як хочаце, а я далей не іду!» А што рабіць, дык і сам не знае...

Цяпер, я думаю, настаў канец старой Расіі, а настане вялікі саюз слабодных народаў...

*1905 г.*

## ВОСЕННЮ

Дзень шэры, хмурны. У воздусе пахне сырасцю і гніючым лістом, каторы сыплецца з дрэва, засцілаючы жоўтым дыванам мокрую зямлю. Часам запыліць дробны, як туман, дожджык-рунец. Па зялёнай жытняй руні пасуцца гусі, а лагчыну ўвакол азярыны скрозь абселі чорныя груганы, і то той, то той злятае ў ваду, купаецца, а потым адлятае на поле і, сеўшы на скібе, цярэбіцца і распраўляе пер'е. Гэта — найлепшая прымета, што скора дождж добры пойдзе. Дзесь пад лесам стралец, чуваць, на сабак трубіць. А з восеці, што ў канцы сяла ля рэчкі, чутно, як мне і мяліцамі бразгаюць, лён мнучы. А па гразкай грэблі невялічкая каняшына чуць цягне панарад з мяшкамі збожжа, прыкрытымі пярэстаю дзяружкаю, а бокам, ля канаўкі, прабіраецца, выбіраючы сушэйшае месца, чалавек. Часта ён пануквае і памахвае пугаю. Знаць, намалаціў новага збожжа і вязе ў млын, штобы к дзядом прыбраць мукі і круп, а дзяды ўжо тут незабавам, бо пакровы ўжо з тыдзень таму былі. Пастушкі, паадзяваўшы на галавы мяшкі, сабраліся пад ігрушу, што расце на мяжы, кладуць агонь і бульбу пякуць, а быдла і авечкі распусцілі скрозь па сцерніпчах.

Ідучы ў такую восень дзе між вербаў па мокрай, усланай жоўтым лістам дарозе, становіцца неяк маркотна, за чымсь тужыш, штось гадаеш і ўвесь даешся ў думкі. А ўсё-такі гэта мае сваю красу і прыемнасць...

*1907 г.*

## ЗАБОЙСТВА ЗАХАРКІ

У пагодны асенні дзень пад вечар вярталіся сяляне сяла Усакіні з гораду, куды вазілі лапаты ад купца Бермана. Якраз то было перад пакровамі.

Не даязджаючы дому, прыпыніліся ў суседнім сяле Сушы, ля Абрама... Выпілі па чарцы, закурылі люлькі і давай ганяць друг дружка ехаць, штобы за сонцам дома стаць. Забавіўся адзін толькі Захарка з роду Шалойкаў, заклятых врагаў другога роду ўсакіньскага, па прозвішчы Зайцоў. Быў то чалавек вялікага росту, рабаліцы, з рэдкаю русаю бародкаю, на нагах падгалы, у плячах шырокі і крыху прыгнуўшыся, быў ён трохі выпіўшы, і хоч брат яго Марка, чалавек відны, каравокі, з шыракаю чмараю барадою, з ліца гарны, хоч крыху рабаваты і ганяў ехаць, та ён не паслухаў і застаўся з сушскімі сялянамі пабалакаць і з Абраміхаю паспірацца. Не паслухаў ён брата і не вярнуўся болей да хаты, хоч з Сушы да Усакінь усяго пяць вёрстаў. Толькі ўжо добрым сумаракам усакіньскі смоляр чуў, як у бродзі, што Вязенем завецца, як бы хтось прасіўся і называў па імені.

Назаўтрае ў рэчцы Ваданосцы, чы бок, як тамашнія сяляне яе называюць, Гэньцы, у памяць аднэй яўрэйкі Гэнькі, знайшлі усакіньскія дулебы каняшыну з цялежкамі стаячую, скубучы траву на берaзе, і пад перавернутаю драбінаю цела мёртвага Захаркі з перакручаным каркам і адну бутэльку гарэлкі запячатану, а другую да палавіны выпіту. Пашло следства: прыехаў станавы са стражнікамі і ўраднікам, доктар і п'яны следавацель.

Рэзалі Захарку, нічога ў ім не знайшлі, адно

доктар, дзівячыся на Захаркаву печань і лёгкія, сказаў:

— Колькі жыву на свеце і што перарэзаў мярцоў, а такога здаровага чалавека не бачыў.

Арыштавалі двох Зайцоў — Амельяна і Есіпа, былых стральцоў графа Патоцкага, адно па стараннню знамянітага атамана канакрадаў Янкеля, што жыве ў тым жа сяле, іх у скорым часе выпусцілі пад залог, і ўсё заціхла.

Раз толькі доўскі ўраднік, спаткаўшы стральца Андрэя ў варотах аб'ездчыка хаты, засмяяўся і кажа:

— Ну, што, Андрэй, прапаў Захарка? І дзела яго прапала? Але і грошай багата прапала!

Засмяяўся і паехаў.

*1909 г.*

## ЖУРАВЕЛЬ І ЧАПЛЯ

Жылі на балоце журавель і чапля. Прыдакучыла жураўлю жыці аднаму, і думае: «Пайду хіба да чаплі ў сваты, мо ўдваіх ладней жыці будзе».

Прыходзіць да чаплі, а тая і слухаць не хоча.

— Куды ты варт,— кажа,— са сваімі нагамі? Не пайду за цябе!

Пашоў жураў, павесіўшы дзюбу, дамоў, а чаплі і шкада стала: пайсці хіба самой да яго?

Прыходзіць да журава, а жураў, надуўшыся, кажа:

— Цяпер і я, як паглядзеў, дык не хачу з табой жаніцца: ты нейкая неахайлівая, быццам мокрая.

Засаромілася чапля, ды пашла з нічым дамоў.

А журавель і думае: «А ткі шкада, што адправіў, бо ўсё ж ткі аднаму маркотна жыці!» — і пайшоў да чаплі.

А чапля свой гонар нясе і кажа:

— Было тады браць, а цяпер я не хачу.

І гэтак ходзяць адно к другому і ніяк пажаніціся не могуць дагэтуль.

*1910 г.*

## ВАЎЧОК

Ваўчок малады, па Палессі ходзячы, нагадаў сабе з светам змірыцца. Надумаў ён жыццё сваё перамяніць,— шкоды нікому не чыніць, з авечкамі, козамі дружыць, свінняў не займаць, гусей не пужаць, слабым у бядзе памагаць, а самаму — ягадамі, карэннямі жывіцца.

Спаткаў ён раз каля рэчкі, на палянцы, старога воўка, што смагу вадою праганяў. Разбалакаўся з ім ды і пра думку сваю расказаў. Той паслухаў ды кажа: «Рабі як хочаш. Але я б не раіў, калі зводу не хочаш дазнаць і жыццё сабе збрыдзіць. Свету даволі таго, што ты воўк, каб усюды гналі цябе і цкавалі сабакамі». Ваўчку гэта няпраўда паказалася, каб людзі за дабро злом плацілі толькі за тое, што ён воўк. І, пакланіўшыся стараму воўку, пайшоў ад яго прэч, каб сабе сэрца не ад'ядаць, слухаючы яго нагаворы.

Ідзе ён, ідзе, і захацелася яму есці. Знайшоў птушачку здохлую, высахшую і выпятраўшую на сонцы, каторую жукі растачылі. З'еў яе са смакам, але голаду не прагнаў. Хлябнуў вады з каляіны ды ідзе далей. Бачыць — парасяты пад арэшнікам гуляюць, леташнія арэхі з-пад гнілога лісця дабываюць. Згледзіўшы ваўчка, парасяты кінуліся наўцёкі, а адно з разгону папала ў куст арэшніку і завязла шыйкай паміж сукоў і карэнняў. Ваўчок хацеў яго вызваліць, але парася падняло такі піск, што пачулі свінні недалёчка на балоце. Як дыхнуць, абступілі яго, разрохкаліся,— дык той ледзьве вырваўся з абскубленымі калошамі.

Горка яму стала, але падумаў і ўсцешыўся. «Гэ-

та яшчэ мяне не знаюць. Падумалі, пэўне, што хацеў парася з'есці»...

Гэтак блукаючы, з голаду пацепаючыся,— набрыў ён на воўка, што нёс перад сабою барана. Адабраўшы ў воўка барана, панёс ён яго з лесу да пастухоў, але тыя, згледзіўшы ваўка, кінуліся на яго з кіямі, загукалі, закрычалі,— дык ён і на гэты раз мусіў чым дуж уцякаць з абабітымі бакамі. Забіўшыся ў нетру, зажурыўся горш за першы раз, але зноў думае: «Гэта яны думалі, што я той самы воўк, што барана ўхапіў. Што ж — гэта абмылка... Але пагана, што есці хочацца... Каб я таго барана сам з'еў, то й бакі б не балелі і...» І, засаромеўшыся свае думкі, пашоў далей.

Выходзіць ён з лесу к сялу. Бачыць — на лужку пры лесе дзеці гуляюць. Дай, думае, пазнаёмімся. І ўхмыляючыся, і прысядаючы, хвастом віляючы, ідзе ён да дзяцей, а тыя яго як убачылі, спрабілі гвалт і нарабілі, спужаўшыся, лямант. Бачыць воўк, што з сяла мужыкі з каламі бягуць. Мусіў і тут уцякаць, але і на гэты раз знайшоў сабе ўцеху. «Дзеці вядома, дзеці, дурныя». А знайшоўшы кавалак здохлай каняціны, пад'еў наш ваўчок, аправіўся і павесялеў.

Бачыць раз ваўчок: на палянцы, абапёршыся на стрэльбу, чалавек стаіць. Прыбраўшы пакорную паставу, лізгаючы языком і ківаючы хвастом,— выйшаў ён, прысядаючы, да чалавека, сталага і разумнага, знаёміцца, а той, доўга не чакаючы, злажыўся ды як бахне,— аж ваўчок свету не ўбачыў. Усё чырвоным агнём разляглося, і сам не памятае, як у пушчы апыніўся, кроўю ўвесь заліўся, на заднюю нагу ступіць не можа, толькі ад жаху зубамі ляскоча.

І згадаў ён тады старога ваўка, каторы не раіў іці на такую спробу.

Хоць і залізаў ён сваю нагу, але стаў пакульгваць на ўвесь век, і ўжо болей не думае дабра рабіць, застаючыся злым і збродным, як і кожны воўк.

*1911 г. Турма*

## ШТО КАЖУХ, ТО НЕ ВАТА

Давялося раз зімой гарадскому панічу паехаць у двор на імяніны.

Прыехаўшы па чыгунцы на станцыю, ён пайшоў на сяло, што ад станцыі за паўвярсты было, каб падводу наняць, бо яшчэ трэба было вёрстаў з чатырнаццаць канём ехаць. Вось зайшоў ён у адну хату, а там якраз абедаць садзіліся. Ён зняў шапку і кажа:

— Дзень добры!

— Дзень добры! — адказваюць.

— Ці не завезлі б мяне туды і туды?

— Чаму ж не, можна,— кажа гаспадар, пагадаўшы.

— А колькі ж хочаце за хурманку?

— Аб цане то мы змяркуемся, а цяпер сядзьце, капусты сербаніце, бо да таго двара няблізка.

— Дзякую! — я ўжо гарбату піў.

— Ну, як воля ваша.

Гаспадар, пад'еўшы, не спяшаючы, закурыў люльку, сказаў цану, катора панічу проці гарадскіх паказалася зусім малой, але ён з тым не пахваліўся: і яму грош, знаць, недарма даецца. Пасля гаспадар апрануў кажух, надзеў шапку і пайшоў запрагаць. Запрогшы каня, прыйшоў у хату і, зняўшы з жэрдзі кажуха, дае яго падпрануць панічу; але паніч не адважыўся апрануць мужыцкага кажуха і кажа:

— Дзякую! У мяне паліто на ваце.

— Ну, як воля ваша,— кажа гаспадар. Аднак жа як ішлі садзіцца ехаць, то гаспадар узяў з сабой кажуха ў запас.

Вот яны едуць. Спачатку панічу цёпла паказалася, але, праехаўшы вёрстаў пяць, бачыць гаспадар, што паніч стаў корчыцца, каўнер настаўляць, шапку на вушы нацягваць і носам сёрбаць. Гаспадар і пытае:

— А можа кажух, паніч, надзенеш?

— Не! Дзякую.

Едуць далей.

Праехалі яшчэ вярсты са дзве, бачыць гаспадар, што паніча сталі дрыжыкі прабіраць, і пытае:

— А можа, кажух, паніч, надзенеш?

— А добра, бо штось халаднавата.

Даў яму кажуха апрануць, і едуць далей. Ужо і да двара блізка, ажно бачыць гаспадар, што паніч нейк бледнаваты, дык пытае ў яго:

— А што, панічу, не сцюдзёна цяпер?

— О, не! Цяпер цёпла.

— А можа, паніч есці хоча?

— О, і дужа хачу.

— А што, панічу: што кажух, то не вата, а што капуста, то не гарбата? Але пацярпі, паніч, хвіліну, незабавам прыедзем! — І паказаў яму пугаём на той двор, каторы ўжо відаць было.

*1911 г.*

# ВАНДРОЎКА КРОПЛІ ВАДЫ

Яснае сонейка клікала вадзяную кроплю, дачку мора:

— Хадзема са мною, павандруем па божаму свету да пагуляема ў празрыстым блакітным небе.

Кропля б з дарагой душы, ды бацька-мора не пускае. Вота ж і пасылае сонейка да яе гарачы промень; узяў ён кроплю, зрабіў яе невідзімкаю ды панёс усё вышэй і вышэй, усё бліжэй і бліжэй да сонца. А сонца гуляе сабе па высокай вышыне, угары, па-над гарамі ды марамі. Доўга ляцела кропелька, прытамілася, выбілася з сілы і не можа далей ляцець. Ды не адна яна, а багата такіх валацугаў, яе сёстраў, паўцякала з мора. Сабраліся яны да кучы ў шэрую хмару, сядзяць дый плачуць, што не маюць сілы іці далей да яснага сонейка. Змілавалася над імі сонейка і паслала свайго сына, свежага ветра. Пазбіраў ён іх у купу ды пагнаў па небе дадому. Як зышліся кропелькі да купы, распыталіся і прывіталіся з сабою і перасталі невідзімкамі быць, а зноў у кропелькі перакінуліся. Абняліся яны ды разам і пападалі на зямлю дажджом.

Наша кропелька пала з дажджом на высокай гары, а з ёю нямала і другіх кропель. А гара гэта была далёка ад мора. Ну, што ж? Нечага ім вылягаціся, трэба і дамоў паспяшацца! Весела кропелькі пабеглі ды паскакалі з скалы на скалу, з каменя на камень, усё ніжэй ды ніжэй. Дабеглі да стру-мачка і шпарка ды шумна паплылі ўперад. Калі бачаць — ліха людзі загацілі воду, і кропелькам трэба іці на млыновыя колы. Зашумелі яны, загулі,

рынаю рынуліся на колы, акруцілі іх і апынуліся на другім баку грэблі.

Плывуць яны сабе ды плывуць спакойна да ціха ўжо ў шырокай рэчцы і мяркуюць:

— Вось, вось недалёчка дадому!

Калі дзе не ўзяліся чоўны,— душаць яны нашы кроплі, душаць іх і важкія віціны, рэжуць іх і пруткія параходы. Ды ці мала выпала на іх долю ліха, покі не дабеглі і не абняліся з бацькам-морам.

## СКРЫПАЧ І ВАЎКІ

Быў у нас на сяле скрыпач Ахрэм. Ён быў так сабе, просты гаспадар. Яшчэ змалку навучыўся ён на скрыпцы граць, і такі не быля як іграў. А людзям таго і трэба. Вось прыйшла восень, пачаліся вяселлі,— вота ж і клічуць Ахрэма то туды, то сюды іграць на вяселлях. І людзям весялей і чалавеку заработак.

Вота ж аднаго разу паклікалі яго ў другую слабаду іграці,— так вёрст за сем ад нашае. Вядомае дзела, вяселле скора не робіцца. Прыйшлося Ахрэму вяртацца адтуль позна ўночы. Іці трэба было лесам. Праз лес ішла ездавая дарога, каторую трэба было абмінаць, бо сцежкаю было бліжэй, як тою дарогаю. Ахрэм і думае: «Пайду проста сцежкаю — усё ж бліжэй будзе». Дый пайшоў.

Ноч была і так цёмная, а то яшчэ ў лесе. Ішоў ён, ішоў ды неяк заблукаўся ды разам як правапіцца, як шубоўтне кудысь пад зямлю! Упаў і не так пабіўся, як налякаўся. Што яно такое?

Падумаўшы — дагадаўся: у лесе было шмат ваўкоў і шкоды было ад іх нямала, дык іх стралялі і лавілі. А лавілі іх так: выкапаюць яму глыбокую, дзе воўчых слядоў найболей, а яму прыкрыюць тонкім галлём і травою прытрусяць, каб не відаць было; за ямаю яшчэ часам і прынаду паложаць. Як воўк прынаду счуе і пабяжыць да яе, дык у яму і праваліцца. Вота ж у такую яму патрапіў і Ахрэм.

Як дагадаўся Ахрэм, дык трохі ад сэрца й адлягло. Калі чуе — у яме штось як завые! Ахрэм так і пахаладзеў. Глянуў — ажна проціў яго як бы дзве свечачкі гараць. Ахрэм ведаў, што ў воўка поцемку

вочы свецяцца, і што гэта ваўчок папаўся ў яму і сядзіць. «О, гэта добры таварыш,— думае Ахрэм,— а ў мяне і паганага пакалка няма, адно скрыпка!» Што яму тутака рабіць? Вылезці з ямы поцемку нельга ды і повідну не вельмі-то, бо яма глыбокая, а яшчэ пачні вылазіць, дык воўк цябе ззаду. Не, трэба, кажа, сядзець ціха.

Залез Ахрэм у куток, а воўк у другім. І думае Ахрэм: «Гэта ён цяпер спалохаўся, дык не чапае, а як ачухаецца, то з костачкамі з'есць мяне». І, сапраўды, крыху пачакаўшы, воўк пачаў ужо варушыцца, няйначай бліжэй падступаць. «Пагана,— думае Ахрэм,— нічога тут не зробіш! А ну, хіба на скрыпцы зайграю». Узяў, прылажыў скрыпку ды як разане смычком па струнах, а скрыпка як загалосіць, а воўк як адскоча! «О,— думае Ахрэм: — гэта добра!» Дый давай іграці ды яшчэ вясёлае, да танцаў. Воўку, мабыць, спадабалася,— пачаў ён пад музыку выць. Скрыпач грае, а воўк вые. Калі чуе Ахрэм, ажно з лесу яшчэ воўчыя галасы адазваліся. «Вось,— думае Ахрэм,— папрыбягаюць!» Але іграць не кідае, усё грае. І такая ў іх музыка: Ахрэм грае, воўк у яме вые, а другія ваўкі з лесу сабе голас падаюць. Такое выццё ўчынілі!

Ахрэм усё іграе. Ніколі яшчэ ён так шчыра не іграў, як цяпер, бо думаў, што як кіне іграць, то воўк зараз да яго ды з'есць. Калі гэта адна струна — дзын! — дый парвалася. Няма чаго рабіць,— трэба іграць на трох. Калі і другая — дзын! — і тая парвалася. Бачыць Ахрэм, што ліха: пачаў не так ужо моцна іграць. Але як на тое ліха, яшчэ і з дзесятак разоў смычком не пацягнуў, як і трэцяя струна лопнула. Цяпер засталася адна. Бедны Ахрэм думае: «Вось, вось зараз і гэта лопне,— з'есць

тагды мяне ваўчуга?!» Іграе, гаротны, на той аднэй струне, а сам на неба пазірае: ці не світае часам? Ды моліцца: «Госпадзі! Пашлі хутчэй свет. Можа хто недалёчка іціме ды пачуе».

І хто яго там ведае, што б было, але сапраўды стала на свет займацца, і так давялося, што з нашае такі ж бо слабады стралец засядаў у лесе на звера ды блізка праходзіў і пачуў, што скрыпка грае, а воўк вые. Ён пайшоў паглядзець, што яно за дзіва такое. Патрапіў на тое мейсца, дзе была яма, падходзіць і чуе, што няйначай у зямлі іграе. А Ахрэм гэтаксама чуе, што хтось ідзе, дый думае: «Вось яшчэ ваўкі бягуць,— тут ужо мне канец». Калі чуе, аж хтось гукае: «А хто тутака грае?» Ахрэм іграць кінуў ды як закрычыць:

— Я, я іграю!

— Ды хто?

— Ахрэм-скрыпач.

— Ды дзе ж бо ты граеш?

— У воўчай яме, уваліўся.

— Дык навошта ж ты граеш?

— Воўка забаўляю.

Падышоў стралец бліжэй, глянуў — і праўда: у адным кутку Ахрэм, а ў другім воўк. Зараз стралец спусціў Ахрэму дручка і выцягнуў яго, а тагды ўжо воўка забіў.

З таго часу больш ужо Ахрэм ніколі поначы сцежкаю нацянькі не хадзіў, бо казаў, што не хоча болей на воўчым вяселлі іграць.

## МАШЭКА

На тым месцы, дзе цяпер стаіць горад Магілёў, зарастала калісь адвечная пушча, куды нават і сонейка божае не заглядала. А старому бацьку-Дняпру было там цесна, і ён бурчаў і сердаваў, пырскаючы пенаю на сталетнія пні, што сціскалі яго берагі.

У гэтым-то лесе жыў тагды разбойнік Машэка, каторы сваёю сілаю і лютасцю наводзіў страх на ўсю тамашнюю старану. Ён быў такі дужы, што адною рукою супыняў васьмярых каней і адным махам вырываў з карэннямі добрыя хваіны. Хадзіў ён у мядзведжай шкуры поўсцю наверх. Хоць даўнейшы народ быў шмат крапчэйшы, як цяпер, але і паўсотняю не маглі Машэку паўздужаць, а калі, бывала, збярэцца проці яго войска, то ніяк не маглі знайсці яго лаговішча і заўсёды пагінуць у лесе, заблудзіўшыся,— каторыя з галаду, а каторыя ад Машэкавае насекі. Хоць людзі жылі тагды вялікімі сёламі, але ніхто не смеў праціўіцца Машэцы, і ён смела прыходзіў у сяло і браў у вочы, што яму трэба, а ўсякі стараўся яшчэ яму ўслужыць, каб хоць дух у целе пакінуў.

Машэка калісь было пакахаў адну дзяўчыну, каторая ім згардавала, і затым ён і здружыўся з буйнымі ветрамі.

Вота ж на дарозе гэтым лесам ехала брычка, у васьмярых коней запрэжаная, а ў той брычцы — якісь малады баярын з краснаю паняю. Раптам з-за елкі выскачыў Машэка, супыніў коней і адным махам кулака палажыў вазніцу. Баярын хапіўся за шаблю і сякануў Машэку па галаве, дык адно шаб-

ля пырснула на яго кудлатай галаве, і Машэка кулаком забіў і яго. А далей, глянуўшы на паню, дужа схамянуўся, бо пазнаў даўнейшую сваю любу. Апомніўшыся, забраў і занёс яе, чуць жывую з пераляку, да сябе ў лаговішча. Тут яна, ачухаўшыся, зразу сцяміла сваё палажэнне і прыдумала, як сабе ў горы памагчы і аслабаніцца ад нялюбага разбойніка. Яна прыкінулася такою ласкаваю, прыязнаю, што ён і паверыў. І раз гэтак пры ёй крэпка заснуў. Тагды яна ціхенька выцягнула ў яго вялізны нож ды перарэзала яму горла. Кроў рэчкаю хлынула з перарэзанага горла разбойніка. Сама яна сяк-так выбралася на дарогу, прыйшла да сваіх і паказала мейсца, дзе зарэзала праклятага разбойніка. Людзі з вялікім наруганнем закапалі цела Машэкі і назвалі той мейсца *магілаю льва*. Недалёчка ад таго мейсца знайшлі вялікі груд, зліты ўвесь крывёю і ўкрыты касцьмі замардаваных Машэкам людзей.

Пасля Машэкі тутака яшчэ доўгі час дзяржаліся разбойнікі, а каб іх адтуль выпляніць, дык валадзеўшыя тою староною князі засылалі туды праступнікаў, каторы пакрысе высякалі лес, і разбойнікі мусілі адтуль уцякаць. З часам на тых мейсцах паўстаў горад Магілёў, а гара тая цяпер называецца Машакоўскаю. На ёй цяпер гарадскія могліцы, імем Машэкі народ наш і цяпер сваіх дзяцей страшыць, калі каторае неслухмяна або гарэзліва.

# ГОД

Нарадзіўся Новы Год, маленькі, слабенькі, маладзенькі; стаў днямі расці, крапчэць і па свету раззірацца, што да чаго належыць дый ходзіць.

Бачыць, на свеце непарадкі вялікія; скрозь Зіма запанавала: усюды снягі залягаюць, маразы трашчаць — у хованкі гуляюць, ветры гудуць, з хмарамі лявоніхі ды мяцеліцы скачуць ды з гурбамі жартуюць. Людзям цесна і цёмна, бо вуліцы пазаносіла роўна з платамі, вокны гурбы пазакрывалі, дый сонейка божае на такія непарадкі і глядзець не хоча. Выбяжыць на неба, дый і то, ухутаўшыся туманам, чым дужэй, уцякае дамоў. Рэдка калі твар свой праз цікавасць адкрые, каб заглянуць на дуроўства ветраў ды маразаў.

Стаў Год думаці ды гадаці, як яму паступіці, як сваю гаспадарку пачаці. І вот клікнуў ён Вясну. Вясна тут як тут у помач яму стала: Зіму вон прагнала, снягі паразмывала, лёды пазрывала, зямлю адчыніла і пусціла рагу на Белу Русь ды на ўвесь свет.

Ветры, убачыўшы веснавую гаспадарку, адмяніліся, сталі рахманыя, слухмяныя, ласкавыя,— адно калі некалі, убачыўшы хмарку, забунтуюцца, зашумяць, запыляць, а як Вясна іх, ушчуняючы, хопіць хорашанька за чуб, за вушы, кінуцца ў плач і пальюцца слёзы буйным дажджом. Паплачуць, паплачуць ды і сціхнуць і шчырэй яшчэ Вясне памагаюць. Сонейка, убачыўшы другія парадкі, выходзіць на неба ўва ўсей сваёй красе і нярада на кароткі супачынак хаваецца.

З адчыненай зямлі пагнала траву, зляцелася

птаства, зверы з нор ды лаговішч павылазілі, папаўзлі вужы, жабы, зазелянелі лясы, дубровы ды гай, зацвілі ўсякія кветкі, загудзелі пчолы, мухі і ўсякія кузулькі і жучкі — усе веснавой гаспадарцы рады.

Ухадзілася Вясна, прыйшло Лета на змену, стала каласы, овачы і ўсякія плады наліваць і спяліць. Людзі сталі карыстаць і ўсё збіраці сабе ў запас, бо ўбачылі, што Год, як скора мужаў, крапчэў, такжа і пачаў старэцца і слабець. Ветры сталі часта ленавацца і ляжаць дзесь пахаваўшыся, так што людзям ажно душна становіцца, або задурываюць часам і бягуць уздагонкі за хмарамі і не так ужо Лета слухаюць, як спачатку, калі яшчэ пахла Веснавым духам. Лета не так бо спраўна, як Вясна,— шмат старэйшае, сыцейшае, а затым і цяжэйшае. Ды стала і яно прыставаць.

Прыйшла на змену яму падстаркаватая Восень. Ветры з Восені пакепліваюць, і той падскочыць, той закруціць, той засвішча, той завые; то, абняўшыся з хмарамі, лятуць-бягуць палямі, лясамі, балотамі і з Восені насмяхаюцца, ажно іх смех па лозах разлягаецца. А тым часам Год старэе і старэе, ужо чуць ногі валочыць, і не дабачыць і не дачуе, сядзіць у бога на печы да пацеры гаворыць. Сонца стала свой твар адвяртаць і ўсё болей і болей у сваёй спачывальні вылежвацца, а Зіма, з таго карыстаючы, памаленьку давай у свае рукі гаспадарку прыбіраць.

## СТРАШНАЕ ЗАКЛІНАННЕ

Васіліха ўстала заранне, досвіту, бо ў яе сёння работы гібель,— ведама, як перад першаю куццёю: трэба і хату прыбраць, і верацёны пахаваць, каб ніхто ніводнага не ўбачыў,— а то бяда, бо верацяно нясхаванае на каляды перакінецца гадзюкаю, і будзе ўсё лета лякаці. Трэба кудзелю схаваці, каб каляда ліха не натварыла. Ды ці мала ў гэты дзень работы ўсялякай?..

Падаткнуўшы спадніцу, Васіліха спраўна чысціла, скрэбла, мыла, кідалася з кута ў кут і ўсю работу перасыпала лаянкай, як то: «А каб цябе! а бадай цябе!» або: «Каб цябе чэрві стачылі! Бадай цябе халера задушыла! А каб цябе качар таптаў!» Дый яно-то і было за што лаяцца: маўляў бы, уся жывёла хатняя заўзялася рабіці ва ўсім наперакор. Тутака куры ўзляцелі на чыста вымыты стол, там трацячок Янка перавярнуў дзежку з мукою і, усеўшыся ў аднэй кашульцы доле, стаў мукою выводзіць па зямлі хітрыя ўзоры. Дый сам Васіль сёнечы няйнача падвараны снуе і работы сабе не знойдзе. І цікавасць, з ім зрабілася гэта са ўчарашняга дню, як да споведзі схадзіў і прычасць прыняў.

Васіліха не вытрывала: дала пляскача Янку і напусцілася ў злосці на Васіля:

— Што ты снуеш, як мара якая? Ці табе работы няма шака?!

Васіль, узняўшы галаву, вачыма ўставіўся на жонку, як бы штось згадаці хацеў, а далей прамармытаў: «Чаму ж?!» Ды зноў даўся ў думу.

Са ўсяго відаць, што Васіль вялікую думу на

ўме мае, катора яго саўсім апанавала і не дае яму дзелам заняцца. Недарма ён апошнім часам усё са Сцяпанам сябруе, з самым страшным чалавекам на сяле.

Сцяпан — вядзьмак: ён можа з чалавекам усё зрабіць, а да таго ж ён служыць у дварэ лесніком і мае загаворану стрэльбу, на каторую сама бяжыць зверына і з каторай ніколі не спудлуеш. Яго то Васіль і частуе заўсёды гарэлкаю ў карчме і вядзе з ім сакрэтныя размовы.

Што ж гэта за дума Васіля мучыць і навошта ён з Сцяпанам гэтак сябруе? А гэта дзеля таго, што Васіль заўзяты стралец і яму хочацца вельмі такой загаворанай стрэльбы, як у Сцяпана. Вось ён і давай таго прасіць, каб яму стрэльбу загаварыў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## НА СПЛАЎ

Не тое ўжо стала наша Палессе, як колісь было! Няма ўжо тае свабоды! Няма ўжо ні тых лясоў нашых слаўных, адвечных, поўных усялякага звяр'я; ні тых балот бесканечных, парослых камышом, плешчаём, сітнягом, маўляў бы, лесам якім, у каторым кішмя кішыць усякае птаства вадзяное. Цяпер усюды знаць «працавітая рука расейскага правіцельства»: усё Палессе парэзана выведзенымі пад лінію канавамі, па каторых сплаўляюць астаткі нашых лясоў у рэкі, а рэкамі — у мора. Дзе былі адвечныя лясы, там цягнуцца парэзаныя ў клеткі палі. Адно чорныя пні, каторых рука чалавечая не паўздужала так скора павыдзіраць, тое месца значаць. Дзе былі непраходныя балоты, дзе толькі дзікі звер ды наш паляшук — ды і то не ўсюды — мог прабрацца, цяпер сцелюцца парослыя буйнаю травою і так жа парэзаныя клеткамі, лугі. Толькі тыя лясы, каторыя казна сабе надзяліла, яшчэ красуюцца, сказаць, у цэласці...

О, бедныя лясы нашы, краса і багацтва наша! Таеце вы, як снег пад гарачым сонейкам, і ўсякі вас стараецца чым скарэй выні́шчыць!

Як толькі казна асушыла нашы балоты, парэзаўшы скрозь канавы, паны з купцамі ўзяліся чым дужы за лясы. Пан рад, што можа лес свой кудынебудзь дзець,— прадае купцу за быля што, а той ставіць сярод лесу шахварню і, пасяліўшыся там, жыве і спяшаецца датуль, пакуль можа, які грош выцісн̈уць.

У сяле Савічах была кантора аднаго багатага таргоўца лесам. Было гэта ранняю вясною, калі

снег пагнала адусюль, і рэкі ды канавы шырока мелі разліваццa. Трэба было спяшацца сплаўляць дрэва.

Вота ж у Савіцкай канторы, у вялікай і вельмі нячыстай, як заўсёды ў жыдоў бывае, ізбе сабралося чалавек больш сарачні нашых мужыкоў, каб наняцца прагнаці прыгатаванае за зіму дрэва да Птыча-ракі. У ізбе стаяў туман, пахла махоркаю і мокрымі анучамі і кажухамі. Усе нараз гаварылі так, што за гоманам нельга было разабраці нічога. Пад сцяною, за сталом, сядзеў брухаты і... сам тарговец са сваім шапарам і запісываў прозвішчы нанімаўшыхся на сплаў мужыкоў. Ён сядзеў важна, спакойна і, не спяшаючыся, ставіў у кнігу свае выкрутасы і раз ад разу падымаў сваё веснаватае ліцо з рудою барадою і хітрымі вочкамі і скоса пазіраў на людцоў. Шапар яго — жыд чарнявы, юркі — усё бегаў, махаў рукамі і, запляваўшыся, крычаў на мужыкоў.

— Гвалт! Не крычэце, не крычэце! Няхай адзін за ўсіх гаворыць! Чуеце? Ша! — крычаў шапар, махаючы рукамі і плёваючы на бараду.

— Што ж, можна, няхай будзе і так... няхай адзін гаворыць,— загаварыў мужык.— Усё роўна. Гавары ты, Яўхім!

З грамады выйшаў Яўхім у белай свіце, не вельмі высок, але ў плячах дужа шырок. Лет яму пад пяцьдзесят было. І ён прыйшоў наймацца з сваім сынам Астапам. Ён выступіў на шаг з грамады і адкашляўся.

— Чакайце, сціхніце! — загаманілі ў грамадзе.— Яўхім гаварыці будзе!

Купец адвярнуўся ад кнігі і з насмешкаю, важна ўставіў свае хітрыя вочы на Яўхіма. Ён ведаў,

чаму людзі так усхадзіліся: ім не спадабалася пасуленая цана, але ён так жа ведаў, што ўсё-такі канец канцом пераможа і заплаціць такую цану, якую сам захоча. Прыказчыкі яго загадзя бочку гарэлкі прыдбалі, катора там жа стаяла і на каторай сядзеў сторож пажылых лет, худы і нікчэмны, і трымаў у руцэ бляшаную кварту напагатове. Людзі памалу сціхлі, а Яўхім зачаў:

— Вось што, пане купец, цану малую даеце. На гэтую цану нельга прыступіці. Па чатыры злоты за лаўку... гэта нідзе не відана! Гэта ж — падумайце самі! — гэта ж марац на дварэ, а вада вялізная будзе... гэтак снег пагнала. Нельга з плытамі ўправіцца будзе... Другое ж, і лодак мала... Па рублю дасце, дык пагонім...

— Але, лодак летась саўсім мала было, саўсім мала,— загаварылі людзі.— А паспытай цяпер у воду па шыю лезці...

— Ша, ша! — зашыкаў шапар, махаючы рукамі.

— Лодкі будуць,— важна адазваўся сам купец.— Я купіў. На гэтай нядзеле прывязут. Старых яшчэ пяць штук есць.

— Куды пяць! — зноў зашумелі.— Адна ж саўсім гніллё.

— Гаварат вам, будуць лодкі! — крыкнуў сам купец.

— Чуеце? Купец кажа, будуць лодкі! — кажа Яўхім.

Людзі заварушыліся. Некаторыя падыходзілі к Яўхіму, штурхалі яго ззаду і шапталі яму на вуха.

— Ну, што ясцо? — спытаў купец.— Цана малая? Такая вяздзе, вяздзе такая цана. Какая цана есць, такую і даю.

— Крыўдуюць,— кажа Яўхім.— Кажуць, што вельмі пакрыўдзілі тых, што дрэва тралявалі ўзімку. Штрапаў шмат пазапісвалі. І цана ад лаўкі... заўсюды рубель плацілі.

— Ге! штрафаў шмат запісалі! Ге, чэрці! — закрычаў шапар.— А колькі дзён не адрабілі? Ге?! — А потым, нахінуўшыся к купцу, штосьці пашаптаў.

— Вот сто, браццы,— сказаў купец, выслухаўшы шапара.— Еслі вы харашо да Пціц дагоніце — прасцу, усе страф прасцу, усё заплачу, што задзярзал. Па рублю не дам: нідзе цяпер па руб не плацяць. Спрасіце, гдзе хаціце. Дам па семдзесят капеек і па кварта водка. Водка — фаін, харошая, крэпкая! Водка цяпер дам, на задатак.

— Ув рот гарэць будзет! — зажартаваў шапар.

— Яно то так, гэта добра,— загаварылі мужыкі.— Адно на Востраве па рублю ад лаўкі плацяць.

— Ну, ступайце на Астраў! — як бы яму ні рупіла, кажа купец.— Пускай там і па дзесяць плотят. Сказана, па 70 капеек цана, а там — как знаеце. Больс не прыбаўлю.

Як бы яны там доўга таргаваліся, няма ведама,— адно купец дагадаўся крыкнуць:

— Хто за семдзесят капеек не хоцат — ухадзі! Эй, запры кран і спрац кварта! Не нада водка!..

Як загаманіў купец так, нашы мужычкі як бы чагось зляkаліся. Не то што б заработкаў не ўтраціць, не то што б гарэлка не ўцякла, а так, проста паверылі жыду, што ён большай цаны даць не можа. Бо, апрача ўсяго, наш народ яшчэ не так сапсован, як другія, і ён як сам праўдзівы і чысты, так і ў другіх справядлівасць верыць.

— Да ўжэ няхай і так будзе! Мо а бог паможа,— адазвалася колькі чалавек. За імі і другія

сталі прыставаць на гэту цану, а некаторыя і не хацелі б прыстаці, да грамада — не адзін чалавек. Дык мусілі і тыя вярнуцца і прыстаць на тое, на што грамада прыстала. Толькі адзін Пахом не паддаўся і хацеў быў іці. Пахом быў высокі і відны мужчына, хоць ліцо яго было бледна.

— Гэй, гэй, Пахом! Куды пайшоў? — крычаў нікчэмненькі, у стоптаных лапцях чалавечак, не пушчаючы Пахома ў дзвярах.— Усе згадзіліся, чаго ж ты працівішся? Хадзем гарэлку піць! Вось зараз давацімуць.

— Не,— кажа Пахом, вагаючыся.— У Востраве рубель даюць, дык я туды...

— Але ж да Вострава міль з чатыры, болей! — крычаў нікчэмненькі.— Ідзем, брат, ідзем!.. Мужчынкі, цягнеце яго, а то ўпіраецца.

Пахом пастаяў, пагадаў, патом страпянуў чупрынаю, махнуў рукою і вярнуўся да грамады, катора стала націскацца і крычаць, каб скарэй запісвалі і гарэлку давалі.

— Ша, паціса, не ўсе разам! — супакойваў купец.— Гэй, хто там наперад стаіць? Заві староста!.. Ты няграматны? На, ціба квітанцыю!.. Староста, стаў пячаць!..

Сталі мужычкі падходзіць чарадом. Іх запісвалі, выдавалі квіткі, а з квіткамі падыходзілі к старасту па гарэлку, а той наліваў ім у што хто падставіць — чы ў гляк, чы ў бутэлькі, чы ў баклажкі, чы ў берасьцені...

І пайшло таго ж вечару гулянне, як бы радаваліся, што зрабілі ўмову на працу, катора і на катарзе ў дзесяць столак лягчэйша...

## НА СПЛАВЕ

Быў хмурны марцовы дзень. Сярдзіты сівер то прыціхне крыху, як бы для таго, каб, адпачыўшы, з новаю сілай закруціць мяцеліцаю, або запыліць дробным дажджом, каторы прамачыў адзежу і праймаў да касцей холадам. Вада сама што разлілася і з шумам неслася канаваю, а дзе берагі былі нізшыя, там шырока разлілася па луках, адно матляліся макаўкі лазняку і кіты леташняга чароту. Снегу па лясох і па ярох было многа, а пры берагох з шэлестам збіваліся дробныя крыгі лёду. Дзенідзе плылі па канавах бярвенні (гэта астаткі праглыных сюдою плытоў, каторыя падбіраюць па дарозе пагубленыя пярэднімі плытамі бярвенні),— знак, што сюдою ўжо ішлі плыты, бо хоць плытнікі і ловяць пагубленыя пярэднімі плытамі бярвенні, але не ўсцерагуцца, каб самым нічога не згубіць.

Вось у тумане на кругазоры паказаліся дзве чалавечыя постаці, каторыя з даўжэзнымі каламі бегаюць то ўлева, то ўправа, то адпіхаюцца, то плыт падлегчаць. Гэта ішоў вялізны плыт, лавак з дваццаць, а два плытнікі — ужо нам знаёмыя савіцкія мужычкі Яўхім з сынам Астапам. Трудна ім было ўпраўляцца, бо вецер шыбаў плытам і трэба было ім вельмі пільнавацца, каб не выкінула на бераг. Ды яны ўжо з гэтым дзелам зналіся, і, хоць прамокшы да ніткі, занятыя труднаю работаю не чулі холаду, і спраўна бегалі па аблітых лёдам кругляках, дзе непрывычны чалавек і разу не ступіў бы.

Але вось яны мінулі лукі, і плыт схаваўся ў лес. У лесе было зацішней; абапал канавы цягнуўся

стары лес. Знізу дрэвы былі заняты вадою, а голае галлё падымалася к небу, як бы рукі, просячы ў бога сонца і цяпла. У лесе не трэба было кіраваць плыта, каторы проста нёсся па тудучай канаве. Астап першы кінуў свой кол на плыт і пайшоў у зробленую пасярод плыта саламяную будку.

— Але холадна,— прамовіў Астап, лезучы ў будку.— Можа папалуднуем, тата? Эх, каб цяпер ганучы перамяніць!

— Вось чаго захацеў! — маркотна сказаў Яўхім.— Як дабярэмась да начлегу, дык абсушымся. На, вот бравэрку, накрыемся ды хлеба ўкусім, а вады маем паддастаткам.

Кажучы гэта, бацька падаў сыну запасную бравэрку, дастаў з-пад саломы бохан чорствага хлеба і, выняўшы з-за поясу ножык, каторы, як ведама, вісеў пры поясе на доўгім раменчыку, і стаў ім рэзаць хлеб, і моўчкі сталі яго спажываці.

— А жыд, каб яго трасца, такі з лодкамі ашукаў! — першы загаварыў Яўхім.

— Усіх, тата, ён ашукаў.

— А ўжо ж усіх! Што ж яму нас адных ашуківаць?! Тут то яшчэ пустое, але вось як у Дзікае балота выберамся, вось дзе паскачам! Бог ведае, як мы без лодкі ўправімся...

— Можа яшчэ не разлілося? — нясмела заўважыў сын.

— Не разлілося! Ого!.. Кажухінскія казалі, што і берагоў не відаць. Там вецер, як дасць, дык без лодкі ані рады! Загоніць цябе ў камышы і кукуй, покуль людзі добрыя не выцягнуць. Хоць і не многа — тры вярсты гэтым балотам іці, а пайдзі паспытай! Вельмі паганае месца...

— А можа, не саб'ёмся з канавы?

— Можа і не. Бог ведае, як удасца. Трэба будзе добра колам папарабляці.

— А каб нам, тата, у лесе прыпынуцца і пачакаць другіх плытоў?

— Не, сынку! Нельга канавы загароджваць. Да чым жа бо нам і затрымаць плыт? Чы ў нас гакі ё, або што? Да і пакалеем чакаючы. Лепей рушайма, абмінём Дзікае балота, а там і да Дзякавіч heнач. А добра цяпер пры агні!..

— А ўжо ж, чаму не!.. Дома цяпер, нябось, так жа палуднуюць...

— У Дзякавіч пераначуем,— кажа бацька,— а там да Птыча ўсяго 20 вёрст застанецца. Назаўтрае і ў Птычы будзем, дый дамоў... Плыты здадом дубавікам, сядзем на чыгунку і да хаты. Добра чугункаю ехаць: і цёпла і шыдка.

— Вёрст 10 у гадзіну пройдзе? — пытае сын.

— Да ўсе трыццаць!..

— Вось яе! — Астап нават прышчурыўся.— А па Птычы, тата, хто плыты пагоніць?

— Там ужо другія, грамадамі з атаманамі ды дубавікамі. Там гэтыя плыты павяжуць у адзін вялізны — не так, а добра — і паплывуць уніз да Прыпяці, а Прыпяць — у Днепр да Кіева. Там астаноўка будзе. Наз'язджаецца купцоў дрэва перакупляць. Быў я раз у Кіеве, на места хадзіў...

## ТРЫ АЛЕШЫНЫ

На краю лесу, недалёчка дзюрчачай па каменнях рэчкі, раслі з аднаго карэння тры алешыны. Раслі яны слабодна і бучна. І вот настала восень 1893 лета; і нашы вольхі скінулі на зіму свой ліст, як заўсёды; адно, як прыйшла вясна, то ўжо болей сваіх веснавых шат не апратывалі, а стаялі голыя і чорныя як улетку, так і зімою. І дзе хто дзівіліся, і стараліся разгадаці прычыну наглай смерці трох сёстраў. Ды нельга не ведаючы разгадаці таго, што толькі бог і адзін чалавек ведаюць. Ды і трудна паверыць, каб ад такой прычыны разам ссохлі такія бучныя, гладкія, здаровыя і жывучыя, як усякая вольха, тры дзярэўцы. Вота ж, хто хоча, няхай паслухае, што паведала сваім таварышкам сава, на той час тамака лятаўшая.

Знаеце, сястрыцы, тую дарогу, што ярам да рэчкі спускаецца, і дзе пры выхадзе з яру да рэчкі з аднаго боку на грудку, між зарасніку, відаць белы крыж, а з другога боку, на супраціў таго крыжа, высока над самым абрывам, стаяў стары выпалены ў сярэдзіне дуб? Павінны вы добра тыя месцы знаць, бо там дужа красныя горы, зараснікі, старыя дуплянастыя дубы, вербы, бярэзіны і ільмы; многа там гарэшніку, а ўнізе — рэчкі працякаюць і багата там для нашае сястры жыру: вавёрак, мышэй і птушак усялякіх. Я, знаючы гэта, часценька тудэма пралятала і часта дзівілася на дзяўчыну, што кожнага вечару хадзіла пад той крыж белы, і на дзецюка, каторы хадзіў часта пад той дуб стары. Часам яны спатыкаліся — прывітаюцца, бывала, як мае быць, скажуць да сябе слоў пару і разыдуцца.

Але часцей усяго мне прыводзілася бачыць, як дзяўчына пад крыжам богу малілася, а дзяцюк стаіць, бывала, панурыўшыся, к дубу прысланіўшыся, або сядзіць пад абрывам ногі звесіўшы, а бывала, што і да раніцы праляжыць там пад кустамі ліповымі. Абое яны былі каравокія і чарнабрывыя, ростам невысокія, і ён сабою неказісты быў, адно вочы неяк хораша глядзелі, і яна была не так красна, як гарна.

Так, па праўдзе сказаўшы, я да іх прывыкла і іх палюбіла і часта, сеўшы на дубе, на іх пазірала. Раз бачыла, як яна малілася, а ён, зняўшы шапку, стаяў у кустах у яе за плячыма і, як яна, пачуўшы, мае быць, яго ўздох, азірнулася,— ён без ніякага шэлесту нырнуў уніз, у гушчар, і потым яго ўбачыла па другі бок яру на абрыве тут, пад дубам. А раз бачу — сядзіць яна пад крыжам, а перад ёю той дзяцюк стаіць, к крыжу плячом прысланіўшыся, і аб чымсь гаварылі, адно я не разабрала, аб чым, бо штось не вельмі я гэту чалавечу гутарку цямлю. І як яны адтуль уходзілі, то яна ішла ў той двор, што там за рэчкаю, а ён ішоў на гору, а там — або ўлева гарою, праз хвайнячок, дзе шляхта дрова рубае і дзе коні пасе, у той хутарок, што за рэчкаю над жывою крыніцаю; або ўправа з гары, каля саду апусцелага, абсаджанага ельнікам і гарэшнікам, дзе жыве тая імесць тоўстая, з сівымі валасамі, што многа катоў і сабак гадуе, у тую сядзібу, дзе з трох бакоў лес, а з аднаго — поле, дзе між лесу логам працякае рэчка і дзе недалёчка хаты, у лесе, стаяць адвечныя тры хваіны і дзе раслі тры вольхі, што пасля адной зімы не распусціліся і так стаялі, аж пакуль не спарахнелі. Калі раней вяртаўся ён дадому, то садзіўся штось пісаці.

А раз бачыла, як ён, седзячы наперад клеці з двума мужыкамі — адзін, што тут за лесам жыў і хадзіў дошкі пілаваці, а другі з жоўтымі вялікімі вусамі, што ходзіць ківаючыся і жыве шчэ далей, за лес, у вёсцы,— аб чымсь гутарку вялі, і так мне здаецца, што аб зямлю гаварылі, бо часта паказвалі на поле і на лес.

Раз лятала я над тым дваром, дзе тая дзяўчына жыла, аж бачу — стаіць сівая акульбачана каняжына, повадам за штахэты пры хаце тае дзяўчыны закінута, а на перамеці тае хаты, на лавачцы, сядзелі яны абое і перакідаліся ціха словамі, а потым яна ўскінула галаву і, страсянуўшы ёю, штось сказала. Тады ён пабялеў неяк, зацяў зубы, скочыў на каняжыну і панёсся, як утрапёны, праз масток і ярам угору. Я гэта пацікавілася і паляцела за ім назіркам. Бачу — прыляцеў на двор к сабе, садраў з каняжыны кульбаку і ўздэчку, кінуў іх назем, каняжыну ў хлеў пусціў, а сам пайшоў к лесу да як паў пад тыя тры вольхі, так там і праляжаў да раніцы, як нежывы, адно час ад часу ўздыхаў цяжка, а як стала днець, то залез у прыстрэшак на сена, і што ён рабіў далей — не ведаю, бо настаў дзень, і я мусіла куды-небудзь прыпыніціся ў зацішак. Гэта было ў жытняе жніво. Тады гэтыя вольхі былі ўкрыты бучным зялёным лісцем. Прыйшла восень, ліст асыпаўся, і як настала зноў вясна, то ўсякае дрэва аджыло і зазелянела, а тыя вольхі болей не распусціліся і стаялі так доўга мёртвыя і голыя.

Прайшло зім дзесяць чы болей, і прывялося мне, лятаючы каля блізкага мястэчка, убачыць яшчэ таго дзецюка, ужо пастарэлага, як ехаў адной

марознай ночы па завеянай дарозе, між двух жандараў, з мястэчка на паўстанак. А што яе, то і цяпер спатыкаю часам, як паляту Вусаю далёка ўніз,— так там ё млын. Мае яна сабе мужа мельніка з вачыма светлымі, навыкаце, а сам такі гладкі, мяккі. Маюць яны ўжо і дзетак з пару.

# ЗАБОЙСТВА Ў ПУШЧЫ

Па пушчы Дулебскай, у ясны дзень, калі млявае лісце на лесе пыша свежасцю і пахам, наводзячы чалавеку столькі гадак усялякіх, і цёплы веснавы воздух размарае яго шлункі прыятнаю млявасцю, і хочацца расцягнуцца дзе на галу на зялёнай мураўцы,— прабіраецца вядомымі яму сцежкамі дулеб, высокага росту, стройны, каравокі, з невялікаю чарняваю барадою, у белым летнім дулебскім насоўчыку, у сіняй з зялёным кантам шапцы, з гербам і бляхаю на рэмені торбы з лазовых лапак, катора вісіць у яго з левага боку, з калітою і нажом пры поясе і са стрэльбаю за плячыма. То ідзе стралец Жыцінскага абходу Дулебскага аб'езду, лясоў графа Патоцкага — Даніла Цэдрык. Ён верна спаўняе сваю службу, да і па злосці нікога не падасць, як то часта ў другіх стральцоў вядзецца, дый перад ляснічым падлізнікам не будзе.

Вот ён прабраўся праз балота па кладках, па каторых умеюць хадзіць адно палешукі, і выйшаў на голы бор, за каторым зачыналася цёмная старына, як бездна яка. Выбраў ён сабе месца на галу пад векавым стаілам, падзівіўся на муху божую, катора дужа іскавала ля дубовае сіці, што злева ўверсе, выняў з торбы хлеб і сала і расцягнуўся ў верасе, палажыўшы поплеч сябе стрэльбу, стаў рэзаць і спажываці. Перакусіўшы крыху, рэшту хлеба схаваў у торбу і, падпёршы ліцо рукамі, задзівіўся на пушчу. А ў пушчы ціха-ціха ў палудзённу пору, спакойна так і велічава, і чуеш сябе панам у гэтае пушчы, дзе няма табе прызначанае дарогі, ні платоў, ні абмежкаў. Чуеш поўну слабо-

ду і здаецца б так і не выходзіў з пушчы. Хіба згадаеш пра сям'ю, катора дома есці захоча, а як прыйдзе зіма, то і самога з пушчы холадам да галадам выжане. Так і Данілу думаецца аб дзецях, каторых ён так любіць. Мае ён сына Міхалку, падростка, і двух дачок яшчэ малых. Хацелася б яму падвучыць сына граматы, да нельга: раз — што ў Дулебах, у глухім сяле сярод пушчы, школы няма; другое — работу дома некаму рабіць, а тут і годы трудныя насталі...

І думкі яго панясліся ад будучага назад у прошлае. Прадсталі перад ім усе радасці і гора яго, і моладасць, і дзіцячыя годы яго. І мыслі яго так шыбалі і шыбалі што далей і далей, аж у той свет паляцелі, і вочы яго заплюшчыліся, і галава апусцілася да зямлі. І сняцца яму дзівы дзіўныя: як бы то ён перад сваім графам-пакойнікам стаіць, да і граф той як бы не граф, а якісь пан. І зіяе той пан якімсь светам дзіўным і ўвесь як бы празрысты, так што праз яго ён сваё сэрца бачыць, са ўсімі праграшэннямі, каторыя, пахадзя на тоненькія гадзючкі, і стараюцца джалам тое сэрца ўкалоць. І не можа ніяк згадаць, дзе ён пана таго бачыў, хоць, здаецца, знаёмы. Дый то здаецца, не толькі вачыма яго бачыць, а чуе яго ўсімі шлункамі, і перапаўняецца яго душа невядомым дагэтуль чуццём — не то страх які, не то радасць,— і ад гэтага сільнага прахапіўся ён, а сэрца яго, як не выскапачуцця чыць, так калоціцца.

Бачыць, і сонца ўжо дужа к заходу схілілася. І хацеў іці ён да хаты, да штось яго ў пушчу цягне, у тую старану, што за галам ляжыць і, здаецца, уніз дзесь зыходзіць. І хоць не хочацца яму туды іці, а ідзе.

Ідзе ён у падар, дзе ліпнёг слаўны падняўся, і любуецца ён, расхінаючы высокія гладкія ліпкі, каторыя мяккім сваім лістом ласкочуць яго па ліцы. І такі душа яго дулебская не вытрывала, і супыніўся перад самым гладкім, папаўшымся яму ў вочы, лутком і ўжо ўзяўся за нож, штобы яго зрэзаць, як чуе з глыбі падару ціхі мяккі, знаёмы ўсім палешукам трэск, як бы хто лісце абшморгіваў. Забыў ён свайго лутка і, замкнуўшы нож, нячутнаю, спорнаю ступою пакраўся ў падар, бо пазнаў, што хтось лыкі дзярэ.

Прабраўся ён па гнілому калоддзі, па крапівах ды папаратніках, у каторых мясцамі ён утапаў з галавою, і, дайшоўшы старога дуба, з пакрыўленым падкуром, стаў і пастаражыў вушы. Чуе — вот, вот за балоцінаю, паросшаю плюшчаем, касачамі і мячэўнікам, лыкі дзяруць. Ён акружыў балоціну і кінуўся ў гушчар, адкуль чуваць быў трэск.

Зараз падняўся гоман, затым хтось дзікім голасам крыкнуў, потым пачуўся стогнат, а далей усё сціхла, толькі чутно было шэрах і трэск, як бы ўцякала двух або трох чалавек, да і то скора заціхла. І пушча зноў стаіць панява і маўчыць, як бы нічога не сталася там.

А сонца штораз ніжэй і ніжэй клоніцца — уходзілася, бач, беднае, за ўвесь веснавы доўгі дзень, і яму пара сапачыць. Вот прыляцеў глушэц на агромністу асіну і стаў набіваць сабе гарляк сочным асовым лісцем. Вот запішчала рабка, склікаючы сваіх куранятак, а вот ад рэчкі Жыцянкі пайшоў посвіст салаўя. А вот і сонейка, укутаўшыся чырвоным пакрывалам, зайшло на спачынак у сваю спачывальню. А дома Даніліха жджэ з вячэраю мужа. Жджэ і не дажджэцца, і думкі благія яе душу

штось трывожаць. Забег позна вечарам да Даніліхі другі стралец дулебскага абходу, Сцяпан Слабко, і, пачуўшы ад яе, што Даніла яшчэ з лесу не прыходзіў, папытаўся яе супакоіць словамі: «Вот наўда! Знаць, засеў на каго.., чы то пяршына стральцу ў лесе начаваць?» І пабег дадому.

Прайшла для Даніліхі трывожная ноч, а Данілы няма. Пайшла трывога к аб'ездчыку, к лясьнічаму, к прыставу. Сабралі стральцоў, паліцыю, нагналі народу, пайшлі розыскі, а Данілы як няма, так няма. І не знайшлі яго тады, а толькі, як раз'ехалася паліцыя, арыштаваўшы калькіх дулебцаў, пастух дулебскі зьнячэўку набрыў на безгаловага мярца, падбітага пад гнілую калоду, у каторым прызналі Данілу.

Прыехаў следавацель, доктар, паліцыя: саставілі пратакол і паехалі. Данілу пахавалі, арыштованых павыпушчалі. Адміністрацыя тае меснасці назначыла дажыватную дапамогу Данілісе па 3 рублі ў месяц, а вінаватага такі не знайшлі.

Потым праз гадоў два на трэці як бы аказаўся вінаваты. За Мацеевічамі жывуць шляхты Цвіркі, і раз, як падраліся, то адна Цвірчыха, выскачыўшы з хаты, уцякаючы ад мужняга брата, закрычала: «Што? Ты і мяне хочаш забіць, як Данілу?» Суседзі пачулі, падказалі; тых Цвіркаў пабралі, да нічога не дайшоўшы, бо тая Цвірчыха стаілася, адпусцілі іх. Так яно і засталося.

## НАШЫЯ ПТУШКІ

### Варона

Кожны — і стары і малы — знае варону, птаху шэрую з чорнаю галавою і чорнымі крыллямі. Плодзіцца яна па ўзлессі, каля палёў, каля рэчак; жывіцца ўлетку хрушчовымі чарвямі, ходзячы за сахою, але выпівае часам яйкі ды выядае малых галышанят іншых птушак; хапае часам гусянят, качанят і куранят.

Голас у вароны брыдкі, ды і сама яна не вельмі хароша. Варона прыносіць чалавеку карысць, выбіраючы чарвей, але падчас робіць і шкоду.

### Крумкач

Крумкач, іначай воран, ё птаха варонняй пароды, адно большы за варону. У крумкача пер'е скрозь чорнае з пералівам; дзюб у яго тоўсты, крэпкі; ногі гэтаксама. Вока мае быстрае; постаць яго маладзецка і выражае сілу.

Крумкач любіць адзінокае жыццё. Ён закладае гняздо яшчэ зімою дзе ў вялікім лесе на высокай яліне. Стадамі крумкачы не лятаюць,— рэдка бывае, што збяруцца штук пяць-шэсць. Жывіцца крумкач падлінаю. Жыве вельмі доўга,— кажуць, што да сотні гадоў.

У нас дзецям кажуць, што крумкач затым так рана плодзіцца, што пайшоў з мурашкаю аб заклад, хто большую кучу за ноч наносіць, той будзе есці другога. Крумкач з крумкачыхаю насілі-насілі і на гняздо сабе не панасілі. А мурашка, як склікала ўсіх сваіх сясцёр, дык за ноч муравейнік стаў.

Дзеле таго крумкач стаў заранне гняздо закладаці, каб, пакуль мурашка прачнецца, можна было дзяцей пагадаваць, а то мурашка нападзе ды паесць іх.

Крумкача ўважаюць у нас за птаха злое варажбы.

Дражняць яго ў нас гэтак:

— Кум, кум, табе мяса, а мне кроў, кроў, кроў!

Гэтак быццам ён воўка кліча.

Пра крумкача спяваюць у песнях. Яго можна навучыць гаварыць.

## Груган, або грак

Гэтакі самы чорны, але шмат брыдчэйшы і слабейшы за крумкача, ё крыклівы птах груган, іначай грак...

Груганы трымаюцца заўсёды вялізнымі стадамі. Плодзяцца ў садох, гаёх, дзе многа людзей ходзіць, бо маладыя груганяты любяць прыглядацца звысоку. Груганы любяць таварыствы. Яны робяць свае гнёзды адно каля другога, як можна бліжэй, і на адным дзераве бывае часам гнёзд з дваццаць і болей.

Груганы жывяцца ўсялякіміападкамі, хрушчовымі чарвямі і размокшым збожжам. Трымаюцца больш каля гарадоў, але ўвосень лятуць на вёскі, дзе цэлымі хмарамі ўкрываюць раллю.

Пра гругана, як і пра крумкача, гаворыцца ў казках.

## Галіца

Увосень з груганамі лятаюць па палёх і чапляюцца па стартах меншыя за іх, харашэйшыя і спраўнейшыя птушкі галіцы. Яны чорныя з сівава-

тымі галоўкамі. Жывяцца тым, што і груганы. Плодзяцца ў комінах і розных дзірах у муры.

Галіца, як і груган, ё гарадская птушка. Яна прыносіць чалавеку найболей за ўсіх варонніх парод карысці.

## Сарока

Да варонняе пароды належыць і белабокая сарока. Сарока мае доўгі хвост; вельмі рухавая і цікавая птушка. Яна менша і старанцейша за галіцу. Сярэдзіна яе тулава белая, а перад, зад і крылле чорныя. Плодзіцца сарока нізка ў густым маладняку. Яна не любіць вялікае кампаніі. Жывіцца ўлетку чарвямі, яйцамі і маладымі, яшчэ голымі, птушатамі, а зімою падлятае пад хаты ды збірае на сметніку ўсякія ападкі.

Пра сароку кажуць у казках, загадках і ў дзіцячых песнях. Калі сарока скача па плоце, у нас кажуць, што гасця варожыць (павяшчае). Сароку ўсе любяць, хоць, як у казках кажуць,— яна першая прыслужніца ў чараўнікоў.

## Сіневаронка

Сіневаронка дужа красная пер'ем птушка: з-пад споду і шыйка блакітная, крыллі сінія, як васілёчак, спінка ружова-чорная. Плодзіцца сіневаронка па дуплох. Яна любіць адзіноту. Жывіцца чарвямі і вусенем. На зіму ляціць у вырай. Голас у сіневаронак, як і ва ўсіх варон, нехарошы, адно кракае. Пра сіневаронку людзі чамусь не гавораць ні ў песнях, ні ў казках.

## Сойка

Гэтаксама харошая птушка сойка. З галавы яна чырвона-ружовая, да хваста пераходзіць у сівы цвет; хвост чорны, пад хвастом белыя лапінкі; у крыллях — доўгае пер'е, чорнае з белым, а па версе пакрыта кароткімі перцамі пярэстымі ўпоперак трохцветнымі палоскамі: сінімі, белымі і чорнымі. На галаве мае чубок. На шчоках праз вочы ідуць ад клюкі чорныя лапінкі.

Сойка — смелая і бойкая птушка. Яна хоць і варонняй пароды, але шмат паходзіць на імялушку, саракапыта ды саракача, якія напамінаюць ужо каршунову пароду.

Сойка робіць больш шкоды, як карысці, бо выдзірае гнёзды птушак. Яна то чырыкае, як сарока, то канюхом кігікае, то савою загукае. Плодзіцца сойка невысока ў густым лесе.

Ва ўсіх варонніх парод яйцы сінія або шэра накрапленыя, як бы мазкамі.

## Шпак

Як бы пераход ад варон да пявучых птушак становяць шпак і мірэза, або вілга, а за імі ідуць іншыя певуны: дразды з салаўём і галавакрутам на канцы.

Шпак — харошая птушка. На колер ён чорнашэры з залаціста-зялёным пералівам, і кожная пярынка закончана сярэбістым астрочкам. Ён мае такую натуру, што пераймае ўсякія галасы. Шпак і загускаю загагоча і як баранавалок, каня поячы, засвішча; то салаўя перадражніць, то курыцу-квактуху, а бывае, што і гутарку людскую пярэйме.

Шпак, як і ўсе пявучыя птушкі, прыносіць людзям вялікую карысць, нішчачы ўсякую чарву, як на полі, так і ў агародзе, у садох і лугох. Плодзіцца шпак у дуплох.

Дзе людзі пазналі, якую карысць прыносіць шпак, там ставяць усюды на высокіх тычынах і на дрэве ў садох дзеравяныя скрыначкі з дзіркаю ў баку. Там шпакі ахвотна робяць сабе гнёзды.

## Мірэза і дрозд

Мірэза, іначай вілга, развесяляе сваім свістам сады і гаі. Яны парамі ўсё пералятаюць з месца на месца, пасвістваючы ды пакрэкваючы.

Далей — дразды: чорны, цвіркун, вялікі і малы. Усе дразды хораша спяваюць, злашча заходам сонца, сеўшы на самай макаўцы дрэва.

Цвіркуны і вялікія дразды трымаюцца грамадою і гнёзды робяць недалёка адзін ад другога. А чорныя і малыя жывуць апрычна па сабе і гнёзды робяць у гушчары нізка. Гняздо малога дразда значна тым, што з сярэдзіны гладкае, а міска глыбокая, круглая, вылепленая гнілым дзеравам, а іншыя высцілаюць травою, злепліваючы яе балотам.

Дразды нясуць па 4—5 яец. Яйцы сінія, а ў некаторых накропленыя, як у вароны.

Дразда дражняць гэтак: «Свініна-псіна, а дрозд — добрая звярына: палажыўшы кусок сала, была б добрая страва».

## НЁМАН

Ой, Нёман цячэ, Нёман плыве
Ад нас у літоўскія зямліцы.
А хто там пайме, хто разбярэ
Шопат і гоман нашай рачыцы.
Ой, многа ж яна
З сабой унясла
Нашага шчасця, славы і гора
З сваею вадой,
З нашаю слязой
З краю у край аж да сіня мора.

* * *

Ой, шмат жа прайшло,
(Як то было)
Вякоў над нямонскімі вадамі,
Як улез к нам госць,
Моў у горла косць —
Немец загаспадарыў над намі.
Ён нас выбіваў
Ды крыжаваў,—
Думаў саўсім нас са свету звесці.
Ды лясы былі,
І лясы раслі,
Дзе не мог вораг да нас далезці.
Як ні бывала
Ціха стала,

Бо збіралась вялікая сіла
Па нашых лясах
І балатах,
Моў смерць вражжа, нямецка хадзіла.
Ой, страшан быў гром,
Як грохнуў бо ён,
Бо аж светам усім скаланула.
Увесь свет закіпеў,
Свет заравеў...
Да ўсё тое даўно прамінула.

*1893 г.*

## НАШ ПОКЛІЧ

Штось Нёман наш ціхі прачнуўся,
Ў пасцелі сваёй спеляхнуўся
І хвальку за хвалькай ціхенька пагнаў,
Ад краю да краю ганцоў ён паслаў,
Ад рэчкі да рэчкі,
Уздоўж і папярэчкі
У Шчару, у Сулу,
У Лошу і Вусу-раку.
Гэй, мы, хлопцы-наднямонцы,
Гукнем разам, гукнем разам:
— О — гоў!
Ой, не адзін Нёман прачнуўся,
Бо і лес чагось пахітнуўся,
І вецер, сарваўшысь, лісцем зашумеў,
Ды па полі і луках ён паляцеў,—
Колас к зямлі прыгне,
Кветку красну сарве,
Птушку пабудзе.
Ой, на свеце штось будзе!

Гэй, мы, хлопцы-наднямонцы,
Гукнем разам, гукнем разам:
— О — гоў!
Прачнуўся і наш наднямонец:
Малад і стар, мужык і хлопец.
Ой, старшыя чагось зварухнуліся,
Як бы бяды якой спалахнуліся.
Ой, друг к дружку ідзе
І суседа вядзе,
Люлек не курaць,
Знаць, штось важнае судзяць.
Гэй, мы, хлопцы-наднямонцы,
Гукнем разам, гукнем разам:
— О — гоў!
Ой, гора жа, гора над намі,
А ўсяму вінаваты самі,
Бо мову прыродну мы забываем,
Апратку, звычай на чужы мяняем.
Гэй, да схамянемась,
Да са сну прачнемась!
Згоду ўраім,
Што злога — паправім!
Гэй, мы, хлопцы-наднямонцы,
Гукнем разам, гукнем разам:
— О — гоў!

*1893 г.*

## НАШ СЫМБОЛЬ

Адважна, брацця, наперад ідзеце
Цвёрдай і правай ступою!
Кожнаму смела у вочы глядзеце,
Праўду нясеце з сабою!

За родну краіну, звычай і мову,
За гонар груддзю ставайце!
Да будзьце верныя сваему слову,
З праўдай заўсюды трывайце!
Тады вы усякую зможаце сілу,
Ворагам прыйдзе скаранне!
Правым дасць бог нарадачку мілу,
Шчасце і радасць настане!

*1893 г.*

## ЗГАДКА ПРА ГАЛУБКА

Ой, ветра ж ты мой,
Ой, буйны ты мой,
Дзе ж цябе крыллі насілі?
Дзе ж ты бываў,
Да што ж ты чуваў,—
Мо быў пры магіле?
Можа пры той,
Ветру ты мой,
Дзе Галубка зложылі?
Ой, казача ты мой,
Ой, славен ты мой,
Не доўга ж ты красаваўся!
За край ты свой,
А разам — і мой,
З ворагам ты спатыкаўся.
(Ды) смерць ця дасягла
(Хоч рана прыйшла)
Уражай нямецкай рукою.
Хоч не доўга жыў,

Да многа зрабіў.
(Ды) часы прайшлі з вадою...
Іншы часы — прайшлі,
Другі людзі сталі,—
Забылі ця, Галубочку.
Памяні ж ты яго,
Віцязя таго,
Хоч ты, магільны кваточку!

*1893 г.*

* * *

Ой, у полі вецер вее,
Маё сэрца чагось млее.
Паняволі аж прыстанеш,
Сваю любу як згадаеш.
Ой, заўсёды так бывае,
Калі верна хто кахае,
Што сваею меркай мерыць:
Гляне дзеўка і то верыць,
Што не чужа яму ёна,
Хоць другому нарачона.

*1 квегня 1894 г.*

* * *

Выйду на гару высоку,
Пад бярозу адзіноку.
Гляну кругом, азірнуся,
На свет божы падзіўлюся.

Буду думаць дый гадаці,
Як мне гора ўкаратаці:
Чы не ўзяці ажаніцца?
Чы ў людзі дзе пусціцца?
Чы ўсё на свеце забыўшы,
Чаркаю гора заліўшы,
У карчомцы мне гуляці,
Свайго веку караташі?

*15 травеня 1896 г.*

## БЕЛАРУС

Гэй, русіне! Што так зажурыўся?
Чы пра Русь ты сваю шчэ не забыўся?
— Ша! Як смееш такое гадаці
І такія рэчы ў голас павядаці?!
Хіба ты забыўся, як цар праваслаўны,
Айцец — бацюшка Расіі праслаўны —
Усім русінам прыказ такі даў
І рукою уласнай яго падпісаў,
Што б русінаў болей не было на свеце,
А ўсе расіяне — маскоўскія дзеці,
А хто ся адважыць русінам ся зваці,
Таго у ссылку або расстраляці!

*3/IX. 1899 г. Перапелец*

## НАША ДОЛЯ МАЛАДЗЕЦКА

Ой, коціць, коціць чорная хмара,
Неба закрывае,
Ветрам патыхае,
А пад дубам стаіць хлопцаў пара.

Пра штось яны размаўляюць,
Штось яны гадаюць;
У сэрцах у іх агонь божы гарыць,
    Не ўсяк яго цяміць,
    Іншы ў грэх ставіць.
Праўды жадаюць, аж вока блішчыць,
Дружбу завяраюць.
А то ім, бедным, і не на вум,
    Што ё сіла дзіўна
    І не раз праціўна
Ва ўсім бо тым, што чалавек іме.
    Хмара пракаціла,
    Зорка засвяціла,
Вецер узняўся — хмары зноў загнаў;
    Зараз, што бліснула,
    Чуць толькі мігнула,
Зноў у чорныя хмары захаваў.
    Хлопцы дабраліся,
    Мыслямі зышліся,
Камусь гэта не пад нораў прыйшлось:
    І іх пахапалі,
    Розна разагналі.
Памучыўшы іх, колькі уздумалась.
    Мусілі расстацца,
    Навек распрашчацца...

*Грудзень, 1902 г.*

## ПЛАЧ БЕЛАРУСА

Ой, краіна мая бедна,
Ворагамі скута,
Пі сво гора ўжо да дна!

Ды слаба атрута...
І здаецца, ужо мёртва,
Паны так казалі,—
Ўсё цямнота да галотва,
Усе так прызналі.
Бо мы носім світу шэру,
Нікога не крыўдзім,
Мы працуем бо праз меру,
Ды шчасця не відзім,
Адно панству адрабляем
За патрэбы нашы,
А ўсё неяк патрапляем
Паном у закарвашы.
Бо мы бедны, мы галодны,
Не умеем круціці,
І не знае люд наш бедны,
Як ў раскошы жыці.
Хворсаў панскіх мы не знаем,
Бо ўжо нам магіла;
І мы самі ўжо не сцямім,
Чым Беларусь была:
Што багата колісь была,
Між народаў слаўна,
Што навукай колісь слыла,
Вайной была спраўна.
І хоць рэчкі нашы плывуць,
Шумяць ачарэты,
І хоць людзі нашы жывуць,
Цемнатой адзеты.
Хоць, як мёртва, та краіна
Дрэмле у папелі
І пад бічам цемравіны
Усе занямелі.
Пакапаўся б ў тым папелі,—

Іскарка б бліснула;
А каб ветры наляцелі,
Полымя б шыбнула.
І зацвіла б наша ніва
Краснымі квятамі...
І Беларусь та журліва,
Што нікне з лятамі,
Ўзварухнецца, ўстрапянецца,
Узвядзе плячыма,
Ў нову шату апранецца
І празрыцъ вачыма.

*11. VIII. 1904 г.*

## НА МАБІЛІЗАЦЫЮ

*(8—22 снежня 1904 г.)*

Загудзелі лясы, боры,
Засвісталі ветры ў полі!
Застагналі бацькі, браты,
Зажурыліс кумы, сваты;
Загаласілі жонкі, маткі,
Заплакалі і дзяўчаткі.
Аб'явіў бо цар па сёлах,
І па местах, і па дворах
Сабірацісь ўсім мужчынам,
Запасным бо «ніжнім чынам»
І ў Манжур'ю дзесь ступаці,
Кроў гарачу праліваці,
Бо яго святлейшым панам
І праслаўным генералам
У патрэбе сталі грошы
Для іх лепшае раскошы,—

То на трункі, то на карты,
То на розны смачны жарты.
Ты, халопе, будзь слухмяны
І не будзь, як корч каляны!
Аддай грош апошні з хаты,—
То бо кажа пан пузаты,
Сам міністар з царскай волі.
Не бяда, што ты ў няволі.
Грошы даўшы, яшчэ трэба
Прыстарацца дома хлеба,
Бо ця тутка як загоняць,
Так і вочкі там прыслоняць
У чужой там дзесь краіне,
У няведамай пустыні.
Чы ад кулі, чы ад міны,
Чы ад лютай хваробіны;
Чы галоднай смерцю згінеш,
Чы з марозу дзе застынеш,
Рэдкі муж бо з вас той будзе,
Што да хаты цэл прыбудзе.

*23 снежня 1904 г.*

* * *

Які ж то вецер буйны грае
Ад Дзвіны, Сожы да Карпат?
Яко то ліха вызірае
І з тых мужыцкіх бедных хат?
Гэй жа ўраз! Гэй жа ўраз!
Гукнямо,
Каб усе сляпыя нас пазналі! (2)

Мы тыя, што ўсіх вас кормім,
За ўсіх вас церпімо;
Мы тыя хлопцы-радыкалы,
Што скінем цямноты ярмо.
Гэй жа ўраз! Гэй жа ўраз! Гукнямо,
Каб усе сляпыя нас пазналі! (2)
Мы тыя бедныя рэкруты,
Гарматна мяса на вайну,
Каторых цар і доля люта
Жане за мора ў чужыну.
Гэй жа ўраз! Гэй жа ўраз! Гукнямо,
Каб усе сляпыя нас пазналі! (2)

*1905 г.*

* * *

Салавейка мілы,
Ты красна спяваеш;
І ноччу і рана
Ты гай ажыўляеш.
За красны ця песні
Людзі пахваляюць
І пявучых птушак
Царам называюць.
Ды ты бо на хвальбу
Нічуць не ўважаеш:
Шэра тваё перца,
Скромна пажываеш.

*20.IX. 1906 г.*

* * *

Жайваронча малы,
Птушачка ты гожа,
Як чуць свет займецца,
Узнімешся з збожжа,
Над нівай ўзаўешся,
З песняй дзень спаткаеш,
Весела ратая
Ў полі прывітаеш.
Песняю сваёю
Яму чэсць узносіш,
Ды уцеху людзям
Ёю ж бо прыносіш.

*20.IX. 1906 г.*

* * *

Сонейка прыгрэла,
І вясна настала.
Траўка зарунела,
Зіма дзесь прапала.
Ластаўка з выраю
Пад радную стрэху
Весела шыбае,
Нам нясе уцеху.
Родны край вітае,
На ўзярэддзі сеўшы.
Летучы да дому,
Дзе ўзгадавалася,
У нашу краіну,
Прыгод не ўбаялася.

*23.IX.1906 г.*

## ПАЛЕССЕ

Па-над Шчарай і над Пцічам,
Над Бярозай і над Случам,—
Дзе та Прыпяць прабягае,
Піну, Горынь што прыймае.
Гэй, Палессе, Палессе!
Скрозь балоты залягаюць,
Лясы цёмны зарастаюць;
Па дрыгве каза праскача,
А на стозе воран крача.
Гэй, Палессе, Палессе!
То з чароту качкі хлынуць,
Ды у лозах ваўкі выюць.
Паляшук у шэрай свіце
Век гаруе, штобы жыці.
Гэй, Палессе, Палессе!
Сячэ дровы, лес сплаўляе,
То са стрэльбай прабягае,
У смалярні смалу гоніць,
То па рэчках рыбу ловіць.
Гэй, Палессе, Палессе!
Гарэ ніўку пяшчаную,
Ды староначку радную
Ён кахае ды мілуе
І на другу не згандлюе.
Гэй, Палессе, Палессе!
Бо у лесах слядок волі
(Хоць пры кепскай нашай долі),
Яшчэ малы застаецца,
Дзе не ўсяк да нас даб'ецца.
Гэй, Палессе, Палессе!

*11.IX. 1906 г.*

* * *

Браты мае родныя,
Браты мае — братанькі,
Хлопцы — беларусікі,
Палесся казачанькі!
Памянём мы нашыя:
Лясы, бары сінія
Ды лукі шырокія,
Дрыгвы бесканечныя,
Наш люд кроўую хрышчаны,
У слязах бо купаны,
Бядою ён кормлены,
Горам ён напоены.
У трубу зайграема —
Голас лесам пусціма,
Гукнем па балоту жа,
Дый у полі свісьнема,
Каб усім было чутненька!
Хай люд прачынаецца,
Спіну хай распростае,
З цемры вызваляецца!
Ярму таму цяжкаму
Годзе карку муляці!
Катам кару ўчыніла,
Штоб век было ў памяці!

*20.XII.1906 г.*

## БАЦЬКА СЫНУ

Будзь здароў, сынок,
Ды са святкамі
Са святымі бо
Ды калядкамі!
Будзь здароў, сынок,
Будзь ты дужанькі
Дый у працы ж бо
Дый дасужанькі!
Будзь смялявы ты
І рахманенькі,
Прад настаўнікам
Будзь слухмяненькі!
Што сваё, сынок,
Не цурайся жа,
І чужому ж ты
Навучайся жа!
Бо што знацімеш,
То ўсё згодзіцца,
Бо ўсяляк, сынок,
Дый прыходзіцца.

*1907 г., Мінск*

## СЦЯТЫ КАМЕНЬ

Засвітала раніца
После веснавое ночы.
Князь дулебаў, сам Кумар,
Працірае сосну вочы.
І, накінуўшы кажух,
Ў поле выйшаў падзівіцца,

Свежым ветрам веснавым
Сосну крыху асвяжыцца.
Разам стаў
І знак даў,—
Баярына клікнуў:
— Хадзі сам,
Глянь во там! —
І на тор падмігнуў:
— Пазнай, вою дазнаны,
Хто тут след вось той пакінуў,
Дзе ён сам, той чужанін?
Дакуль з'ехаў, дзе ён згінуў?
Неспакоен гэтым я:
Ці не вораг нас цікуе,
Ды знячэўку хіба нас,
Наляцеўшы, збіць мяркуе?..
Прайшоў ветах,
Маладзік,
Повен месяц засвяціў.
Ясна, цёпла;
Вецярок
Ў полі пылам закурыў.
Страх дулебаў ціхіх зняў,
Бо шчэ ўбачылі здалёку,
Што падняў бой люты Гуд,
Сам наперад з агнём ў воку.
Добра сэрца меў Кумар:
Смерць ад люду каб звярнуці,
Выйшаў к Гуду сам адзін,
Штобы Гуда супыніці.
Бой прыняў
Сам-насам
З Гудам дый на грудзе:
Ў мечы тнуць,

Іскры б'юць.
Чый той верх там будзе?
Ой, заўзяты бой вядуць,
Князям рукі ўжо памлелі,
Сабе спуску не даюць,
Хоць з труду саўсім счарнелі.
Славы траціць Гуд не хоча,
З нічым да хаты ад'язджаць;
За другіх Кумар баіцца,
Каб іх ў палон не аддаць.
Чуць жывуць,
А ўсё тнуць:
Той махнуў, той шахнуў;
Гуд сабраў
Усю моц
І мячом узмахнуў.
Кумарова галава
На зямлю пакацілася,
Ды праява дзіўная
Над імі прылучылася:
З заўзятасці абодвы
Зысці з месца не маглі,—
Пазастылі бо князі
Як першы, так другі.
І Кумар
Ды і Гуд
Разам скамянелі.
Многа лет,
Знае свет,
З тых пор праляцелі.
Ольса-рэка, як тады,
І цяпер там працякае
Ды ў Бярозу, у раку,
Сіву ваду заганяе;

Кучаравы лес стары
Звесіў галаву і ціха
Малітву шэпча за іх,
Як дзед... а нам друго ліха.

. . . . . . . . . . .

*1907 г.*

## КАБЗАР

Ой, вецер шуміць, ой, вецер гудзе,
А цераз поле чалавек ідзе,
Ой, полем ідзе
І штось ён нясе.
І хлопец яго за руку вядзе.
Ой, праз поле хлопец старца вядзе.
Які гэта старац з хлопцам ідзе?
То кабзар ідзе
І кобзу нясе,
А хлопец за руку к вёсцы вядзе.
У вёску прыйшоў, на прызбе ён сеў
І ціха людзям спяванку запеў,
Укруг людзі стаяць,
На старца глядзяць,
Бо да душы бедным людзям запеў.
Галавою добрым людзям кіўне.
Грудку старую шырока надзьме.
У струны ўтне,
Слова дабярэ
І песню старую свету пяе.

*1910 г.*

* * *

Ветры буйны загулялі —
Іскры нашы заблішчалі,
Штораз болей разжыгаліс,
Красным светам распаляліс.
Яшчэ вецер падыхае —
Ў іскры полымца шыбае
Вогненнымі язычкамі,
Розных кветаў аганькамі.
У кастры ахаладалым
І быллём ўжо зарасталым
Язычкі заміґаталі,
Па паленнях заскакалі
І ў купачкі збягаюць —
Свет навокал раскідаюць,
Хутка вецер зноў зайграе —
Увесь касцёр запылае,
Свет над намі засіяе,
Шчасце ў хату завітае!

*23.II.1910 г.*

## ПЕСНЯ ЗІМЕ

Віхрам закруціла,
Холадам даняла,
Снегам запыліла,
Гурбы панагнала.
        Ой, зіма, ой, зіма!
        Зіма сердзіцца!
Воўк па лесе рышча,
Шуміць ліст дубовы,

Вецер ў полі свішча,
Мужык едзе ў дровы.
Ой, зіма, ой, зіма!
Зіма сердзіцца!
Дравец ён прывёзшы,
Насячэ, паколе;
Трушанкі нарэжа,
Скацінку напое.
Ой, зіма, ой, зіма!
Зіма сердзіцца!
Быдла напаіўшы,
Трушанкі закіне;
У хату прыйшоўшы,
Кажушыны скіне.
Ой, зіма, ой, зіма!
Зіма сердзіцца!
На лаве ён сядзе
Крыху адпачыці;
Сынка ён пагладзе;
Вучыць гаварыці.
Ой, зіма, ой, зіма!
Зіма сердзіцца!
А маці прадучы
Песню заспявае,
Нітачку ведучы,
Ды ў печ паглядае.
Ой, зіма, ой, зіма!
Зіма сердзіцца!
Варыць бо вячэру,—
Хоча накарміці
Дзетву любу-шчыру
І спаць улажыці.
Ой, зіма, ой, зіма!
Зіма сердзіцца!

*1914 г.*

* * *

Ды настала ж бо маё святанька,
Знараджаў у свет мяне баценька,
Знараджаў мяне, пуць паказываў,
Гаварыў бо мне і прыказываў:
— Бачыш, сыну мой, як гаруема,
Кожны на свеце на то родзіцца;
Не глядзі на свет, што там робіцца.
Ты на пчолкі глянь: ё рабочыя,
Але і трутні ё немінучыя.
Так і на свеце: адны рыюцца,—
Другі потам іх адно мыюцца.
Будзь ты пракляты, мілы сыначку,
Як сагнеш такім сваю спіначку,
Як пасцелешся у радніначку!
Ты ўцякай ад іх, як ад гадзіны,
Ды не жджы ад іх пераkладзіны,
А у свет ідзі на аглядзіны;
Ты у свет ідзі, мілы сыначку,
Ты усё спазнай — і былiначку!
Тады са светам параўняешся,
Ў дабры, розуме пакупаешся,
Ў дабры, розуме пакупаешся,
З полем бацькавым прывітаешся!

* * *

Лясы, бары і дубровы —
Краса нашай бо краіны!
Гаі, пушчы, кнеі, лугі,
Па балотах дай альшыны —
Усё край наш украшаюць.

Вось край лесу дуб магучы
Сваё голле прасцірае;
Так сказаў бы, не іначай,
Лес той веццем абнімае,
Як бы бацька свае дзеткі.
За плячыма яго сталі:
Хвойка-матка, ель-ўдавіца,
Клён кудравы, ясень светлы,
І граб-дзядзька, і ільміца,
І чарэшнік ўгору пнецца,
І зляканая асіна,
Як бы вінна, ўся трасецца.
Вербалоз між іх ўтуліўся,
Як бы хоча памаліцца
У лясной ды прахалодзе.
А на дуба спазірае
Белагрудая дзявіца —
Ў свежай зелені бярозка,
Доўгі косы разбірае.
А пайдзі ты ў гушчу лесу...
Як прыятна ў прахалодзе
Паляжаці край паляны.
Рай на землі, дый годзе!
Ўся паляна травой зросшы,
Пад нагамі дыван мяккі,
Мох зялёны, як шаўковы;
Там, угоры, птушкі свішчуць.
Воздух свежы і здаровы.
Мошкі, пчолкі гудуць недзе.
На палянцы дый у травах
Зацвітае, чырванее
Смачна ягада суніца;
Далей ў лесе дый чарнее
Буйна сочная чарніца.

І здаецца, гэтак скрозь бы
Ў мяккім моху дый ляжаў бы
Ды праз вецце хвоек старых
Ў сіне неба пазіраў бы,
Штоб не рупіла нічога...

* * *

*(з Багдана Залескага)*

У тры шляхі ідуць ляхі,
А казакі чатырма валяць.
У травах плавяцца па пахі,
Свецяць зброяй, з ружніц паляць.
Падабраны людзі, коні,
Аж пад імі зямля стогне!
Гульба, брацця! Дні вясёлы!
Славу ўсякі сабе суліць.
Гэй, малойцы, гэй, саколы!
Наш архангел цуда творыць!
Скрозь паходны гоман чуцен.
Наперадзе рыцар відзен,—
Каралевіч сам праводзіць.
Чарнабрыўкі, гэй, з дарогі!
Паніч ў ясыр вас загоніць!
Украінскі дзеткі ў ногі!
Рысь ці мядзведзь вас ухопіць?
Пры гетманах люд убогі...

Ўсе ў атласах і саболях
Едуць пышна дый на конях,
Ўсё то ляхі ды літвіны
З самай Польшчы і з-за Вільні.
Паны з паноў, ўсе вяльможны:

Як сам гетман, глядзіць кожны!
Між усіх паноў тых значны
Наш праслаўны Сагайдачны,
Пан атаман ў славу гучны.
Чуб к музыкам ён скланяе,
А за ім услед бунчучны
Той харугвай павявае.
На малінавым атласе
Белы ангел ва ўсёй красе.
— Сагайдачны, мілы браце! —
Каралевіч кажа ласкай: —
— Вы бо нюхам як бы значце
Аб той гордзе той паганскай.
Кіньцесь ў поле, сюды-туды
Вы па-свойму, моў ў прысюды!
Пан атаман слухаць рачыць,
Махнуў шабляй пад калпакам.
Знае козак, што то значыць!
Зашумела за тым знакам,
Засвісталі, загудзелі,
Як бы ў пекла дзе зляцелі
Усе казакі дый з зямліцы,
Толькі земля прагудзела,
Моў па зімняй мецяліцы.
Украіна анямела,
Жаль Украйну агартае,
На магілы сазывае.
Плачуць дзеўкі, маладзіцы,
Там па бацьку дзеці плачуць;
Па малойцах красавіцы
Ад слёз свету аж не бачаць.
Ад нядзелі да нядзелі
Посвіст небам ў дзве староны:
Там саколы ўсё ляцелі,

Стуль ўцякаюць усё вароны.
Ў панядзелак ўсё збіраліся,—
Новы весці павядаліся.
Не патрапіць ніхто ў свеце
Так у бітве ігру весці,
Як атаман, што нам правіць
(Адным махам турка знесці).

Стуль казакі ды і ляхі
Бродзяць ў крыві коням ў пахі.
Салчан, браццяя, нечуваны!
Алла! Драла! Гэн здалёку
Самы тоўсты башы, ханы
Аж трасуцца ў пераляку!
Ляцяць дзеці дый на шляхі...
Крык і гоман — нашы валяць!
Брат за брат. Казакі, ляхі
Свецяць зброяй, з ружніц паляць,
Гульба, радасць скрозь па гонях
І па местах, і па сёлах!..

## СТАРАЖОВЫ КУРГАН

Ой, у полі дымна да курна,
За туманам свету не відна!
Цёмная ночка наступае.
Едзе казак ды ўздыхае,
Сон галоўку размарае,
Конь к травіцы прыпадае.
— Пушчу каня на даліну,
Сам прылягу на часіну.
Ой, шчаслівая гадзіначка,
Прыйшла к яму дзяўчыначка!

Ой, вырвала травічаньку
І выцяла па лічаньку:
— Уставай, казача, годзе спаць!
Сюдэма ідуць туркі ваяваць.
Каня возьмуць — другі будзе,
Цябе заб'юць — мне жаль будзе.
— Мусіць, дзеўча, мя кахаеш,
Што ад смерці выбаўляеш?
— Каб я цябе не любіла,
То я б цябе не будзіла,
Я ця, казак, верна кахаю,
З табою з тугі ўміраю!
— Гэй, ты, дзеўча маладзенькая,
Маладзенькая ды дурненькая!
Будзеш хадзіці дый блудзіці,
Будзеш за радзінай тужыці,
Будзеш хадзіці дый наракаці,
Сваю долю дый праклінаці.
— Я за табою на край-свет пайду,
Толькі вазьмі мяне маладу!

## ПРА ПАНА ЛЕНСКАГА

...Ой, у нядзелю параненьку
Ва ўсе званы звоняць,
А панове старастове
У лес на дровы гоняць.
Ой, панове старастове,
Каб вы не даждалі!
Штоб мы вам па дровы
У нядзелю ехалі!
У нашага аканома
Светлыя аконцы,—

Выганяе на паншчыну
Да ўсходу сонца.
У нашага Аляксандры
З галонам капялюш,—
Прыказуе аконаму:
«Маіх людзей не руш!»
У нашага камісара
Шоўкавая хустка,—
Як пойдзе да Старынак,
Не адна будзе пуста.
Ідзе цівун і аконам
Нагайкаю трусіць.
Нагайкаю трусіць,
Бо ён біці мусіць.
У нашага войта
Белыя анучы,—
Выганяе на паншчыну,
Сам плача ідучы.
Белыя анучы,
Белыя запяткі,
Выганяе на паншчыну
Дробныя дзяўчаткі.
У нашых Старынак
Зацвіла лілея,
У нашага Ленскага
Не вольна нядзеля.

**УСПАМІН...**

Горы, мае горы,
Яры дый даліны,
І лукі, і гаі,

І ў полі скібіны,
І былінка нават.

Усё мне гадае
Пра тую дзяўчыну,
Пра ту каравоку,
Ту любу, ядыну
Майму сэрцу ў свеце.

Усё мне гадае
Дый прад вочы ставіць
І душу мне рэжа,
І ў горле давіць
Ад думкі балючай.

Баліць маё сэрца,
Душа ўнывае,
Хоч з другой жанаты,
Той не забывае...

Дзеўчына, каліна,
Чаму мя чуралась?
Мо б шчасліўшы былі,
Штобы мы звянчаліcь
Са мною гарэтным?

Бо я так мяркую,
Што для шчасця мала
Жыцця ў давольстві,
Усяго штоб ставала
І мяса і хлеба.
Па-мойму, для душы
Чагось болей трэба.

Трэба чыну, дзелу,
Душэўнага хлеба,
Пагоды і буры.

Скажам, маеш мужа,
Ды і дзетак маеш.
І то шчасце добра,
А ўсё ж не змяняеш
Той зімы лютай,
Што думку бо смокча,
Шчыра сэрца точыць,
І часам слязінка
Шчоку тваю змочыць,
Хоць швыдка абсушыш.

Дай бог табе шчасця,
А мне палягчэнне,
Вам добра здароўя,
Статку памнажэнне,
Ды з дзетак пацеху.

А я пайду сабе
Гаем пад гарою,
Дзе, бывала, калісь
Страчаўся з табою,
Дзе той крыж, той белы,
Дзе стаяў на той час
Стары дуб на горы,
Адкуль выглядаў я
Сваёй любай зоры.

Пайду той дарожкай,
Дзе калісь хадзіла
Праз хвойнік Васюцкі

Мая зорка міла
Да маёй сястрыцы.

Пайду я на замак,
Дзе і яна бывала.
Прайду на Паследы,
Там і яна гуляла.

Зайду і ў Карнеж,
Пайду развітаюсь
З рэчкаю і з гаем,
З горамі, руччамі,
І са ўсім тым краем,
Што яе гадае.

Бывайце здаровы
І вы, кветкі красны,
Што на вас дзівілісь
Яе вочы красны.

Пралескі і смолкі,
Звонкі і незабудкі,
Рамон, васілёчкі,
Вы ўжо забылі
Яе кары вочкі.
Вы, кветачкі любы,
Мне ж бо так ніколі
Яе не забыці.

# У ІНШЫМ ШЧАСЦІ НЯШЧАСЦЕ СХАВАНА

АСОБЫ

П р у з ы н а — удава па добрым паўвалочным гаспадару.

П і л і п — яе сын гадоў 15.

М а р ы л я — дзяўчына гадоў 17—18 } яе дочкі.
Е ў к а — дзяўчына гадоў 12—13 }

А с т а п — парабак гадоў 21.

М а к р ы н а — старая дзеўка, валачашчая, трохі знахарка, трохі шалёная, вар'ятка.

## Часць першая

Абед у хаце. З аднае міскі чэрпаюць П р у з ы н а, М а р ы л я, Е ў к а, П і л і п і А с т а п. Марыля, быццам ненарокам, вычэрпвае ў Астапа з лыжкі.

П р у з ы н а. А палотны сёння намачыла?

М а р ы л я. А як жа.

П р у з ы н а. Годзе, Марыля! Не дурэй, і з'есці яму не дасць!

М а р ы л я. Няхай есць! Ці ж я яму не даю?!

Е ў к а. О, ты цаца, цаца! *(Памаўчаўшы.)* Мама! Сёння шуляк хацеў рабенькую курку ўзяць... вось, вось ужо быў на ёй... Адно пад клець скочы-

ла, а ён чуць у сцяну галавою... Адвярнуў нос, абляцеў кругом клеці і палынуў пад жыта...

П і л і п. Чаму ж ты яго не злавіла?

Е ў к а. А! А ты злаві!

П і л і п. Вось наўда! Схапіла б камень да па калені сабе каменем — ён бы і сеў.

Е ў к а *(тыкаючы Піліпу ў нос лыжкаю)*. Ы-ы! Ты так лаві!

Астап кладзе лыжку.

П р у з ы н а *(да Астапа)*. Нешта, як я бачу, ты стаў мала есці. Ці не хвор ты часам?

А с т а п *(устае з-за стала, вымае з-за лавы тапор, бярэ брус)*. Нічагутка, вашэць! Так штось не хочацца... пайду.

Е ў к а. Закахаўся... хі-хі-хі!!!

А с т а п. У каго? Можа, у цябе?

Е ў к а. А я-то не дзеўка?!

П і л і п. Ось, жаба!

Е ў к а. А ты — рак.

П і л і п. Дык я цябе з'ем!

Е ў к а. Хіба рак жывую жабу есць? Ён толькі забітую і то, каб вачэй не бачыў... баіцца.

П і л і п. Баіцца, баіцца! А ты ведаеш?!

Е ў к а. Ведаю. *(Павярнулася да маткі.)*

П р у з ы н а. Заўтра ў нас прысвятак. Трэба да сястры з'ездзіць. Мо ты, Марыля, са мной паедзеш?

М а р ы л я. Няхай Еўка едзе.

Е ў к а. Я, мама, паеду. Мама, добра?

П р у з ы н а *(да Марылі)*. А ты чаму не хочаш?

М а р ы л я. Так, нешта не хочацца... І трэба кашулю Піліпу скончыць...

П р у з ы н а. Кашуля не ўцячэ; Піліп не голы ходзіць.

М а р ы л я. А што ж мае валяцца?.. І сабе маю сёе-тое зрабіць...

Е ў к а. Я, матачка, паеду! Матачка, я!..

П р у з ы н а. Ой, ты, Марылька, штось круціш!.. А Васіль старастаў такі нішто дзяцюк... Помніш, як ён усё з табою на ігрышчы гуляў? Табе ўжо і замуж пара.

М а р ы л я. Дык што? Ён мяне не возьме...

П р у з ы н а. Па чым знаць?! Едзеш?

М а р ы л я. Няхай Еўка едзе — ёй бо хочацца.

П р у з ы н а. Ну, глядзі ж!.. *(Да Еўкі.)* Дык ты, шурпа, паедзеш?

Е ў к а *(цалуе матку, потым, глянуўшы на Астапа)*. Няхай Марыля з Астапам гаспадарыць. *(Выбягае падскакваючы.)*

П і л і п. Мама, ты мяне пабудзіш быдла гнаць! *(Кладзецца спаць, бо прыгнаў быдла з раніцы.)*

*Завеса.*

## Часць другая

А с т а п канчае плесці лапаць.

М а к р ы н а. Добры вечар малойцу! Знаць, птушкі напялі... чаго такі маркотны?.. А дзяўчына гдзе?

А с т а п *(кіўнуўшы галавою)*. Або я ведаю...

М а к р ы н а. Ты не ведаеш? То кепска! Ты павінен усё ведаць.

Убягае М а р ы л я. Макрына садзіцца на парозе. Астап пазірае ўсё на Марылю, а далей кідае лапаць пад лаву. Марыля круціцца па хаце, перацінаючы языком, а Макрына прыспеўвае.

Макрына

Сярод хаты дзеўча скача,
Бо ў галаве шумна,
А ў куточку хлопец плача,
Бо на сэрцы журна.

Марыля *(схамянуўшыся, падыходзіць да Астапа)*. Астап!

Астап. Чаго ты?

Марыля. Чаго ты такі маркотны?

Астап. А навошта табе ведаць?

Марыля. Чаму навошта? Так... бо... бо я цябе шкадую.

Астап. І дужа ты мяне шкадуеш, га?

Марыля. Дужа. Скажаш?

Астап. Бо дзяўчыну пакахаў.

Марыля *(павярнуўшыся бокам і замаргаўшы вачыма)*. Я... я-кую?

Астап *(прыцягнуўшы Марылю да сябе)*. Глянь у вочы! Сказаць?

Марыля. Ну?

Астап. Цябе, Марылька, люблю!

Марыля *(абдымае яго за шыю, моцна прытульваецца, а далей, засаромеўшыся, кажа)*. А я ж і забылася! Гэта ж палуднаваць пара! І Макрына, пэўне, есці хоча. *(Становіць палуднаваць.)* Сядайце, цётка, з намі палуднаваць!

Макрына. Дзякую, галубка! *(Садзіцца на заслоне.)* Лётала варона на жыр да арлоў, да толькі лётала, бо жыру не дастала, а накорміць яе галубка сівая. Ой, арол, арол, небяспечна птушка!.. Пакахаўся сакол дай з галубкаю. Пагналі сакала ў край далёкі — ветры буйныя. Наляцеў арол і галубку стаў драць. Пакуль сакол прыляцеў яе ратаваць, дык ужо і па галубцы. Пагнаўся сакол за

арлом і сам арлу ў кіпці папаўся... Ха-ха-ха! Малы на большага не парывайся!

Марыля. Што вы, цётка, такое невясёлае байдурыце? Сказалі б што весялейшае! *(Паселі за стол.)*

Макрына. Калі ж бо ў іншым шчасці няшчасце сядзіць.

Астап *(да Марылі ціха)*. Чаму ж ты мне нічога не сказала?.. Як ты?

Марыля. Я?.. А няўжо ж не! Я даўно ўжо...

Ядуць адну страву, потым другую. Прыбіраючы са стала, Марыля пяе.

*Завеса.*

## Часць трэцяя

Астап уваходзіць мокры, накрыўшыся мяшком.

Астап. Бр-р-р! Вось дык пагода! І валы зусім прысталі.

Марыля *(смяецца)*. Ха-ха-ха! Як ты хораша прыбраўся. *(Бярэ яго голаў аберуч і цалуе ў губы.)* Але ты прамок — пачакай! Я табе адзежу сухую прынясу.

Марыля выходзіць, Астап распяразваецца ды скідае мех і світку. Марыля ўваходзіць з адзежаю і бутэлькаю. Астап бярэ адзежу і выходзіць.

Астап *(уваходзіць у сухой адзежы)*. А дзе ж матка?

Марыля. Пабегла на сяло: можа, хто на места паедзе, каб солі купіў. На, пагрэйся! *(Падае*

*бутэльку, сама крыху пацягнуўшы.)* Тфу, горкая!

А с т а п. Ну, будзь здарова! *(П'е.)* А-а-а! *(Абцірае губы.)* А дзецям насілі палуднаваць? Што яны там робяць?

М а р ы л я. А як жа, насілі. Яны там коней паганяюць. Але я ў двор болей не пайду...

А с т а п. Чаму?..

М а р ы л я. Так... бо паніч дома.

А с т а п. А што паніч? Ці ён у места сяголета не паедзе?

М а р ы л я. А хто яго ведае! Кажуць, дактары казалі на старане пажыць. *(Памаўчаўшы.)* І што я яму так далася? І прайсці нельга.

А с т а п. Ведама, пан... Ці мала гэта ён дзяўчат пазводзіў?! *(Садзяцца, абняўшыся, на лаве. Астап цалуе Марылю.)* Ой, галубка, хутка мне ў дарогу трэба збірацца!

М а р ы л я. Што ты?! Куды?..

А с т а п. У места на прызыў, а далей — у салдаты... Бог ведае дзе...

М а р ы л я. А мо цябе не здадуць... *(Хавае слёзы.)*

А с т а п. Можа-то можа, усё быць можа. Адно мне ўсё думаецца, што здадуць, бо вельмі б я шчаслівы быў, каб не здалі. А чым я гэтулькі радасці заслужыў?

Уваходзіць П р у з ы н а і глядзіць на пару. Астап адсунуўся. Марыля пачырванела і, адвярнуўшыся, стала нішчыкам вочы выціраць.

П р у з ы н а. Выпраг валы? Гэтак бы даўно зрабіў, усё роўна не даараў? І сам захварэць можаш... гэтак намок.

А с т а п. Як жа не? Даараў, адно чуць-чуць дацягнуў... валы прысталі. Захварэць-то я б і рад, можа б, у маскалі не здалі. Трэба пайсці нанач каню сечкі нарэзаць, бо на начлег сягоння не паеду. *(Выходзіць.)*

М а р ы л я *(абняўшы матку)*. Што ж мы,матачка, без Астапа рабіцімем? Хто нам паарэ, хто засее?!

П р у з ы н а. Як я бачу, табе ўжо вельмі Астап рупіць! Ён жа табе не пара. Ты ўсё ж такі гаспадарская дачка. Неяк бог паможа... трэба будзе другога наняць.

М а р ы л я *(памаўчаўшы)*. Мама, а чым жа Астап горшы за другіх? Ён жа і не лянуцька, і не п'яніца, і разумны, і харошы...

П р у з ы н а. Так-то так, ганьбы яму ніякае няма — адно бедны.

М а р ы л я. А багаты бедным стацца не можа?

П р у з ы н а. Да што там перад невадам рыбу лавіць! Пакуль ён сваю салдатчыну адбудзе...

М а р ы л я. А як адбудзе, дык што?

П р у з ы н а. Тады пабачым, не дуры галавы! А пакуль што ён табе не пара... *(Выходзіць.)*

М а р ы л я. Вось, мой божа, які ж суд у людзей! Не пара, кажуць... Жэняцца, шчасце шукаючы, а тут не даюць... Не пара... Бо папраўдзе на хлеб зарабляе і другіх корміць... Не пара! Гаспадарская дачка, а той — наймiт. А куды мы без таго наймiта варты?! О божа, божа!

*Заве́са.*

## Часць чацвёртая

Хата непадмецена; вокны непамыты. Прузына скрабе бульбу; убягае Еўка, а за ёю зараз і салдат уваходзіць.

Еўка. Мама, матухна! Нейкі салдат да нас ідзе. Ці не Астап? *(Становіцца каля печы, павярнуўшыся да дзвярэй.)*

Астап *(уваходзіць)*. Пахвалёны Езус! *(Азіраецца па хаце.)*

Прузына. На векі векаў! *(Устае.)* Гэта ж Астап! *(Падыходзіць, цалуе Астапа ў голаў, а ён ёй у руку.)* Дальбог, Астап! Распратайся, галубок! Садзіся! Зараз з намі паабедаеш. Чаго ты так азіраешся? Бяда, сынку, бяда! Твая ў бога... *(Залівaецца слязьмі, галосячы.)*

Астап *(жахнуўшыся)*. Што вы, вашэць, кажаце? Кажэце ладом!

Прузына. Праўду нябога казала, што мы без цябе рабіць будзем. Так і выйшла. Дастаўся гэта да нас той Анупрэй Даўбуль, і папсавалася нашая гаспадарка. То тое прападзе, то тое змарнуецца. Бачу я, што кепска. Стала Марылю ў двор выпраўляць. Каб тую долю горкую ведала, лепш бы сама хадзіла. Жалілася яна, нябога, на паніча, каб яму дабра не было! Дык мне няўцямкі было, каб гэтак выйшла. Ці мала хто каго зачэпіць... Ой, бедная мая галованька!

Астап. Ды вы не бядуйце, а кажэце, дзе Марыля?

Прузына. Я ж кажу: у бога.

Астап *(спалохаўшыся)*. Як?! Памёрла? Даўно?!

Прузына *(галосячы)*. Тыдняў пяць, як па-

хавала галубачку любенькую. І зазнала ж яна, бедненькая, сораму і мукі ўсялякае!.. *(Астап асунуўся на лаву, сціснуў аберуч голаў. А Прузына, трохі супакоіўшыся, гаворыць далей.)* Бачыш, нябожа, заходзіў той псявера к ёй і так і сяк і на вёску нават забягаў, ды ўсё нічога. Вось згаварыўся ён з аканомам. Той пры расплатцы ў суботу і кажа: «А ты, Марыля, прыйдзі заўтра па грошы, бо цяпер не стала». Вось яна пабегла, а там аконам з панічом як прысукаліся, дык мусіла выпіць чарку-другую, а далей, як разахвоцілі, дык і добра спаілі. А там... ведама што. *(Выцірае вочы.)* Падходзіў ён потым і сюды, кажуць... Бог іх ведае! Адно нашая стала чагось вельмі журна і з твару змянілася. Тужыць усё, бывала, ды па начох плача. Высахла на трэску... І злягла... І дзіця чуць паспелі ахрысціць... *(Заліваецца слязьмі.)*

Астап. Дык бывайце здаровы! Няма чаго мне тут без Марылі рабіць...

Прузына. Ды хоць паабедай з намі!

Астап. Дзякуй! *(Выходзіць. Прузына і Еўка плачуць.)*

*Завеса.*

## Часць пятая

Еўка *(убягае з плачам)*. Мамачка, а родненькая. Прапаў наш Астап, згінуў наш сакалок!

Прузына *(жахнуўшыся, а потым махнуўшы рукою)*. Дзе галубка, там і галубок!

Пілiп. Да ты кажы, дзе ён загінуў! Чаго ты соплі распусціла? Ці не закахалася і ты?

Еўка. Распусціла, распусціла! Добра, што сам

не... Ведама, шкода ўсякага, а яго і пагатове, бо ён добры, харошы...

П і л і п. Ды ты годзе сакатаць! Кажы, што з ім зрабілася?

Е ў к а. Што зрабілася!.. Зайшла я гэта да Матрунчыкаў, а сам толькі з места прыехаў. Ён туды Астапа вадзіў, дык усё, як было, расказваў.

П і л і п. Ну, дык што ён казаў?

Е ў к а. Стаў ён часта хадзіць...

П і л і п. Хто? Матрунчык?

Е ў к а. Ды не, Астап!.. Па гасцінцы пад двАром. Спаткаў гэта паніча ды давай яго карыць, а паніч яго па мордзе. А ён — а божухна мілы! — як хопіць паніча за горла ды вобземлю! І давай яго біць кулаком па галаве, па галаве ды па носе!.. Як наляцелі дворныя ды звязалі яго, беднага. Скруцілі яго тугенька, узвалілі на кары і памчалі, як тыя чэрці добрую душу, да станавога. Паніч, кажуць, сказаў, што Астап хацеў яго нажом зарэзаць, каб аграбіць.

П і л і п. Вось, чорт, надумаўся! А паніч што цяпер робіць? Можа, да цябе заляцаецца?

Е ў к а. Не перабівай, калі кажу, а слухай, а то казаць не буду!

П і л і п. Ну, ну, не буду!

Е ў к а. Што я казала? Ага! Адно яму ўдалося нож з рук яго выбіць... Не выйшаў бы ты жыў, каб Астапка наважыў цябе зарэзаць, нябось не такі ён!.. Ага, а станавы ў места яго адаслаў, у турму... А пан таксама за ім ездзіў і да станавога і ў места, каб прыпільнаваць, кажуць, каб добра яго засудзілі. Многа грошай, кажуць, з сабой узяў... Вось быў Астап, і няма!.. *(Плача, а маці, прадучы, слёзы выцірае.)*

П і л і п. Вось і шукай тут праўды на свеце!.. Здаецца б, хто, а то паны!.. Пойдзеш у двор — такія, здаецца, добрыя, так аба ўсім хораша гавораць. А паглядзіш, дык вось што вычвараюць... Ну, я гэтаму панічу не дарую, напомніць ён мяне! Балазе, у маскалі не трэба ісці...

М а к р ы н а *(уваходзячы)*. Так яго, так! І сакол арла паб'е, як знянацку нападзе. Ха-ха-ха!..

*Завеса.*

*1903 г.*

# МОДНЫ ШЛЯХЦЮК

***Бытавая камедыя ў адной дзеі***

АСОБЫ

Гаспадар Ян.
Якуб, сват Пранцішка.
Ганна, дачка Яна.
Пранцішак } шляхцюкі
Ігнась } з другога засценку.
Андрэй, сват Ігнася.
Суседзі Янавы.

Усё дзеецца ў хаце Яна.

## *З'ява I*

Ян і Якуб, седзячы за сталом, выпіваюць, закусваюць і вядуць гутарку.

Ян *(выпівае і налівае Якубу)*. Пі на здароўе!

Якуб. Будзь, ваша *(прымае чарку)*, здароў!

Ян. Пі на здароўе!

Якуб. Так-то яно то... *(Глядзіць на чарку.)* Так, так, так. *(Уздыхае.)* А ўсё ж па-людску не выходзіць...

Ян. А што там за бяда такая?

Якуб. Бяда — не бяда, а так, што яно не так, як трэба.

Ян. Дый піце ж, пане браце! Пры чарцы і высказаць лягчэй будзе.

Якуб. Ну, дай, божа, каб усё было гожа. *(Выпівае і налівае Янку.)* Э, Яне, Яне!

Ян. А што?

Я к у б. Дзела, бачыш, маю.

Я н. Ну, дык скажы, што там за дзела такое?

Я к у б *(скрабучыся за вухам)*. Так — бачыш, ваша,— я як бы за дзелам, а пачаць не ведаю з чаго...

Я н. Будзь здароў, пане браце. *(П'е і налівае.)* Так скажы, пане браце, якое такое труднае дзела маеш? Але перш чарку выпі.

Я к у б. Дзякую. Калі ж неяк і піці сарамна.

Я н. Чаму так? Чым хата багата, тым і рада.

Я к у б. Дзякую, дзякую!

Я н. Я, бачыш, вельмі ўпрашваць не ўмею.

Я к у б. Ды не аб тое. Здаецца, не цяпер мы знаемся.

Я н. Так чаму ж гэта ты?..

Я к у б. Я, бачыш, ваша, на добры лад павінен бы сам да вас з гарэлкай прыйсці. А так-то і пачаці не ведаю з чаго...

Я н. Та-а-к! Вось яно што...

Я к у б. Дык ужо ж...

Я н. Праўда, што яно трохі не па-людску. А дзе ж ваш маладзец? Чаму ён не прыехаў?

Я к у б. Га, мода цяпер такая.

Я н. Мода — модаю, а звычай — святое дзела.

Я к у б. За тым-то і мне так цяжка. Ці то мне першына сватацца? Ці мала я на сваім вяку паненак кабетамі зрабіў. Бо, па праўдзе сказаўшы, у сватанні шчасце маю. Адно цяпер неяк язык у роце вязне.

Я н. Так, так...

Я к у б. Сам не ведаю што рабіць: але мой кавалер так захацеў.

Я н. Кепска, кепска.

Я к у б. Кажа, што мода цяпер такая, што па-

нашаму не сватаюцца. А ён жа ў гэтым дзеле маракуе, бо хлапец вучоны, шмат свету бачыў, у горадзе бываў, усялякае навукі набраўся, дык ужо і не жыве па-нашаму, але з культураю...

Я н. А што гэта такое?

Я к у б *(засаромеўшыся, заікаецца)*. Ну, ку-льту-у-рра...

Я н. Куль-куль-куль... Нешта я гэтага не ўцямлю. Што гэта: баба якая, ці што?

Я к у б *(заклапочаны)*. Па праўдзе сказаць, то і я сам не ведаю, што гэта такое.

Я н. Ну, дык чаму ж ты гаворыш, чаго не ведаеш сам? На ліха нам тыя выдумкі заморскія? Ці ў нас сваіх слоў не хватае?

Я к у б. Не гневайся, вашэць: гэта ён мяне так навучыў, каб зразу відаць было, што ён не абы-які кавалер.

Я н. Ого-го! Штось мне гэта не спанараўна. А хто ён такі, ваш гэты заморскі паніч?

Я к у б. Пранцішак.

Я н. Які Пранцішак? Адгэтуль?

Я к у б. Ды гэты з Вішнёўкі, Карчэўшчык.

Я н. Ага-а-а! Гэта Антоняга, вечны яму пакой, сын. Гэта той, што гаспадаркі не любіць і найболей у горадзе бадзяецца.

Я к у б. Для навукі, бачыш, усё.

Я н. Ведаю я, якой навукі: у карты гуляць, гарэлку піць, за дзеўкамі валачыцца — вось гэтых панічоў навукі.

Я к у б. Мне ён казаў, чаго ён там вучыцца, але штось не ўспомню.

Я н. Была калісь праўда, ды іржа з'ела.

Я к у б. Ну, дык як жа будзе?

Я н. Пабачыма.

Я к у б. Ды і дачцы скажыце, каб не працівілася. Усё ж то такі паніч бывалы, далікатны,— не так, як нашы засцянковыя.

Я н. Дачкі няволіць не буду. Як яна спадабае. Адну толькі маю. Яна ў мяне і дома гаспадыня і ў полі работніца. Добрае дзіця. Вольную волю мае. Каб я толькі ведаў, што ён хлопец добры, не лайдак, то перашкод рабіць не буду.

Я к у б. Так-то яно так. Але растлумачце ёй, што гэта не просты хлопец, а вучоны.

Я н. А што тамака вучоны, вучоны! Хочаце — самі намаўляеце. Я гаварыць не буду.

Я к у б. А мо і пагаварыць з ёй?

Я н *(кліча)*. Ганна, а Ганна! Хадзі-тка, дзеткі, сюды.

### *З'ява II*

Г а н н а *(убягае босая, падкасаўшыся, з дзеркачом у руках, убачыўшы чужога, засаромелася, абцягнула спадніцу і стала ў качарэжніку)*. Тата, мяне клікалі?

Я н. Але. Вось пан Якуб з табой пагаварыць хоча.

Г а н н а *(утаропіўшыся)*. Пан Якуб?

Я к у б. Што, паненачка, на мяне так дзівішся? Сядзь лепей, пагаворыма.

Г а н н а. Дзякуй, я магу і стоячы паслухаць.

Я к у б *(заклапочаны, памаўчаўшы)*. Памажэце, ваша, пане Яне.

Я н. Бачыш, Ганна! Пранцішак Карчэўшчык да цябе свата прыслаў.

Ганна, сарамліва павярнуўшыся да печы, нішчком усміхаецца і маўчыць.

Я к у б. Ну, што ж паненка на гэта скажа?

Г а н н а *(прыкідваючыся нязнайкаю).* Не ведаю...

Я к у б. Падумай, паненка: ён жа і вучоны і далікатны — па-польску і па-расейску гаварыць умее. Будзеце ў горадзе жыць, з панамі таварыства вадзіць.

Г а н н а. У-у-га! *(Як бы да сябе.)* Так многа!

Я к у б. Будзеш, паненка, у дарагіх сукнях хаджываць, далікатную страву есці... Ну, ды што ж, паненка, маўчыш? Кажы: пойдзеш за Пранцішка?

Г а н н а. Не ведаю.

Я к у б. Не саромейся, паненка.

Г а н н а. Нашто гэта мне ўсё? Ці мне ў бацькі дрэнна?

Я н. Дрэнна — не дрэнна, але векаваць пры мне не будзеш?.. Трэба ж калі-небудзь замуж выйсці.

Г а н н а. Ваша, тата, воля — але пры вас я бы ахвотней асталася.

Я к у б. А калі б вам у горадзе добра пайшло, дык і бацьку ўзялі б да сябе. Бацька на старасці спачыў бы ад працы. У горадзе і памаліцца ёсць дзе...

Я н. Бог усюды ё, а ў горадзе мне не прынадна. Дый сам, вашэць, я думаю, не вельмі б то ў горадзе рад жыў.

Я к у б. Яно-то так; я бы ў горадзе не мог жыць, бо ўжо стары — цяжка прывыкаць. А маладым-то другое.

Я н. Ну, Ганна! А што ты на гэта?

Ганна маўчыць, адно край фартушка зубамі цярэбіць.

Я к у б. Бачу, што з паненкаю да ладу не дайду, бо саромеецца,— а сваё дзела я споўніў, дый

то толькі праз памяць нябожчыка бацьку Пранцішкавага, бо сам бы я за гэтакае сватаўство не ўзяўся. А цяпер, людцы добрыя, аставайцеся здаровы, хай бацька з дачкою парадзяцца добра, а Пранцішак сам па адповедзь прыйдзе, калі ў яго мода такая. Бывайце здаровы!

Я н. Ідзеце з богам здаровы! *(Якуб выходзіць.)*

## З'ява III

Я н. Ну, што ж, Ганулі? Пайшла б за Пранцішка?

Г а н н а *(энергічна)*. Ды куды там?!

Я н. А што ж з таго будзе, што ўсім адказваеш?

Г а н н а *(прыбіраючы хату)*. Ці ж бо мне дома кепска? Тата ж мяне не праганяеце...

Я н. Добра, але ўсё ж такі век маладая не будзеш, а як пастарэеш, хто цябе тады возьме? Я ўжо стары, ужо столькі не пражыву, колькі пражыў. Як прыйдзецца рукі зложыць, то хто табе тады ў помач стане? Гаспадарку разарвуць, цябе пакрыўдзяць... Старасць — не радасць.

Г а н н а. Пажывеце, тата, пажывеце.

Я н. Я ведаю: у цябе ў галаве Ігнась.

Г а н н а. Ігнась — не Ігнась, а за Пранцішка не пайду.

Я н. То чаму ж свату зразу не сказала?

Г а н н а *(з абідаю)*. А гдзе ж хто бачыў, каб дзяўчына з сватам гаварыла? Гэта ж сорам! Тагды б мяне на засценку засмяялі.

Я н. Яно-то праўда, што табе неяк не выпадае.

Г а н н а. Але тату-то я ўсё скажу, як на споведзі. Не пайду за Пранцішка, бо тут яго ўсе

знаюць, як аблупленага ката. Усе з яго толькі кпяць і смяюцца. Ніхто аб ім добрага слова не скажа. Ходзіць па-моднаму, увесь у чорным, сурдут доўгі, ззаду разрэзаны... Не раўняючы, як той чорт.

Ян. Бачыш яго! А я гэтага не ведаў!

Ганна. Бо тата ўсё або ў полі, або ў хаце. А я ведаю, бо не раз яго спатыкала. Як сустрэну яго на вуліцы, дык кожны раз ажно жахнуся. А сабакі ненавідзяць яго горш, як воўка. Часам за паўвярсты ад засценку дагоняць яго ды калошы паабрываюць. Цьфу! Сабака яго не можа сцярпець, а я б мела за яго замуж ісці!..

Ян. Кажуць, што вучоны.

Ганна. Вучоны, вучоны! Бульбы ад рэпы не распазнае. А гаворыць дык так, што і зразумець яго трудна. Нашае мовы сароміцца...

Ян. Гэта брыдка! Але хацелася б мне зяця прычакаць — унукаў бы гадаваў.

Ганна. Прычакаеце, прычакаеце.

Ян. Цяжка, бачыш, з гаспадаркаю ўпраўляцца, а наймітне свой чалавек: і дорага каштуе, і на старану гатоў што перадаць,— ведама, чужы.

Ганна. Але! А хочаце мяне ў горад аддаць. А хто ў вас за гаспадыню будзе, хто каровы падоіць, хто свінні пакорміць? Хто страву вам зварыць? Хто з жнейкамі ў полі стане?

Ян. Я цябе не няволю.

Ганна. Тут я радзілася, тут і матуля мая пахавана, тут я астануся. Хто б тады магілку матчыну прыбраў? Зарасла б яна дзікім зеллем, а вам бы матка супакою не дала за тое, што мяне ад яе адлучылі... *(Плача.)*

Ян *(разжалены)*. Не плач жа, не плач! Я ж

цябе не прымушаю. Мне і самому дужа ён не падабаецца. Дый цяжка мне аставацца аднаму. Ведаю, пра Ігнася думаеш, дый нешта ж ён маўчыць дагэтуль, не сватаецца.

Ганна. Але і да іншых не ўдаецца.

Ян *(смеючыся)*. А ты б яго хацела? *(Ад якойсь пары ўжо сабакі брэшуць.)*

Ганна. Мала бы што, ды мне і з вамі добра.

Ян. Але каго гэтак сабакі апанавалі? Выскач, дачушка, глянь, каго яны так тамака бяруць? *(Ганна выходзіць.)*

## *З'ява IV*

Ян, зняўшы з кручка кажух, падкінуў сабе пад галаву і прылёг за сталом на лаве, так што яго не відно ад дзвярэй. У хату ўскаківае, уцякаючы ад сабак, Пранцішак — бледны, задыхаючыся; ён у чорным сурдуціку, у чорных нагавіцах, у белых рукавічыках і каўнерыку.

Пранцішак *(азірнуўшыся па хаце)*. І тут нікагусенька! А, псямаць іх, чуць мне сурдута не з'елі. Цэлых пяць рублёў жыду аддаў за яго, але на такія залёты, дык і то дарага. *(Падышоў к лаве і змятае яе хустачкай.)* Але жыць тутака — то я бы не жыў. Забяру Ганну ў горад, дам сабе з ёю рады, каб толькі пасаг у рукі як прыбраць — вось што.

Ганна *(прычыніўшы дзверы)*. Тата тут? *(Убачыўшы Пранцішка.)* А-а-а! А гдзе тата?

Пранцішак. Не вем... Добры вечар, паненка! А на цо то паненка таты шукае? Можа, мы і без таты моглісь бы паразмавяць. Я наўмысле тэго пшышэд.

Г а н н а. А аб чым мы маем гаварыць? Калі якое дзела маеце, тата на тое...

П р а н ц і ш а к *(прыдзержываючы Ганну за руку)*. Але няхай паненка зачэка. Без таты нам бэндзе свабодней; паненка ве, што пры таты не вшыстко можна робіць. *(Памаўчаўшы.)* Паненка ве, чаго я тут пшышэдлэсь.

Г а н н а. Не, не ведаю!

П р а н ц і ш а к. Як то? Прэце ж ту был пан Якуб, он мне мувіл...

Г а н н а *(нецярпліва)*. Што вам пан Якуб гаварыў, таго я не магу ведаць.

П р а н ц і ш а к. Але ж, паненка, я ту пшышэдлэсь да паненкі в сваты, а паненка гневася на мяне, як на злэго.

Г а н н а. А ці ж у сваты хто гэтак ходзіць і сорам дзяўчыне прычыняе і дзверы заступае?!

П р а н ц і ш а к. Цо бо то паненка до мне, як до хлопа, гада? Чы бы то мы не моглісь фізычне паразмавяць? Прэце ж, паненка такі шляхетна естэсь, а то па-прастэму і па-прастэму.

Г а н н а. Няхай сабе і «па-прастэму». Няўжо ж крыва лепш, як проста?

П р а н ц і ш а к. Я, відзі паненка, я не естэсь просты. А вшыстко токі цоколек розумем. Я ў месце да школы ходілэсь. З ружнымі панамі знамся. Так паведзяўшы, я чловек з культуро, выкшталцоны естэсь,— так то мне неякось ні выпадае так па-хлопску гадаць: гале ды гале.

Г а н н а. Та чаму ж, паніч, у засценак прыходзіш? Нам гэтага ўсяго не трэба — гэтых хвізыкаў ды культураў. Нам досі нашае мовы, нашых звычаяў.

П р а н ц і ш а к. Э! то так?! То паненка мне не

хцэ! Пачакай, паненка, я патрафя паненка намувіць, што і маёй бэндзеш і нікаму ані піснеш... *(Хоча злавіць яе.)*

Г а н н а. Што гэта?! Адчапіся! Разбойнік! Шалёны! *(На сцэне тузаніна, а тым часам з-за стала ўстае Ян.)*

П р а н ц і ш а к *(убачыўшы Яна, пускае Ганку і гвалтуе)*. Гэй, людзі! Ратуйце!.. Ратуйце!..

Я н *(падыходзіць з гневам)*. А гэта што?.. *(Ад гневу не можа гаварыць.)*

П р а н ц і ш а к. А, пан? Адкуль гэта пан?.. Чы то пан тутэйшы? Ратуйце! памажыце! Гэта дзяўчына шалёная, ці якое ліха... Забіць хоча...

Я н. Вон, паганец!.. Віш, ты! Брахаць будзе... Вон, каб і нага твая тут не была!.. Я б з табой іначай пагаварыў, але абразы шаную і звычай святы. Адно вынасіся швыдчэй, а то часам і не вытрываю.

П р а н ц і ш а к *(адступаючы да дзвярэй, к сабе гаворыць)*. Ну, яшчэ добра скончылася... Я баяўся, каб не было горай. *(Шмыгнуў за дзверы.)*

### З'я в а V

Г а н н а *(туліцца да бацькі)*. Балазе, татачка, вызвалілі мяне ад гэтага гада.

Я н. Дык праўду казалі аб ім, што не самавіты. Вось табе і моднае сватаўство.

Г а н н а *(утаропіўшыся)*. Ціха, тата!

Я н. А што там?

Г а н н а. Як бы званок чутно... чуеце?

Я н *(слухаючы)*. Але ж. Пошта, ці што?!

Г а н н а. Як бы са шляху звярнулі. *(Глядзіць у акно.)*

Я н. Зноў бяда, ці што? Да каго ж бы гэта? Хіба што не да нас... Дый хто?..

Г а н н а *(стаіць ля акна)*. А мо і да нас. *(Разам зардзеўшы.)* Татачка! Ды гэта ж сваты! І да нас, да нас! Ужо і Бэйшараву хату мінулі.

Я н *(пaглядаючы ў акно)*. Праўда! Во, гэта дык па-людску, па-гаспадарску.

Г а н н а. А што, тата? Ці ж не казала? Вось і сваты!

Я н. Але коні добрыя. Ды хто ж бы то?

Г а н н а. Ігнась! Ігнась са сватам едзе!..

Я н. Ідзі ж, дзяўчына, прыгарніся трохі, бо растрапалася, з гэтым злодзеем тузаючыся.

Г а н н а. Што гэта сягоння?! Ажно галава кругам пайшла. *(Выбягае.)*

## *З'я в а VI*

**Я н ходзіць неспакойна па хаце. Дзверы адчыняюцца, і ўваходзіць сват А н д р э й.**

А н д р э й. Хай будзе пахвалёны!

Я н. На векі векаў! Што гэта, куме: ці не воўк здох, што ўрэшце ўспомніў аба мне? Гэтулькі часу і носа не ткнуў.

А н д р э й. Часу, кумочку, не было. Далібог, колькі разоў збіраўся, ды ўсё ніяк не выходзіла.

Я н. Эй, гавары, куме! Вось сядай лепей і кажы, што чуваць. Як баба маецца? Як дзеткі?

А н д р э й. Дзякую! Нічагутка, жывём памаленьку. Як сам? Як дачка?

Я н. Здаровы, дзякаваць богу. Але сядай жа, нарэшце!

А н д р э й. То і дзякаваць. А калі будзеце рады купцам, дык сяду.

Я н. Ды ўжо ж, хто мае тавар, той і купцом рад. Што да цаны, то ці зойдземся,— а так ласкаве просім.

А н д р э й. Калі так, то і аб цану змяркуемся, дасць бог. *(Садзіцца і ставіць на стол пляшку.)* Так, значыць, ты не працівен, куме?

Я н. Што я? Не мне ж з Ігнасем жыць. А дачкі няволіць не буду.

А н д р э й. Яно-то так. Але, пакуль аб цану таргавацца, трэба б тавару паглядзець.

Я н. Пачакайце крышку: я пайду клікну яе. *(Выходзіць.)*

## *З'я в а VII*

Я н *(уходзіць, ведучы засаромеўшуюся дачку, за ім ідзе Ігнась)*. Ого! Пакуль мы тут, яны самі праз акно таргуюцца. Кажы, дачка, ці хочаш Ігнася?

Г а н н а. Як, тата, скажаце... *(Падыходзіць да Андрэя і цалуе ў руку.)*

Я н. Бач, якая пакорная?! А даўно-то аднаго адправіла. Ну, давай падвячоркаваць. *(Ганна выбягае, штурхнуўшы Ігнася.)* Ну, Ігнась, сядай, пагаворым.

І г н а с ь *(цалуе ў руку)*. Дзякую пану бацьку.

Усе паселі за стол. Ганна прыносіць яечню на скаварадзе; бацька рэжа хлеб і кладзе перад кожным па лусце.

А н д р э й *(налівае чарку)*. Такі трэба б было нам старгавацца.

Я н. А што нам таргавацца? Дзеці ўжо згаварыліся, а ўсё, што маё, тое іх будзе. Гаспадарка

Ігналева невялікая, дык там брат яго ўправіцца,— а Ігнась пры мне будзе.

Андрэй. Ну, дык згода! Будзь, куме, здароў і дзяржыся крэпка! *(Выпівае.)*

Ян. Пі на здароўе! Хай бог дзецям памагае! *(Тым часам пачынаюць збірацца кабеты, хлопцы, дзяўчаты.)*

### З'ява VIII

Ян. Ну, калі і гасцей нам бог прыслаў, то няхай ужо зусім будзе весела. Хадзі, Юрка, сюды. *(Падыходзіць шустры чарнявы хлапец.)* Сходзі, бач, скрыпку вазьмі, ды няхай і Волесь цымбалы цягне.

Юрка. Мо і Юзіка з клярнетам клікнуць?

Ян. Так бяжы хутчэй. А ты, Ганна, скажы Піліпу, хай з клеці прынясе баклажку.

Ганна выбягае і, як бач, прыносіць разам з Піліпам місу нарэзанага сыру і баклажку з гарэлкай. За імі ўваходзяць музыкі, строяць інструменты і пачынаюць іграць. Ігнась бярэ Ганну і ідзе ў танец, прыпяваючы, а за імі другія.

Хор дзяўчат

Кацілася па вуліцы белая талерка.
Слаўны хлопец, слаўны хлопец,—
харошая дзеўка.

Хор хлапцоў

Нашто дзеўцы рэшата,
Нашто дзеўцы сіта,—
Хлапец дзеўку пацалуе,—
Дзеўка будзе сыта.

Ганна *(да Ігнася)*

Мая песня ўся:
Люблю Ігнася...

Ігнась *(да Ганны)*

У гародзе гарбузы,
У Кіеве дзядзька;
За то цябе палюбіў,
Што цалуеш гладка.

*(да музыкі)*

Іграй, іграй, ігрnative,
А я табе заплачу,
А я хатку прадам,
Табе грошы аддам...

Танцуе з Ганнай. Хор уторыць апошнія словы песні. Пасля Ігнась з Ганнаю выходзяць з грамады і становяцца наперадзе сцэны, каля акна.

Ганна. Чуеш, Ігнась, як сабакі бяруць? Што там за ліха па засценку цягнецца?

Ігнась *(пазіраючы ў акно)*. Цёмна. Не відаць. Трэба выйсці паглядзець, што там такое.

Ганна. А цябе сабакі не парвуць?

Ігнась. Яны мяне ўжо знаюць.

Ігнась выходзіць. Ганна глядзіць у акно. Моладзь танцуе, а старыя частуюцца.

Ігнась *(вяртаецца)*. Нехта дарогаю да нас бяжыць, як жару ўхапіўшы.

Ганна *(пазіраючы ў акно)*. Бачу, бачу — каля загарадзі. Гэта ж наша ліха.

Ігнась *(гледзячы ў акно)*. І якраз сюды звяртае.

Г а н н а. Тату, тату! Той гад ізноў к нам бяжыць.

Пачуўшы Ганну, усе пакідаюць танцаваць, а за імі і музыкі адзін за адным зарываюць ігру.

Я н *(устаючы з-за стала)*. А ліха ж яго галаве! Хаты маёй не шануе. Ой, мусіць-такі прыйдзецца мне выкінуць яго за дзверы.

### *З'я в а IX*

П р а н ц і ш а к *(бледны, у абарванай адзежы, у памятым капелюшы; ускаківае на сярэдзіну сцэны)*. Га, зладзеі! Гэта вы павыпускалі сабак на мяне?! Ну заплаціце ж вы мне за гэта!

Я н. А ягомасць так не крычы, бо тут ёсць і старэйшыя за цябе, ды такія, што цябе супакоіць патрапяць.

П р а н ц і ш а к. А самі мне за адзежу заплаціце? Мала таго, нада мною тут паздзекаваліся, яшчэ і сабакамі нацкавалі...

Я н. Гэта ж ужо з гадзіну будзе, як ягомасць адгэтуль выйшаў.

П р а н ц і ш а к. Ужо ў канцы засценку быў, як мяне сабакі апанавалі.

Я н. Мае сабакі ў канцы засценку былі?

П р а н ц і ш а к. Вашы ці не вашы, але мне заплаціце, бо я ў вас быў.

Я н. Ніхто не зваў.

П р а н ц і ш а к. Паліцыю паклічу, у суд пацягну.

Я н. Баюся я, як заяц рабой кабылы.

П р а н ц і ш а к. Сурдут 20 рублёў і порткі 6, а капялюш 2 рублі, то разам 28 рублёў. Плаціце!

А то ў суд падам і на вас і на ўвесь ваш засценак.

Ігнась. То мы ўсе будзем плаціць?

Пранцішак. А ўжо ж усе.

Ігнась. І за той брыль?

Пранцішак. І за той.

Ігнась (*выхапіўшы з рук капялюш*). Давай сюды! Калі маю плаціць, то няхай хоць пацешуся ім. (*Кулаком прабівае брыль.*)

Пранцішак. Што ты робіш, дурню?!

Ігнась (*спакойна*). Што? А беларускую шапку.

Пранцішак (*сярдуючы*). Мой капялюш напсаваў.

Ігнась. А табе якое дзела? Я заплачу. Гэта ўжо мой, а не твой.

Ян. Праўда Ігналева. Сварыцца я з табою не буду, дый па судох цягацца не хачу. Сам табе заплачу. Але за тое, што ты з мяне па-шальмоўскі хочаш злупіць 28 рублёў за тое, што каштуе 10,— кару, панічыку, дастанеш і свае лапсардакі тутака на мейсцы пакінеш.

Пранцішак. Што? Я ў паліцыю! Я ў суд!

Ян. Паліцыя тут нічога не паможа, а на такога злодзея, як ты, суду ні божага, ні людскога няма. А ну, хлопцы, раздзеньце яго, гэтага панічка. (*Хлопцы абступаюць і прытрымліваюць Пранцішка.*)

Пранцішак (*тузаючыся*). Што?! Сурдут? Не задзірайце сурдута! А-ёй! а-ёй! а-ёй... Паненкі глядзяць...

Андрэй. Ніякіх паненак тут няма, адно нашы дзяўчаткі, а яны ведаюць, што чалавек у світцы не родзіцца. Хлопцы, а ну жыва! (*Хлопцы здзіраюць сурдут. Пранцішак астаецца ў манішцы на*

*голым целе і ў рукаўчыках на голых руках. Агульны смех.)*

Андрэй. Глядзіце! Гэта іх такая гарадская мода, што без кашулі ходзяць.

Ігнась. Ну, а цяпер давай, братка, і нагавіцы.

Пранцішак. Ой-ой-ой-ой! Людцы добрыя, ратуйце! Заб'юць!

Ян. Ціха, не крычы. А то на твой прыродны мундзір яшчэ што прыложым. А калі я за нагавіцы плачу, то давай.

Хлопцы. Скідай барджэй нагавіцы! Скідай! Скідай! *(Адны дзержаць Пранцішка пад пахі, а другія пачынаюць нагавіцы спушчаць.)*

*Заслона.*

# ДВОЙЧЫ ПРАПІЛІ

*Драма ў 4-х часцях*

### АСОБЫ

Пракоп — пажылы селянін; любіць выпіць.
Арына — яго жонка.
Хоўра — іх дачка, 18 г.
Іўка — сын беднае ўдавы, 20—22 г.
Хіма — 17—18 г. } яго сёстры.
Волька — 14—15 г. } яго сёстры.
Ганна — іх маці.
Атрыхон — нежанаты селянін 31—32 г., гультай.
Міхаль — языкаты, шэльмаваты селянін, руды.
Грыпіна — яго жонка.
Астап — няп'ючы } сяляне, гаспадары.
Петра — быстры, чарнявы } сяляне, гаспадары.
Барыс — стары, набожны } сяляне, гаспадары.
Грыц — п'яніца.
Наста — дзеўка, бывалая, гадоў пад 25.
Янкель — арандар, шынкар.
Вульяна } дзяўчаты з вёскі.
Маланка } дзяўчаты з вёскі.
Зося } дзяўчаты з вёскі.
Паўлюк } дзецюкі з вёскі.
Юрка } дзецюкі з вёскі.
Марка } дзецюкі з вёскі.
Марта } жанкі.
Хрыстына } жанкі.

С я р г е й, 16 год — хлопец.
Л е й к а — дачка Янкеля.
Р о х а — яе матка.

П а д р о с т к і, с я л я н с к і я д з е ц і і м у з ы к і.

## Часць першая

### *З'я в а I*

Пералаз і сцежка на падол. З падолу ідзе І ў к а з касою і каля пералазу сустракае Х о ў р у, каторая спявае.

І ў к а *(чапляючы косу на загарадзі)*. Ага, папалася, стой! Не пушчу!

Х о ў р а *(стоячы з заложанымі рукамі)*. Не пусціш?.. Што, косіш ужо? Бо мы-то яшчэ не пачыналі.

І ў к а. Балота крыху падрэзаў — пагода, бач, служыць.

Х о ў р а. А бацька ўсё росціць. *(Хоча прайці.)*

І ў к а. Не, не пушчу! *(Загароджвае рукамі.)*

Х о ў р а. Ну, пусці!

І ў к а. Не пушчу, хіба адкупішся.

Х о ў р а *(смеючыся, стараецца пералезці)*. Да ну, годзе табе дурэць.

І ў к а. Адкупіся!

Х о ў р а. Пушчай жа, бо я табе! *(Смяецца, стала, падпёршы бораду рукою.)*

І ў к а *(жартуючы)*. Пусціць?

Х о ў р а *(нібы сярдзіта, праз смех)*. Ну, пушчай жа!

І ў к а. Зараз. Адкупіся!

Х о ў р а. Да чым жа я адкуплюся, калі не маю чым? Пусці, не дурэй!

І ў к а. Адкупіся!

Х о ў р а. Да чым жа бо?!

І ў к а. А-а! Пэўне, ты не знаеш?

Х о ў р а. А пэўне не знаю.

І ў к а. Адкупіся!

Х о ў р а. Ну-у! *(Пастаяўшы.)* Пусціш?

І ў к а. Пушчу, адно адкупіся.

Х о ў р а. Да чым? Кажы!

І ў к а. Ой, ты зводніца!

Х о ў р а. Чаму? Каго я звяла?

І ў к а. Мяне са свету звядзеш.

Х о ў р а. Цябе? Як?..

І ў к а. Як, як!.. нязнайка.

Х о ў р а. Пусці, мне палотны трэба збіраць.

І ў к а. Адкупіся!

Х о ў р а. Наладзіў: адкупіся да адкупіся!

І ў к а. Ды няйначай.

Х о ў р а. А чым?

І ў к а. А калі скажу, то адкупішся?

Х о ў р а. Або я ведаю!

І ў к а. Ты адно хлопцаў зводзіць ведаеш!

Х о ў р а. Якіх хлопцаў?

І ў к а. Якіх! Хоць бы і мяне.

Х о ў р а. На табе! Як жа я цябе зводжу?

І ў к а *(адважыўшыся)*. Вачанятамі карымі.

Х о ў р а *(засаромеўшыся)*. Пусці! Іўка, дальбог, пусці! *(Пачакаўшы.)* Маці сварыцімецца.

І ў к а. Адкупіся!

Х о ў р а. Да чым жа, бо?

І ў к а *(сарамліва)*. Пацалуй!..

Х о ў р а *(спусціўшы вочы)*. Ну... *(Пацалаваў-*

*шыся, скочыла праз пералаз і, адбегшыся, заспявала):*

Ой, у полі дымна ды курна,
За туманам свету не відна!
Цёмная ночка наступае.
Едзе казак ды ўздыхае,
Сон галоўку размарае,
Конь к травіцы прыпадае.
. . . . . *(Схавалася.)*

Іўка *(пазіраючы ўслед).* Вот дзяўчына! Усё б, здаецца, за яе аддаў, і жыццё нават... Бяда мне, небагатаму!.. А бацька яе ліхі, ой, ліхі! За беднага не аддасць... *(Сеў на пералазе і задумаўся, слухаючы, як яна спявае. Голас Хоўрын чуваць здалёк.)*

### *З'ява II*

Ідзе міма Астап і, убачыўшы Іўку, прыпыняецца.

Астап. Ты каго тут пасеш! Ха-ха-ха! Ага, Хоўрачка там! Ха-ха-ха!

Іўка. Ат, дзядзька, усё шуткуеце!

Астап. А можа, не праўда?!

Іўка. Так штось... маркотна. Сеў і задумаўся.

Астап. Віляй, віляй хвастом! Знаю, што задумаўся, і ведаю, аб чым. Не бойся, нікому не скажу. А ён ужо і засаромеўся. Што тут за сорам? Са ўсякім бывае; і я быў дзецюком. Знаю, куды вочкі заводзяць.

Іўка. Знаеце, то раду дайце!

Астап. Добра сказаць: раду дай. Але са старым трудна рада. Усё ён на багатых кваліцца. *(Падумаўшы.)* Нікога яшчэ не прасіў?

І ў к а. Не, дзядзечка! Каго ж, як не вас, маю прасіць?

А с т а п. То пачакай, спытаем шчасця!

І ў к а. Ужо я век не забуду...

А с т а п *(усміхаючыся)*. Ну, а стог паможаш скідаць?

І ў к а. О-ей! Я й без таго... абы сказалі.

А с т а п *(глянуўшы на сцежку)*. Ну, добра! Але трэба па каня бегчы.

І ў к а. Паедзеце куды?

А с т а п *(падаючы руку)*. Баба сварыцца, што мука ўся,— трэба ў млын даведацца. *(Адходзячы.)* Ужо другі тыдзень, як завёз...

І ў к а *(зноў сядае на пералазе)*. Эх-э-хе!

### *З'ява III*

Х о ў р а *(падходзячы)*. Ты яшчэ тут? Можа, ізноў выкупляцца скажаш? *(Кладзе палотны на загарадзі.)*

І ў к а. Не гневайся, галубка! Бачыш, я сам не свой, галава кругом ідзе, як цябе пабачу. А як не бачу, то душа ные...

Х о ў р а. А хіба я вінавата?

І ў к а. Можа, і не, адно мне здаецца, што ты мяне нарокам баламуціш.

Х о ў р а *(маркотна)*. Так табе не люба?

І ў к а. Ой, люба, ды і як люба! І балюча разам...

Х о ў р а *(павесялеўшы)*. Чаму так? Што табе баліць?

І ў к а. Сэрца баліць, душа баліць, і... я і сам не ведаю што...

Хоўра. Чаму мне нічога не баліць?
Іўка. Бо ты любошчаў яшчэ не знаеш.
Хоўра. А ты знаеш?
Іўка. А ўжо ж знаю!
Хоўра. А я не?
Іўка. А бог цябе ведае.
Хоўра. А чаму ты казаў, што не знаю?
Іўка. Бо табе нічога не баліць.
Хоўра. Чы-то любоў хвароба якая?
Іўка. Ат, з табою не згаворышся!
Хоўра. Вось я бацьку люблю, і мне нічога не баліць; і мамку люблю, і нічога не баліць; і... і... і... і нічога не баліць.
Іўка. І што, і-і! І нічога не сказала.
Хоўра. А табе ўсё скажы! Трэба іці.
Іўка. Ужо са мною, то і пагаварыць не хоча.
Хоўра. Чаму не? Гавары!
Іўка. Ну, то скажы, каго ты любіш?
Хоўра. Тату, маму...
Іўка. Ат, ты ўжо казала! А болей каго?
Хоўра. Каго? Сёстраў...
Іўка. А болей нікога?
Хоўра. Як-та нікога?!
Іўка. А каго ж?
Хоўра *(прыступіўшы)*. А ты каго?
Іўка. Я?.. я? Ты ведаеш.
Хоўра. То і я скажу — ты ведаеш.
Іўка. Ат!
Хоўра. Скажы ты, то і я скажу!
Іўка. Скажаш? Не смяешся?
Хоўра *(спаважна, апусціўшы вочы)*. Скажу!..
Іўка. Я... я цябе... цябе кахаю. Жыццё сваё за цябе б аддаў...

Х о ў р а. А я цябе...

І ў к а *(зрадзеўшы)*. Праўда?! *(Абнімае і доўга цалуе.)*

Х о ў р а *(схамянуўшыся)*. Пусці! *(Вырываецца і, адскочыўшы, вяртаецца па палотны.)*

І ў к а. Хоўра!

Х о ў р а. А?

І ў к а. Чакай крыху!

Х о ў р а. Ну?

І ў к а. Што з намі будзе?

Х о ў р а. Або я ведаю... Бог над намі.

І ў к а. Я ведаю, бог?.. Бацька не аддасць.

Х о ў р а. Маму прасіціму, мо заступіцца.

І ў к а. Ну, ну!..

Х о ў р а. Бывай здароў! *(Выходзіць.)*

І ў к а *(памаўчаўшы)*. Вось натура людская: мучышся чалавек, і душа баліць, а так неяк люба... сама мука нават люба. *(Пагадаўшы.)* Дый дзяўчо ж бо: і да работы першая, і вясёлая, як тая птушачка, і разумная... А вочы? Аж ногі падкошваюцца, калі гляне. Эх! Як жа мне без яе быці?! *(Бярэ касу і хоча іці.)*

### *З'я в а IV*

Выходзіць з боку Н а с т а.

Н а с т а. Іўка, чакай! Куды пайшоў?

І ў к а *(да сябе)*. На табе! *(Павярнуўшыся.)* А што?

Н а с т а *(міргаючы)*. Хадзем, Янучок! Цяляты паможаш прыгнаць.

І ў к а. А сама не пыганеш?

Н а с т а. Я адна баюся... хадзем!

І ў к а. Чаго ты баішся?

Н а с т а *(скалячы зубы)*. Ат, чаго!.. Хадзем!..

І ў к а. Другога каго клікні.

Н а с т а. Калі я цябе хочу!..

І ў к а. Калі ж бо я не твой... А вось Сяргей ідзе — ён маладзейшы.

Н а с т а. Ат, брыда, смаркач!.. Хадзем, будзеш мой!

І ў к а. Ты Атрыхона ўжо маеш — навошта ж болей?

Н а с т а. Вот сказаў! Куды ён варт, гультаіна той?! Не паможаш?

І ў к а. Няма часу. Ёсць і без мяне каму.

### *З'я в а V*

Падыходзіць С я р г е й.

Н а с т а. Ну, помні ж... *(Да Сяргея.)* Сяргейка, хадзем!

С я р г е й *(ухмыляючыся)*. Ужо? Яшчэ рана.

Н а с т а. Не рана. Хадзем!..

С я р г е й. Ды куды ж?

Н а с т а. Не пытай, а ідзі.

С я р г е й. А як ты мяне дзе ў нетру завядзеш?

Н а с т а. А ты баішся?

С я р г е й. А хто яго ведае, можа, і страшна.

Н а с т а. Ну, ідзеш?

С я р г е й. Ды куды?

Н а с т а. Ну, на падол. Цяляты памажы прыгнаць!

С я р г е й. У падол цяляты загнаць?

Н а с т а. Дурань! Ідзеш?

С я р г е й. Няхай лепей Атрыхон паможа.

Наста. А ты не?

Сяргей. Не, не пайду.

Наста. Сапляк дурны! Цьфу!.. *(Выходзіць праз пералаз.)*

Сяргей *(к Іўку)*. Касіў?

Іўка. Але.

Сяргей. Балота, знаць?

Іўка. А-га.

Сяргей. А мы заўтра пойдзем.

Іўка. А сягоння што рабілі?

Сяргей. Гумно ўбралі.

Іўка. Высахла?

Сяргей. А ей!

Іўка. Ты куды?

Сяргей. К Юрку.

Іўка. То хадзем разам. *(Выходзяць.)*

*Заслона.*

## Часць другая

Пад ліпаю ля таго самага пералазу прыслапіўся к загарадзі Пракоп і, маркотны, вычышчае люльку, а злева выбягае Петра.

### *З'ява I*

Петра. Здароў, стары!

Пракоп. А, здароў! Куды цябе нясе? *(Падае руку.)*

Петра. Вот іду... Думаю, сустрэну каго, да вось якраз... А ты чаго так панурыўся?

Пракоп. Бачыш, пасля ўчарашняга неяк ча-

лавек не ў сабе. Стаю і гадаю, з кім бы шкалік раздушыць, а тут якраз і цябе бог панёс.

П е т р а. Дык і я аб тое ж!..

П р а к о п. Ну, то зайдзі, вазьмі! На грошы!..

П е т р а *(уходзячы)*. Няхай, я за свае...

П р а к о п. Хай і так будзе! *(Пагадаўшы, да сябе.)* Хе-хе-хе! Бяда мне з гэтымі дзяўчатамі! Аднаго вяселля яшчэ не выдыхаў, а тут другое гатуй, а там і трэцяе дарастае.

## *З'я в а II*

Падходзіць *М і х а л ь*.

М і х а л ь. А, Пракоп! Здароў жывеш?

П р а к о п. На здароўе, браце! І ты тут?

М і х а л ь. А ўжо ж. Нешта жывот баліць. Знаць, цяжка падняў, ці якое ліха. Заўчора ў млын ездзіў, недзе мяшка няладне падняў. Я такі зразу пачуў, да думаў, так сабе...

П р а к о п *(садзіцца на зямлю)*. Сядзем, чы што.

М і х а л ь. Што ж? У свята можна і пабалакаць.

П е т р а *(прыходзіць)*. А, і ты тут! Добры нюх маеш.

М і х а л ь. І я тут. Я думаў, што першы буду, ажна тут ужо цэлую кумпанію застаў.

П е т р а. Ну, як ся маеш? *(Падае руку.)*

М і х а л ь. Здароў, падскакваю. Балазе, кропель прыдбаў, а то нешта каля пупа варочаецца.

П е т р а. А кажаш, здароў!

М і х а л ь. Як прылажыўся да шыйкі ў пляшцы, то як бачыш здароў стану. Як рукою здыме.

П е т р а. Ха-ха-ха! Усе, я бачу, адну кволасць маема.

М і х а л ь. Няйначай!

П р а к о п. Кволасць, кволасць! Паняволі закволішся, столькі клопату маючы.

П е т р а. Да пэўне! Кожнаму свой клопат.

М і х а л ь. Праўда, чалавеча, праўда! Я дык клопату не абяруся: і пану за вотчыну нясі, і вала трэба купляць, і ў воласць вінават — пазысківаюць. А тут надоечы Атрыхон прыйшоў: будзь сватам, дый годзе!

П е т р а. Які Атрыхон? Гаркуша?

М і х а л ь. А няўжо ж бо хто! Кажа: «Я б мог і багатшу ўзяць, але Хоўра дужа за сэрца пала, так што жыць без яе не магу»,— кажа.

П р а к о п. Чы не пра маю Хоўру байдурыш?

М і х а л ь. А няўжо ж бо пра каго! А калі пра тваю, то што?

П р а к о п. Яшчэ чаго!

П ё т р а. Што так? Яно ўжо пара — дзеўка хоць куды!

П р а к о п. Пара-то пара, але не для ўсякага.

П е т р а. А пэўне, што для кагось аднаго!

М і х а л ь. Дык і я ж тое... Кажу яму: «Не лезь! — кажу.— Ён чалавек зноравам, не дасць».

П р а к о п. Хай і не важыцца!

П е т р а. А можа, як папрасіць хорашанька, то і адпусцішся?

П р а к о п. І не гавары навет, бо загневаюся і пайду.

П е т р а *(выбіваючы корак і прапіваючы)*. Ну, маўчу, маўчу! Будзь здароў!

П р а к о п. Пі на здароўе!

Петра *(абціраючы рукавом губы і падаючы Пракопу).* Э-э-э!..

Пракоп. Будзь здароў, Міхалка!

Міхаль. На здароўе! *(Прыняўшы бутэльку.)* Чакайце! Я ж закускі з сабою захапіў. *(Вымае з верані хлеб, сала ды рэжа.)* Ну, каб бог памог вам у вашых клопатах! Каб былі здаровенькі і жылі ў давольсцве!

Петра. Пі здароў!

Пракоп. На здароўе! Дзякаваць за добрае слова!

Петра. Затым салаўя хваляць, што красна спявае.

Пракоп. Але вот, як выпіў, так нейнача рукою з-пад сэрца зняло.

Міхаль. Праўда! Вот так у жываце як бы і асунулася; зразу палегчала. Мабыць, з лёгкае рукі. Ой, клопаты, клопаты! Вось гэтак учора: еду я з млыну, а цемра, цемра, хоч пальцам у вока,— нічога не відна. Неяк мяне папутала што, чы якое ліха: у Раманавага броду не паехаў я ўправа, каля дуба, а паказалася мне дарога, і калесіны, знаць, улева; да як управіў кабылу ў балота, то не мог выбрацца. Аж, дзякаваць богу, як на тое, ішоў Атрыхон, пасвістваючы. Дзякаваць яму — зух хлопец! Я гукнуў на яго, то ён мяне на дарогу як бач вывеў. Каб не ён, то хіба б загінуць мне там прыйшлося б.

Петра. Знаць, пацягнуў добра.

Міхаль. Якое пацягнуў! Таквеля чарвяка замарыў.

Петра. Да ўжо ж, твайго чарвяка быле-чым не заморыш! Ну, Пракопе, будзь здароў!

Пракоп. На здароўе! *(Прымаючы, к Міха-*

*лю.)* За здароўе. Каб раі вадзіліся! *(Выпівае.)* А-а-а! Такі добра нашчыкам выпіць!

Міхаль. Дзякую за добрае слова!.. Адно штось у мяне не вельмі садзяцца. Вот і ўчора ўцёк; кажуць — Хведару сеў... І квас, здаецца, як трэба, адно клопаты не даюць дагледзець. Вот я ўчора бачыў, у самога іскавалі, ды так іскавалі!..

Пракоп. Дзе? Можа, на вілаватыя хвоі?

Петра *(убок)*. Ведама, ведама, часу няма, адно чарвяка пакуль заморыш да за чужымі пабегаеш.

Міхаль. Не, каля Крывога Дуба.

Пракоп. Трэба будзе пайсці сягоння пагля-дзець. А шмат сам улавіў?

Міхаль. Аднаго толькі, а другі змарнаваўся, папарыліся ў лубцы.

Петра *(насмешліва)*. То ўсе клопаты вінаваты.

Міхаль. Ды што ты смяешся! Пэўне, што клопаты! Каб не клопаты, то я б хорашанька дагледзеў яго.

Петра. Можа, лашаня дзе аслядзіў?

Міхаль. Ты ўсё сваё! Чы мне гэта наўме?

Петра. А хіба цябе не знаюць?

Міхаль. Добра, што ты хаця знаеш! А сам дрычыну веснавую дзе дзеў?

Петра. Так нешта я таюся?! Янкель забраў!

Пракоп. Вот добра, нагадалі! У мяне зяць прасіў, каб я лапак напытаў. Чы няма ў цябе, Петра? Грошы не пашкадаваў бы.

Петра. Вот каб уперад з месяц, то я б дастаў, а цяпер — Хомка пісару занёс. Хомка казаў, што земскі рагоў прасіў.

Пракоп. Я маю два.

Міхаль. Чакайце! Лапы я дастану, да душы дастану, адно...

Пракоп. Ну, ну!..

Петра. А рогі парныя?

Пракоп. То-то, што не! Каб парныя, то я б даў ім мейсца: ляснічаму б занёс.

Петра. А на многа пасынкаў?

Пракоп. На пяць.

Петра. Ажно трэба паглядзець, бо ў мяне ё адзін на пяць.

Міхаль. У мяне ё пара па тры пасынкі.

Петра. Што ж калі ты свае папсаваў.

Міхаль. Чым? Што ў сцену пазаганяў?

Петра. А пэўне, самую красу пасчэсываў? Але вот дапівай!

Міхаль. Дап'ю, але я думаю яшчэ ўзяці, бо яно палегчыць, то палегчала, адно яшчэ крышку ў жываце штось чуваць.

Петра. Гэта чарвяк гарэлкі просіць.

Пракоп. Што ж — я гэтаксама не адкажуся. Бяры грошы! *(Дастае з каліты.)*

Міхаль. Навошта грошы? Я сам прынясу. *(Выходзіць.)*

Петра. Нешта Міхаль раздобрыўся — гэта неспраста!

## *З'ява III*

Прыходзяць Грыц, Барыс, а потым Астап.

Грыц. О, яны тутака ўжо і без нас насядалі! Здаровы, мужчынкі! А я сягоння чуць устаў, галавы не мог узняць.

Барыс. З святою нядзелькаю!

П р а к о п, П е т р а і М і х а л ь *(разам).* Здаровы! Спасібог! Просім у кампанію!

Б а р ы с. Спасібог! Заранне штось сягоння?

Г р ы ц. Дзякаваць! Па праўдзе сказаць, то я чуць жыў... А мо і не зашкодзіць?..

П е т р а. Паможа, брат, паможа! Табе адразу паможа. Усю кволасць тваю як рукою здыме. Ранняя пташачка зубкі калупае, а позняя вочкі прадзірае.

Г р ы ц. Праўда, паможа?

П е т р а *(паказваючы на Міхаля).* Пытай!

М і х а л ь. Права слова, паможа, як бач, ачуняе. *(Выходзіць.)*

Г р ы ц *(пашукаўшы ў каліце).* На, вазьмі і на маю долю!

М і х а л ь *(звяртаецца).* Давай! *(Выходзіць.)*

А с т а п. А мяне ў кумпанню прымеце?

Г р ы ц. Ты ж не наш!

П е т р а. Ця-ябе? Не.

А с т а п. Чаму?

П е т р а. Бо ты не патрэбны.

П р а к о п. Ты ж не п'еш.

А с т а п. То што — нечага вам болей будзе.

Г а л а с ы. Праўда! Што праўда, то праўда!

П е т р а. Ну, то ўжо сядай, чы што!

П р а к о п. Вот кажы, што ў горадзе чуў? Позна прыехаў?

А с т а п. А так, што ўжо першыя певуны прапелі. А што наш брат у горадзе пачуе? Адно шум, гоман, і толькі. У лес пойдзеш, то ўсё к табе гаворыць: і пташачка і мошачка. А ў горадзе — адно галава кругом пойдзе, ажно сум бярэ... А ў самога што чуваць? Вяселля яшчэ не ладзіш?

П р а к о п. Дай хоч тое вычухаць! Што табе прыйшло вяселле?

А с т а п. Так, бо пара, а дзеўка гладкая.

П е т р а. Э! Чаму бо, абы багаты трапіўся.

П р а к о п. Годзе аб тым гаварыць!

П е т р а *(скоса пазіраючы)*. А каб так за Іўка Пахомчыка? Га?

П р а к о п. За Іўка? Чы ты здурнеў?! Здаецца, і разумны чалавек!

П е т р а. А што?

П р а к о п. Ведама што: хоч ён і ніпто хлопец, і працавіты, ды бедны. А ты з мяне не кпі!

А с т а п. Бедны, кажаш?..

Б а р ы с. Усе пад богам!

*З'я в а IV*

Падыходзіць А т р ы х о н.

А т р ы х о н. Здрастуйце, панове! Хлеб-соль!

* Г р ы ц *(надпіўшы)*. Выбачай, што мала пакінуў! Неяк рука здрыганулася...

П р а к о п. Вядома, тваё горла... *(П'е.)*

Г р ы ц. Горла як горла, але нядуж, бачыш, я сягоння. Чуць бутэлькі не ўпусціў...

П е т р а. Мерку перабраў...

Г р ы ц. Мерку, мерку!.. Не павінна — душа, бач, меру знае.

А с т а п. А як у каго душы няма?

Г р ы ц. Што ты, што! Каб у чалавека душы не было?

П е т р а. То, можа, крывая чы сляпая.

---

* Адгэтуль пачынаецца тэкст не апрацаваны — чарнавыя накіды, каторыя трэ было вышукваць з розных месц. Рэдакцыйная заўвага пры першай публікацыі.

Грыц *(сярдуючы)*. Добра, што твая відушча.

Петра. А твая-то не бачыць?

Грыц. На табе! *(Паказвае дулю.)*

Петра. Ха-ха-ха! А вот такі не даў, сабе забраў.

Атрыхон *(ставіць у сярэдзіне другую бутэльку; выцірае чарку, потым выбівае корак, налівае і прапівае да Пракопа)*. Будзьце здаровы, дзядзечка! *(Тым часам Барыс устае і хрысціцца.)* Куды ж вы, дзядзька Барысе?

Барыс. У царкву — бач, пара. Хадзем, Петра!

Петра. Хадзем. *(Устае.)*

Астап. То і я з вамі. *(Устае.)*

Атрыхон. Выпілі б па чарцы.

Петра. Хай другім разам! *(Петра, Астап і Барыс выходзяць.)*

Барыс *(адыходзячы)*. Спасібог!

### *З'ява V*

Надыходзяць Міхаль з Грыпінаю.

Грыпіна. З нядзелькаю святою! Здаровенькія, мужчынкі, былі? *(К Пракопу.)* Кумок, чы здаровенек?

Усе. Спасі бог! На здароўе!

Пракоп. Кума, як можаш? *(Падае руку.)*

Грыпіна. Жыву дзякаваць богу міленькаму, і святому Юр'ю, і Міколцы святому, і вам здаровенькім. *(Рассцілае абрус, кладзе хлеб, сала і каўбасу; Міхаль ставіць гарэлку, рэжа хлеб і сала, ломіць каўбасу.)*

Атрыхон. Рэж, дзядзька Міхале! Будзьце здаровы, дзядзечка! *(Выпіўшы, налівае Пракопу.)*

Пракоп. На здароўе! Ды і мне, грэшнаму, трэба было б у цэркву пайсці.

Атрыхон. Гэ, яшчэ час! Наш поп дужа не спяшаецца. *(Падае Пракопу.)*

Грыпіна *(хрысціцца)*. А вось і звоняць! Маё дзела бабскае, і богу памаліцца не ўспееш.

Атрыхон. Ну, а гарэлку трэба выпіць. Вось і памагатыя йдуць...

## *З'ява VI*

Прыходзяць Васіль і Нічыпар.

Нічыпар. Будзь здароў, Васіль!

Васіль *(прыняўшы, да Атрыхона)*. Ну, зямляк!

Атрыхон. Пі здароў!

Міхаль. Эй, кумок, ка-аб даў бог у цябе на вяселлі папіваць!

Грыпіна. Але, кумок, але! Вот бы загуляла... *(Спявае.)*

Ідзе кум па саду,
Кума па гароду...

Пракоп. Да-а-йце то-е вы-ыдыхаць.

Міхаль. Э, што там! Трэба ж аддаць, усё роўна трэба!.. Як трэба, то трэба...

Грыпіна. Праўда, чым скарэй пазбудзеш клопату, дык потым спакайней будзе. Чым дзеўка маладзей выйдзе, тым лепей,— нечага людскія языкі не абрэшуць... Да вось, хоч бы ваша Хоўра... Чы даўно дзеўкаю стала, а ўжо не пры вас кажучы... Адно не гневайся, кумок!.. Ужо паспелі абрахаць...

Пракоп. Як, Хоўру?

Грыпіна. Але, кумок, яе, Хоўру. Да душы, не брашу... Чула я ўжо на сяле, што гэты галадранец, Пахомчык, каля яе завіхаецца...

Пракоп. Пахомчык, кажаш? Га, Іўка?! Га! Не даждаць яму! Ён мне дачку ганьбіць будзе?! Я яму пакажу! Ды ты брэшаш?

Грыпіна. Да душы, праўда! Вот каб я так вас, здаровенькіх, аглядала! Каб мне скрозь пекла праваліцца, калі брашу!..

Міхаль. Слухай ты, Пракопка! Слухай! Аддай ты дзеўку за гэтага малайца. *(Паказвае на Атрыхона.)* Не будзеш каяцца, не будзеш!..

Пракоп. Пакінь, кажу, гаварыць! *(Як да сябе.)* За Марку... во, за Марку аддам...

Міхаль. Ну, калі за Марку можна, то Атрыхон што? Атрыхон горшы? Гэта ты не ведаеш...

Грыпіна. Але, але Атрыхон! І чым не маладзец? І стан высокі і ліцом гладкі!..

Міхаль. Пакінь, кажу! Дай мне гаварыць, не тваё тут дзела! Пракоп болей за цябе ведае.

Пракоп. Бачыш: Атрыхон нішто, няма чаго казаць, але Марка — працавіты хлопец і чы не будзе багатшы?..

Грыпіна. Якое там у іх багацце?!

Міхаль. Ты маўчы!.. Што да багацця, то яны нараўне, адно Атрыхон галаву лепшую мае. Дармо, што той працуе. За ім і маладзіца з працы счарнее. О! а гэты, хоч і лягчэй робіць, да ён галавою лепш пражыве, як той рукамі. За ім і маладзіцы вальготна будзе...

Пракоп. Яно, яно-то так!.. пра яго *(ціха)* людзі блага гавораць.

Міхаль. Гаворадь, гаворадь! Хай гаворадь. А што ён табе зрабіў?

Пракоп. Што зрабіў? Нічога мне...

Міхаль. Э, што там пераліваць! Падумай, пашкадуеш! А Атрыхон... Калі мяне Атрыхон папросіць хо-раша,— сватам буду... А ты, бач, калі зяцю лапы патрэбны,— дастану, права слова дастану, ну слухай: дастану!

Пракоп. Што хочаш заплачу, заплачу, ну!

Міхаль. Дастану, помні!.. А Атрыхон маладзец...

Пракоп. Я ж не даю ганьбы. Я толькі так.

Міхаль *(абнімае)*. Помні...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Заслона.*

## Часць трэцяя

### *З'ява I*

Карчма. Янкель за прылаўкам. Роха каля буфета шые. Са двое сялян курадь люлькі. Уваходзяць Атрыхон, Пракоп і Міхаль.

Атрыхон. Янкель, піва!

Янкель. Шмат?

Атрыхон. Палічы — па пары на брата.

Янкель. Ураз будзе і піва! *(Выходзіць.)*

Міхаль *(седзячы за сталом, Пракопу)*. Во сюды сядайце!

Пракоп *(мацаючы па кішэнях)*. А бадай яе.

Міхаль. Што? Люлькі няма?

П р а к о п. Але, каб яна выхварала,— ізноў згубіў.

А т р ы х о н. Шукайце за пазухаю!

П р а к о п. А, бач, е!.. Ты няйнача штось знаеш?

А т р ы х о н. А ўжо ж знаю!..

Я н к е л ь *(уваходзіць)*. Маеце і піво!.. Так, шэсць...

А т р ы х о н. А ўжо ж, так!

Я н к е л ь. Але я папрашу грошы цяпер, а то сягоння святы дзень — можна забыцца.

А т р ы х о н. А колькі табе?

Я н к е л ь. Нямножка: чатыры злоты.

А т р ы х о н. Гэта пачом?

Я н к е л ь. Па грыўні — просты рахунак.

А т р ы х о н. То, значыць, шэсцьдзесят капеек. Маеш! Дай рэшты! *(Дае рубля.)*

Я н к е л ь *(ідзе за прылавак; пакапаўшыся ў шуфлядзе, прыносіць і кладзе перад Атрыхонам рэшту)*. О, так: лепей, а то галаву адурацы. *(Тым часам жыдовачка ставіць шклянкі, а Янкель адкаркоўвае піва.)*

А т р ы х о н. Колькі тут?

Я н к е л ь. Дзве саракоўкі. Чы не бачыш?!

А т р ы х о н. А, ага! Верна!.. Ну, пеце, дзядзечка,— добрае піво! *(Цмокае.)*

М і х а л ь *(ідзе да прылаўку, бярэ 10 папярос, а потым варачаецца і кажа Пракопу)*. А, добра, халодненькае! *(Выпіваюць і закурваюць: Пракоп люльку, а Міхаль з Атрыхонам папяросы.)*

А т р ы х о н. Можа, дзядзечка, папяросу?

П р а к о п. Не, я ўжо прывык да свае.

А т р ы х о н *(выпіўшы другую шклянку і пусціўшы хмару дыму)*:

І малыш трашчыць.
І вада плюшчыць,
А кум да кумы судака ташчыць...

Міхаль. Пакінь!

Атрыхон. Што пакінь? А табе што?!

Міхаль. Пакінь, кажу, а не — як хочаш!

Атрыхон. Ну, ну, выбачай! Я толькі так...

Міхаль. Сядзі і знай!.. Ну, што, сват, прыходзіць сягоння з гарэлкаю?

Пракоп. То... то, бачыш, я й сам не ведаю.

Атрыхон. Дзядзечка, будзь бацькам! *(Хоча ў руку пацалаваць.)*

Пракоп. Да ну, ну, пакінь! *(З сяней пазіраюць Хоўра і дзяўчаты.)*

Міхаль. Ну, так хто ж ведае? Кажы ўжо, чы што? *(Пачакаўшы.)* Ну, прыходзіць?

Пракоп *(скрабучы за вухам)*. Э!.. то прыходзь, чы што.

## *З'ява II*

Уваходзяць Астап, Петра, а за імі дзяўчаты.

Астап. Так вось дзе ён, а яго дома шукаюць!.. *(К Петру.)* А ты знай сваё. Вось набраўся!..

Атрыхон. А, і Хімачка тут!.. А, Хоўрачка!.. *(Падбягае.)* Хадзем, піва вып'ем; тут і бацька наш.

Хоўра. Адчапіся! Не хачу! Хадзем, Хіма! *(Выходзяць.)*

Атрыхон. Так?! *(К сабе.)* Я табе прытру рогі! Вульяна, хадзі ты!

Вульяна *(выбягаючы за другімі дзяўчатамі)*. Чакай, зараз! Хі-хі-хі!

Атрыхон. Іш вы, прокляць! Згаварыліся...

А с т а п. Пакінь іх там, Атрыхон! Ведама, козы... Хадзі лепей выпі!

А т р ы х о н *(узяўшыся ў бокі і выбрыкваючы нагамі)*:

І піць будзем,
І гуляць будзем,
А смерць... *(ікае)* Ух, я!
Чарнабровая мая!

П е т р а *(узяўшы паўкварты, даліў у піва Міхалю і дацадзіўшы сабе ў Атрыхонаву шклянку)*. Ну, Міхалка, вып'ем!.. Янкель, дай пару! *(Падпіваюць патроху.)*

Я н к е л ь *(падаючы і адкаркуючы)*. А грошы цяпер ці потым?

П е т р а. Можна і цяпер. *(Плаціць.)*

М і х а л ь *(паказваючы на Атрыхона)*. Бач яго, бач,— напіўся!.. Ну, здароў будзь, Астапе! *(Надпівае.)* Астап! А, Астап!

А с т а п. Чаго ты?

М і х а л ь. Ты мне спрыяеш?

А с т а п. Я нікому зла не зычу.

М і х а л ь. Але мне чы спрыяеш?

А с т а п. Чаго ты прывязаўся?! Ну, спрыяю, ну?

М і х а л ь. Давай пацалуемся!

А с т а п *(усміхаецца)*. Ну, што ж, давай! *(Цалуюцца.)*

М і х а л ь. А я гад... гад! Непатрэбны гад... Ведаеш?

А с т а п. Ну?

М і х а л ь. Я ж... я цябе хацеў падвесці, ды не ўдалося. Ну, выбачай. Астапка! Ну... *(Тым часам Атрыхон падышоў, кінуў шапку, сеў, паспытаў піва, паглядзеў на чобаты ды стаў закурваць, плю-*

*ючы перад сабою.练 Пракопківаецца, смокчачы патухшую люльку.)*

А с т а п *(к Міхалю)*. Бог няхай выбачае!

П р а к о п *(схамянуўшыся)*. Ды што я гэта!

П е т р а. Што-о? Дачку прапіваеш!

П р а к о п. Як? прапіваю? сваё дзіця?!

А с т а п. Да ужо ж!

П р а к о п. Не, брэ-эшаш, гад! Каму я прапіваю?!

П е т р а. Пабачым яшчэ! *(Да Атрыхона.)*

А т р ы х о н *(усхапіўшыся)*. Мая Хоўра, мая! І Наста... была...

М і х а л ь. Твая, твая!.. Не захочу, то не твая.

А т р ы х о н. Хто не захоча? Нешта яе пытаецца?!

М і х а л ь. Маўчы, дурань, а то...

А т р ы х о н. Ты сам дурань!

М і х а л ь. Як? Ты?!! *(Усхапіўся.)*

А с т а п *(садзячы яго)*. Маўчы, Міхале! Дай пакой п'янаму!

М і х а л ь. П'янаму, п'я-я-наму! А, а як ён смее?!

П е т р а. Заўтра парахуецеся!.. А ты, Атрыхон, ідзі лепей на сяло з дзяўчатамі пагуляці.

А т р ы х о н. На сяло? А што каму да таго?!

А с т а п. Нікому нічога, адно сварыцца не варта.

А т р ы х о н. А што ён мяне дурнем... *(Ікае.)* Ён сам ду... *(Ікае.)*

Эх, чух, чух чумандра!
Чумандрыха малада!

Эх, Наста мая!.. А дзе я шапку дзеў?

Я н к е л ь *(падняў шапку і надзяваючы яму)*. На, на, твая сапка!

Атрыхон. Ага... гм... *(Садзіцца і мармыча.)*

Петра. Адзін прапіў, і другі прапіў, а хто карыстаціме?!

Астап. Ат, пакінь! Ужо ён і шуткаваць!..

Пракоп. Я прапіў? я?! Гэта той накпіў... З мяне накпіў, злодзей! Дзе ён, той злодзей?

Астап. Чаго ты? Успакойся! Сілай ніхто не возьме. А што п'яны сказаў... Да і ён п'яны... Адрачэцца.

Петра. І ён ужо прапіў!

Пракоп. Дайце рады, людцы добрыя!

Астап. Вот праспіся, то пагаворым. *(Падміргівае Петру на Атрыхона.)*

Петра. Атрыхон, а Атрыхон!

Атрыхон. Га-а?

Петра. Чы то праўда, што Наста, кажуць, замуж ідзе?

Атрыхон. Наста? за каго?!

Петра. Кажуць, Раман Патапаў... Сягоння з гарэлкаю пойдуць.

Атрыхон. Як? Раман?! Наста!.. *(Ідзе к дзверам.)*

Петра. Чакай, куды ты? А з Хоўраю як? Ха-ха-ха!..

Атрыхон. А ну вас к бесу! *(Выбягае.)*

Петра. Ну, бачыце, і прапіў. Што, не праўду я сказаў?

Астап. Ведама, прапіў.

Пракоп. Што прапіў? Хто?

Астап. А вот бачыш: ты прапіў дачку...

Пракоп *(замахаўшы рукамі)*. Маўчы, маўчы! Гэта мяне Міхаль адурыў, каб ён выхвараў!..

Астап. Дай сказаць! Ты прапіў Хоўру Ат-

рыхону, а Атрыхон прапіў яе другому і сам уцёк...

Пракоп. Як, маю дачку?! Роднае дзіця мне?!

Астап. Бачыш, гарэлка да дабра ніколі не давядзе.

Петра. Але ўспакойся: той, каму Атрыхон Хоўру прапіў, не лайдак які, і Хоўра рада за яго пайсці. Адно ты не мяшай, то і сам будзеш рад.

Пракоп. Так ужо райце, як лепей! За гэтымі клопатамі чалавек здурнее саўсім...

Петра. Адно слухай нас, то будзе добра.

Астап. Атрыхон прапіў Хоўру Іўку Пахомчыку.

Пракоп. Іўку?.. Чаму ж я яго не бачыў тутака?

Петра. Іўка, бачыш, нас прасіў выкупіць у гэтага лайдака Хоўру. А то, кажа, гэтакі чорт будзе такую красную дзяўчыну глуміць.

Пракоп. Я ж... я ж за Марку хацеў яе аддаць... Той багаты...

Астап. А што ты ведаеш, хто будзе багацейшы?! Бацька-то Маркаў багат — ні слова, а як Марка тым багаццем пакіруе, то яшчэ немаведама. А гэты — гэты сам багацце прыдбае, бо рукі мае і галаву добрую, і да таго — граматны. Даў мы на то, і Марку ганьбы няма, адно гадаваўся ў раскопы і няграматны. Так хто яго ведае, які ён будзе.

Петра. Я б такога Іўка на двох Маркаў не памяняў бы!

Пракоп. Рабеце, як леп-ей!..

## *З'я в а III*

Уваходзіць А р ы н а.

А р ы н а. А-а ты, валацуга! П'яніца ты!.. Я думала, ён у царкву пайшоў, а ён валочыцца па шынкох! Лайдак ты! Роднае дзіця прапіваць?.. Катора пара́, а яго — як няма, так няма... А ён дзіцятка роднае прапівае! Вось чаго я прыждалася на старасці! Дзявочу душу загубіць хоча. Грэшнік ты акаянны! Яшчэ знайшоў каму, канаводу гэтаму?! Каб не Хоўра, то б і не ведала, дзе і шукаць гэтага...

А с т а п. Цётка, цётка, успакойцеся! Нікога ён не прапіў. Вот выпілі трохі з Міхалем, дый годзе...

А р ы н а. Якое! Што ён маніць будзе?! Мне ж Хоўра казала... Ад слёз свету цяпер, бедная, не бачыць. Як прыбегла, так і рынулася сярод хаты... Бацька, кажа, Атрыхону мяне прапіў... Павешуся, кажа, або ўтаплюся... А ён маніць!..

П е т р а. А дзе ж той Атрыхон, калі так?

А р ы н а *(азіраецца)*. Дзе?.. Або я ведаю!..

А с т а п. Так вот, цётка,— забірай ты свайго дзеда і ўлажы спаць яго. Няхай праспіцца, бо ўвечары мы ад Іўкі з гарэлкаю прыйдзем. Чуеш, цётка?

А р ы н а. Чую, чую, да ўсё маніш?..

А с т а п. Да душы, не маню!

П е т р а. Не, не маніць. Чакай, цётка, нас!

А р ы н а. Ах, вы, гады вы! Адно мяне напалохалі *(смяецца)* і дзяўчыну дурную. Вот вісусы, а ўжо сталыя гаспадары! Каб вас воўк не еў, мае галубчыкі!..

А с т а п. Так напой ты яго квасам, і няхай праспіцца добра!

П е т р а. І пільнуй, каб зноў у добрую кумпанію не патрапіў! *(Арына забірае Пракопа і выходзіць.)*

П р а к о п. Лю-юлька... Дзе люль... люлька?

А р ы н а *(узяўшы з лавы)*. На, смакчы ты, небажатка старое!

М і х а л ь *(усхапіўшыся)*. Куды ты, Пракоп? І я іду...

П е т р а. Хай спаць ідзе! Табе туды нечага!..

М і х а л ь. Я... я ж... сватам...

А с т а п. Ужо па ўсім! Позненька, браце, пралупіўся!..

П е т р а. Ужо і Атрыхон Хоўру прапіць паспеў.

М і х а л ь. То... то як жа цяпер?.. Як?.. А дзе ж Атрыхоо... хон?

А с т а п. Пайшоў у сваты да Насты.

М і х а л ь. Што?.. Хіба ашалеў?!.

П е т р а. Ды вы ўсе ад гэтае га̀ры пашалелі!

А с т а п. Ён ужо святы! Табе не прытраплялася? гм... Накпіў... гм... *(Садзіцца і, узлёгшы на стол, засыпае.)*

П е т р а *(к Астапу)*. Я не кажу... траплялася. Часам пры дзеле, то і нехаця мусіш...

А с т а п. Ну, ведама,— гэтак піць, як яны, чуць не кожны дзень заліваюцца, то згуба адна, чыстая згуба! Мала таго, што дабро прапівае, але — куды ж тагды чалавек варт?!

П е т р а. Але каб гэтае гары не было, то лепей было б.

А с т а п. Тагды б іншую замароку знайшлі. Даўней, кажуць, мяды сыцілі, брагу варылі, а цяпер усё пазабывалі.

П е т р а. Я чуў, што ў Гродзеншчыне дзе ка-

торыя сёлы зарок далі і манапалькі пазакрывалі.

А с т а п. Ну, у нас гэта не скора будзе! Там, можа, маюць іншы які трунак?

П е т р а. Чы то канечне ўпівацца?

А с т а п. Яно-то і не канечне, ды людзі, бач, людзі. Ды во, хоч бы і я... Часам пойдзе такая часіна, што мушу, здаецца, загуляць, адно на павадку сябе трымаю, бо знаю сваю натуру. Як разгуляюся, то гатоў ліха натварыць і сабе і другім.

П е т р а. Вота ж то! Неяк цесна чалавеку на свеце. Хочацца слабоды, шыру, размаху, а тут няма. Так слабейшыя і заліваюць сабе памяць гарэлкаю.

А с т а п. Вот, вот! Выняў у мяне слова з губ, што цесна... Часам, як прыступіць, так сам не ведаеш, што з сабою пачаць. Здаецца, кудысь ляцеў бы, біўся, ламаў бы ўсё... Не, лепей не гаварым аб гэтым, а то страшна, каб павадок не парваўся, а то тагды або ўшчыт нап'юся, або нагармідару.

П е т р а. Дзяржыся, браце!.. Многа раёў сяголета ўлавіў?

А с т а п. Не лішняе. З пятнанцацёра ўлавіў.

П е т р а. Ну, то чаго ж! Яшчэ дагэтуль сяголета і багатшыя за цябе земцы болей не пасаджалі.

А с т а п. Яно-то так! Але вось аб'ездчык казаў надоечы, што некаторыя стойлы трэба будзе апрастаць. Купцы валяць, кажа, будуць.

П е т р а. Праўда? О, то не цікава. Бадай іх пярун, з гэтымі купцамі! Шмат пчол памарнуецца.

А с т а п. А чы даўно-то ўся пушча наша была? Не зналі мы нікога; дзе хацелі, пасвілі, дзе хацелі, стойлы займалі і звера білі, і баравое, і ўсё наша,— а цяпер?.. Такому ж лапатніку, як сам, кла-

няйся, бо ён ляснік,— мае волю. А аб'ездчык, а ляснічы? Ад самога адміністратара, то хоць хіба пад зямлю лезь. Строгасць... За ўсё плаці: і за пашу, і за вотчыну, за баравое; а стрэльбы не дзяржы, пугавейца не выраж, не то, што шаста высеч; а за лужок паршывенькі, то і шкуру злупяць... І ўсе на вачах гэтыя перамены сталі...

Петра. Было, да сплыло — мала што калі было! Бач яго — пан; яго пушча! Ха-ха-ха! Маўчы з ціхатою, знай, і — толькі!.. Вот трэба было б у лес прайці, да каб не запазніцца. Гэта ж сватаўства сягоння маема.

Астап. Так мы толькі на Глынную Граду збегаем, то якраз к дзелу паспеем.

Петра. Ну, то хадзем! *(Выходзяць.)*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*1910 г.*

# СТАРАЖОВЫ КУРГАН

## АСОБЫ

О р к а — шынкар.
Х э й н а — яго дачка.
В а я в о д а.
К а з а н а к  М і к о л а.
В у л ь я н а.

### *З'я в а I*

У мястэчку прасторная карчма. Чуваць топат, людскія галасы і пырханне коней. О р к а кашляе ў бакоўцы; Х э й н а глядзіць у акно, потым ідзе к дзвярам і ў дзвярах спатыкаецца з в а я в о д а ю.

В а я в о д а *(уваходзячы, заступае Хэйне дарогу)*. А, Хэйначка! Дакуль жа так бяжыш?

Х э й н а. Няхай вяльможны пан мяне пусціць! Я, як дыхнуць, прыйду.

О р к а *(выходзіць з бакоўкі, ляскае языком і кланяецца)*. Ой-вай! Сцаслівы дзень — яснавяльмозны пан да нас! Я думаў, сто пан узэ запомніўся па старога Орку...

В а я в о д а. А вот бачыш, помню. Але на цябе, Орка, і старасці няма! *(Пачакаўшы.)* Мядок маеш?

О р к а. Ой! Зацым, каб для такі ясны пан мёд не было! Е... файн, цымес! Як золата!

В а я в о д а *(казаку)*. А ты, дурню, кабол нясі і торбу дай сюды! *(Казак выходзіць. К Орку.)* Ну, а дачкі замуж яшчэ не аддаеш?

О р к а. Ой! Ясцэ цас, няхай тата з мама паце-

сыць. І замуз — трэба пасаг, а дзе яго ўзяць, як няма?

В а я в о д а. Ну, хіба ўжо і няма? *(Садзіцца за стол, гладзіць вусы, барабаніць пальцамі па стале, а далей кажа.)* Ну, што ж мёд бо?

О р к а. Ураз! Вось узэ Хэйна нясе. *(Уваходзіць Хэйна з глякам.)* О, проса пана яснага пабачыць. Як золата! *(Наліваe ў шклянку перад ваяводаю.)* Такі мёд яснамяльмозны пан нідзе не знайдзе. *(Уваходзіць казак з каболам і торбаю.)*

В а я в о д а *(смакуе)*. Ну, гэта ўжо брэшаш! Але, само сабой, мёд ніштo. *(П'е і закусывае.)* Вот, Орку, пайдзі ты, пастарайся, каб коні былі накормлены, і людзям гарэлкі дай. Чуеш?

О р к а *(не спяшаючыся натачыў гарэлкі ў глячок і ўзяў чарку)*. Ой, ураз! Сто ясны пан каза, усё будзе. *(Выходзіць.)*

В а я в о д а. Хэйна!

Х э й н а. Што пан кажа?

В а я в о д а. Хадзі сюды! *(Хэйна падходзіць.)* Да хадзі ж бліжэй!

Х э й н а *(падступіўшы шаг)*. Ну? А навошта бліжэй? Я не глухая!..

В а я в о д а. Але я хачу з табою пагаварыць — чуеш?! Хадзі сядзь! *(К казаку.)* А ты, хам, чаго стаіш? Пайшоў да коней, жыва!

Х э й н а. А можа, пан скажа яму гарэлкі даць?

В а я в о д а. Дай ды няхай убіраецца к бесу!

Х э й н а. Чакай, Мікола! Хадзі, на выпі! *(Маргае яму, потым стала так, каб ваявода не бачыў, наліваe ды, пакаштаваўшы, дае казаку.)*

М і к о л а *(выпіў адну чарку, другую ды, крэкнуўшы, абцёр губы)*. Дзякуй! *(Выходзіць.)*

В а я в о д а. Ну, хадзі, Хэйна, сядзь!

Хэйна. Дзякую! Які ясны пан да мяне ласкаў... Але як мне пры такім пану сядзець? Гэта ж усе смяяцца з яснага пана будуць.

Ваявода *(сярдуе)*. Не тваё дзела! Ну!.. Вот так! *(Хоча абняць.)*

Хэйна *(адпіхае руку)*. Ну, а на што рука? *(Пачакаўшы.)* Ой, тата ідзе! *(Вырываецца і адбягае за стойку. Уваходзіць Орка.)*

Ваявода *(моцна дыхае)*. Ну? А што?

Орка. Ніцагутка! *(Азіраецца па карчме.)* Усё добра! Орка для яснавяльмозны пан і з-пад зямля дастане.

Ваявода *(падышоўшы і расчыніўшы дзверы, моцна гукае)*. Гэй, Мікола! *(Казак убягае.)* Прыбяры гэта! *(Ваявода апраўляецца і выходзіць. Мікола збірае са стала, выносіць у стадолу кабол з торбаю і, вярнуўшыся, садзіцца на лаве. Орка ідзе ў каморку і, чуваць, моліцца богу. Хэйна крятаецца па карчме.)*

Хэйна *(падходзіць, садзіцца каля Міколы і ціха пытае)*. Чаму гэта так доўга не відаць цябе было?

Мікола. Ездзіў ганцом к гетману да Вільні.

Хэйна. А я думала, што ты, можа, захварэў. Я дужа неспакойна была...

Мікола *(бярэ яе ўпол і кажа жартуючы)*. Праўда? Няўжо ж ты мяне такі любіш?

Хэйна. Ой, а як такога малайца не любіць? *(Абнімае яго за шыю, і цалуюцца.)*

Мікола. Даў бы мне мой пан, каб убачыў, як я з табою абнімаюся!

Хэйна. А чаму ён сам лезе абнімацца?! Стары бугай гэты!

Мікола. А ты як ад яго вывернешся?

Хэйна. О, я яму дам рады! Я не ваша дзеўка, што ўсякі пан здзекуецца колькі хоча. *(Цалуюцца.)*

Ваявода *(уваходзіць і, убачыўшы пацалункі, кажа).* Гэ, гэ, гэ! А ты, хаме, тут дзеўку баламуціць будзеш?! Вон!!! *(Ходзіць па карчме і моцна дыхае.)*

Хэйна *(пачакаўшы, зазірае ваяводу ў вочы, пасміхаецца).* Можа, ясны пане мёд піць будзе?

Ваявода. Адчапіся! *(Пачакаўшы.)* Хараша, хараша, Хэйна! Пабачым, што бацька на тое скажа? І з кім? З хамам, з халопам лядашчым?! Хараша!

Хэйна. Ну, няхай! А калі ясны пан з жыдоўкаю займаецца? Ну, што цяпер будзе?

Ваявода. Маўчы! *(Пачакаўшы.)* Дай мёду!

Хэйна. О, рэхт! І чаго там на каго злавацца?

Ваявода. Ну, я гэтаму мужыку не дарую!

Хэйна. Ой, чаму не?! Ясны пан усё можа. Бо хіба сам гетман і кароль нават пану нічога зрабіці не могуць... Але ці пан... такі ясны пан будзе такім глупствам займацца? Што такому пану можа абходзіцца, што мужык з жыдоўкаю пацалуюцца? Я ведаю, што гэта пан толькі жартуе. Пан — такі пан... вялікі пан...

*Заслона.*

## *З'ява II*

Палянка ў глухім лесе, дзе атабарыліся з сям'ёю тры беглых селяніны перад татарвою. Адзін гадоў пад 90, двох па —50; пара падросткаў хлопцаў, некалькі дзяўчат, паміж каторых адна, Вульяна-красуня; тры гаспадыні, з каторых адна ўдава,

матка Вульяны; адна баба старэнькая і наймiт лет 25. На палянцы агонь; людзі збіраюцца вячэраць. Сабакі ўсхватываюцца і кідаюцца ў лес, брэшучы. Старэйшы гаспадар, узяўшы сякеру, ідзець у лес, за ім другія пабралі сякеры і прыгатаваліся к абароне. Потым першы гаспадар варочаецца з лесу, а за ім казак на кані выязджае.

Казак. Пахвалёны...

Галасы. На векі векаў!

І гаспадыня. Балазе свой чалавек, а то ж вельмі напалохаліся.

ІІ гаспадыня. Думалі, Ліпок ці турчын які.

Ст. гаспадар. Не павінен, здаецца, ён сюды папасці, бо ім у чужой старане боязна адлучацца, хіба ватагаю, да і то яны там едуць, дзе пажывіцца могуць. А ў лесе — што яны знойдуць? Хіба жалезца або кульку з-за пня...

2-гі гаспадар. Вось сядзь, казача, супачынь крыху! *(Казак злазіць, разглядаецца па людзях і, убачыўшы Вульяну, часта на яе пазглядае.)*

1-я жонка. Сядзь вот, з намі павячэраеш!

1-шы гаспадар. Толькі вялікіх дастаткаў не спадзявайся, бо мы адно тое з сабою ўзялі, што панесці паўздужалі, а ўсё дома пазакопвалі. Мы бо ці ж загадзе дазналі, што да нас госць люты прыбывае?!

Казак. Спасібог! Балазей добрых людзей напаткаў, а то дужа ўтаміўся. *(Садзіцца каля пасланага бабамі абруса, на каторым стаяць глячок, міска, хлеб, чарпачок і лыжкі. Такіх засцілаў тры. Выпіўшы з глячка па чарпачку, сталі чэрпаць з місы лыжкамі.)*

Б а б а. Што гэта цябе, саколіку, бог нясе пад нашу татарву?

К а з а к. Паслалі, бабуся, у старожу на гасцінец Слабодку.

Г а л а с ы. Што ты?!

1-шы п а д р о с т а к. Гэта ж нашая Слабодка ўжо спалена, і татарва на гэты бок рэчкі ляжыць.

К а з а к. Яны ведаюць, затым мяне і паслалі сюды, каб я стаў, пакуль вораг не рушыць, а потым чым дуж, каб сваім даў знаць, дакуль ён направіцца. Тут, за лесам, нас паўтары сотні стала, і па ўсіх дарогах варты пастаўлялі, а мяне сюды ваявода паслаў.

Д з е д. А чый ты, хлопча?

К а з а к. Сакальчукоў — можа, чулі?

Д з е д. Га? А ты мацней гавары, бо я трохі недачуваю.

К а з а к. Я Сакальчукоў Мікола.

Д з е д. Аа! Сакальчукоў Мікола. А якога ж, бо я трох знаў?

К а з а к. Юра.

Д з е д. Юра, кажаш, Юра... Не знаю, не знаю. *(Ківае галавою і мармоча.)*

1-шы г а с п а д а р. А гэта ты заўсёды нашаму ваяводу прыслугуеш?

К а з а к. Але... бывала.

1-шы п а д р о с т а к. А як татарын цябе агледзіць ды заб'е?

К а з а к. Ну, што ж, ваявода нечага рад будзе.

2-я ж о н к а. Чаму так? Як та можа быць? Мы чулі, ты ў яго ў ласцы.

К а з а к. Было дый прайшло.

2-я ж о н к а. Чаму так? Завошта?

К а з а к. Да так, на перашкодзе стаў.

1-шы гаспадар. Ат, што ты байдурыш!

Казак. Я не байдуру, адно казаць сорамна.

1-я жонка. Кажы, маладзец, не бойся! Усе тутака людзі свае.

Казак *(падумаўшы)*. Бачыце, людцэ добрыя, ё ў Ляхавіч жыдоўка, Хэйна завецца,— і дужа ўдалася яна ваяводу, а яна яго ані блізка. І вось тая Хэйна стала мне падморгіваць. Ну, я, вядома... да таго ж яна і вельмі красна... *(Паглядвае бокам на Вульяну.)* І звёў нас нячысты пацалавацца, а ваявода на тое найшоў. І было б мне, каб не яна, пэўня б, ужо дзе землю парыў.

1-шы гаспадар. Як жа яна цябе абараніла?

Казак. Як? Яно-та і штука! Як стала яму дакладаці ўсё жарцікам да кепствам, так той сякдзіць, як бурак чырвоны, і сам не рад, што заняўся, і зло на мяне ў сэрцы затаіў. Перш, бывала, ён без мяне нікуды, а цяпер — ані на вочы. *(Устаўшы, хрысціцца.)* Дзякую вам, людцы добрыя, за вячэру! А мне пара на становішча, бо як бы ні было, а выпаўніць трэба.

1-шы гаспадар, 1-я жонка. Выбачай, саколіку. Чым багаты, тым і рады.

2-гі гаспадар. А як жа, скажы, ты да нас патрапіў?

Казак. Гасцінцам. Бачыце, я баяўся ехаць, каб на каго не наткнуцца; так я ўсё бакамі прабіраўся, ды далёка ў лес заехаў, вядома, папацёмку. Бачу, агонь свеціцца. Я ціхенька туды... прыглядаюся здалёку, бачу — свае. Я тады ўжо смела. *(Садзіцца на каня, азіраецца на Вульяну і кланяецца.)* Ну, бывайце здаровы! Адно ці патраплю цяпер?..

1-шы гаспадар. Чакай, я цябе на дарогу выведу. *(Ідзе наперад, за ім казак ідзе.)*

*Заслона.*

## *З'ява III*

Курган. За курганом управа — лес; з-за лесу выязджае казак. Прыехаўшы да кургана, прывязвае каня за ялоўцавы куст; сам стаў на кургане, успёршыся на піку. Потым азіраецца на каня, працірае вочы, мармоча штось пра сябе і, махнуўшы рукою, ідзе ўніз, навязвае каня на аркане, а сам кладзецца на кургане ад стараны лесу. Далей — як бы світае. Выходзіць Вульяна з лесу і, крадучыся, падходзіць да казака; вырывае травінку і водзіць ёю казака па твары. Той падымаае голаў, азіраецца кругом, носам чмыхае, працірае вочы, а дзяўчыны не бачыць. Потым сам да сябе кажа.

Казак. М-гг! А такі ўжо, здаецца, свет. Не так неяк вусцішна...

Вульяна. А ўжо ж!

Казак. Хто тут? *(Узіраецца.)* Дзяўчына... Што ты тут робіш?

Вульяна. А што ты спіш, як у сябе на печы? Ці ты, казача, не знаеш, што там, у лагчыне над рэчкаю, вораг люты ляжыць?

Казак. Так гэта ты, дзеўча, мяне пабудзіла? Мне перш паказалася, што хтось мяне па твары выцяў, а потым думаю, што сасніў, ажна гэта — ты! Чакай, я ж бо няйначай у лесе цябе бачыў?

Вульяна. А калі бачыў, то што?

Казак *(засаромеўшыся)*. Нн... нічога. *(Пачакаўшы.)* Але чаго ты аж сюды зайшла?

Вульяна. Чаму?

Казак. Ды так...

Вульяна. А ты чаго спаў?

Казак. Бо сон змарыў.

Вульяна. А я цябе пабудзіць.

Казак. І не баялася ні звера лютага, ні татарына паганага?

Вульяна. Я ішла цябе перасцярэгчы, а аб тое не думала. Але ты моцна не гавары, бо ў татарвы вушы чуткія.

Казак. То што — усё роўна я на смерць пасланы.

Вульяна. Ат, пакінь гаварыць пустое. *(Вульяна шчыпле траву, казак мне раменьчык у пікі.)*

Казак. Не, але скажы праўду, ці ты б кожнага гэтак будзіць пашла?

Вульяна. Мажа, і не, не ведаю. *(Маўчыць.)*

Казак. Няўжо ж табе шкода мяне?

Вульяна. Каб не шкода, дык бы не будзіла.

Казак. Няўжо ж я табе ўдаўся?

Вульяна. Не ведаю. *(Пачакаўшы.)* Адно ведаю, што за табою ўсюды б пайшла.

Казак. Але ўсё ж ты такі дурненькая.

Вульяна. Можа... А чаму?

Казак. Ці ж ты нашага жыцця казацкага не знаеш? Паложым, і ты мне дужа ўдалася... шчэ ў лесе. Але ўсё ж такі, бачыш, я слуга, маю над сабою пана, ды яшчэ якога пана! Пан мяне дзе хоча пашле, што хоча — загадае, а я мушу слухаць. На тое я служу. *(Пачакаўшы.)* А ты адно долю сваю праклінацімеш. *(Падслухвае.)*

Вульяна. Ты кажаш, што мяне спадабаў, а я цябе кахаю,— дык каго ж нам трэба болей? Ты перада мною, я перад табою, а бог над намі... *(Абнімаюцца і цалуюцца.)*

Казак. Ну, але ты, мая галубка, бяжы да свайго таборышча, каб часам паганцы не згледзелі. Ужо, чуваць, варушацца...

Вульяна. Так ідзема разам!

Казак. Не, галубка, не можна! Я мушу сваё дастаяць. Што ж бы я тагды за казак быў?! *(Падцягвае папругі і прывязвае каня за повад.)*

Вульяна. Дык глядзі, шануйся!

Казак. Добра, кветачка! Цяпер маю надзею, што не ўловяць, бо і конь перакусіў, і я трохі супачыў. Ну, ідзі ўжо! Я калі, дасць бог, жыў буду, то першым дзелам да вас прыеду.

Вульяна. Ну глядзі ж! Бывай здароў! *(Бяжыць у лес.)*

Казак. Бягай здарова! *(Прылегшы за курганам, углядаецца ўдаль. Тым часам штораз відней становіцца.)*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Завеса.*

# СЫН ДАНІЛА

## Дзея першая

Каля акна сядзіць маладая б а я р ы н я за праснiцай ды пазірае ў акно, спяваючы:

У лесе, у лузе крынічка была.
Над тэю крынічкай каліна расла.
Ой, тама, бывала, галубка сіва
Ту чыстую воду з крынічкі піла.
Стрывожыў галубку галуб малады.
Хоч страшна пакінуць жыццё без бяды,
Хоч сіза галубка слабодна была —
За сізым галубам у клетку пайшла.
У клетцы з галубам шчасліва жыве.
І песню сардэчну радзенька пяе.

* * *

То не ваўкі завылі,
Лесам голас пусцілі;
То не зубар у пушчы раве,
Ой, то трубы завылі,
Лесам голас пусцілі;
То труба другое вяшчае трубе.
То не ветры зліліся —
То Усяслававы воі ідуць,
Што за крыўду расправу
Учынялі крываву...
Павязаных ворагаў з сабою вядуць.

Цяпер усяк ку сваёму
Вяртаецца бо дадому,
Многа дабра, палону набраўшы,
Гойстры мячы прытупіўшы,
Тапары прызубіўшы,
Сабе славы багата прыдбаўшы.
З няволі бо адбілі
Князя дый вызвалілі,
Што зыманы быў кіяўлянамі
У тым Менскім гародзе
Пры Няміжным бродзе.
Вызвален князь палачанамі!
Гэй, воі Усяслававы,
Дружыннікі Глебавы,
Слаўныя мужы полацкія!
Гэй, людзі бывалыя,
Пакінем справы жаноцкія!
Часы даўны бранныя
Памянём прызваныя;
Мы далей ку дзелу слаўнаму
Свой край дый бараніці,
Ўрагу славу ўчыніці!
Славу зышчама па-даўнаму.

Д а н і л а *(ціха падыходзіць і цалуе яе)*. Эх, жонухна, галубка мая любенькая!

Ж о н к а. Чаго ты такі, чагось невясёлы як бы?

Д а н і л а. Эх, жонухна, жонухна! Годзе ўжо нам варкаваці, годзе цешыцца сабой...

Ж о н к а. Што ты? Чы я табе ўжо прыдакучыла? Чы мае белы рукі, цябе абнімаючы, дадзелі?

Д а н і л а. Не тое, галубка, не тое! Не прыда-

кучыла ты мне ні сваімі вачапятамі карымі, ні ручкамі сваімі белымі. А трэба мне ў дарожаньку збірацца, на бой-вайну знаражацца. Князь, бач, вестку прыслаў, баяр на бой склікаючы на ворага, што рубеж ад увасходу нарушыў і дужа лютуе, нашы воласці грабячы, сёлы і месты палячы... Трэба іці сваіх бараніць.

Ж о н к а. І ты паедзеш і мяне пакінеш?

Д а н і л а. Мушу, галубка, мушу. На тое я — баярын, каб край свой бараніці за тых земцаў, пасялян, што нас хлебам кормяць, сваю кроў гатоў праліці. На тое я з дзядоў, прадзедаў баярынам завуся.

Ж о н к а. І што я, бедная, рабіціму? І цябе супыняці мне не падабае, і, застаўшыся без цябе, голубе, я з тугі загіну. Знаць, ліха помстуе над намі за тое, што дужа шчаслівыя былі. Ой, гора ж, згора мне, беднай! А што, як цябе вораг... Не, і згадаці страшна!

Д а н і л а. Пакінь, галубка, наперад жахацца! Дасць бог, здароў вярнуся назад.

Ж о н к а. Хаця б скарэй! Ты лішне не баўся, а як пражаняце ворага, ды проста і дадому вяртайся.

Д а н і л а. Добра яно сказаць — скарэй, а на дзеле, то бог ведае, як будзе.

Ж о н к а. І навошта гэтым людзям вайна здалася?! Б'юцца, рэжуцца, мардуюць, грабяць, паляць... Колькі ўдовіных слёз пральецца, колькі крыві маладзецкае... І не могуць яны жыці ў згадзе і міры. Чаго яны не падзеляць? Чаго помстуюць?

Д а н і л а. Гэй, жонухна, не нашае з табой

дзела справы мірскія ведаці! На тое ё большыя за нас... Я да іх не пайду, а сваіх бараніць буду.

Ж о н к а. Ты! Я думаю, ты б і недругу крыўды сам не ўчыніў.

Д а н і л а. Э, што там! Усе людзі як людзі.

Ж о н к а. Ой, не ўсе, голубе, не ўсе!

Д а н і л а. Чаму? Можа, табе хто крыўду прычыніў? Што ты так на людзі наракаеш?

Ж о н к а. Не, я так. Няўжо няпраўда?

Д а н і л а. Вядома, што не ўсе роўныя. Ну, але трэба збірацца, я й так забалакаўся з табою.

Ж о н к а. Як, ужо?

Д а н і л а. Ды ўжо ж. Гэтага дзела не адложыш. *(Да ўвайшоўшага старца, што каміна пільнуе.)* Схадзі ты, дружа, клікні да мяне Радзьку.

Ж о н к а. Божа ж мой, божа ласкавы! Якія правіннасці мы ўчынілі, што нас карай пытаеш? Мы ўсяго гадочак, як адзін дзянёчак, з табою пражылі, божа міласцівы! Ад'язджае ад мяне мой сакалочак, сівы галубочак. Нясе сваю галоўку буйную пад шаблі гострыя, пад тапары важкія, пад пікі сталёвыя. *(Плача.)* І на каго ж ты мяне пакінеш, мой саколе любы, мяне, сіраціну, без сэрца прыхільнага, без парады шчырай. *(Плача.)*

Д а н і л а. Супакойся, зязюля! Адна не будзеш — маці мая парадай стане, а я, дасць бог, хутка здароў завітаю.

Ж о н к а. Ой, маці, маці! Не любіць мяне маці твая, не церпіць моладасці мае...

Д а н і л а. Пакінь, гэта табе так здаецца. Пустая думка на сум табе вярзецца. Чаго разрыдалася ты, дурная? Чаго слязамі ясны вочы тума ніш? *(Уваходзіць маці.)*

М а ц і. Чаго ты расплакалася, як пагода ўвосень? Чаму ты яе не ўнімеш? Чы то ёй хлеб у мужа агарчэў? Чы збрыдзеў свякровін голас?

Д а н і л а. Не тое, матка, кажаш, адно болей тугі ёй прычыняеш. Мне, бачыш, трэба вось пакінуць — мушу ехаць...

М а ц і. Ага, я чула, што вайна ідзе, чы то праўда? На тым свет стаіць, што мужчыны дома не сядзяць, і мой на вайну ходываў. Чы мала дарагіх бармаў і хустаў красных і маністаў дарагіх прывожываў? На тое мы — баяры, каб вайну ваяваці, а не жонак у святліцы вартаваці. Стыдалася б так плакаць... А ты, сынок, шануйся, без патрэбы не совайся. А я тваю зязюлю ўхаваю ад усякай крыўды, не дам ручак замараці. Хоць яна і маладзенька і гуляці дасужа... Да што там гаварыць! Будзь спакойны — на то я маці...

Д а н і л а. Спасібог, маці, за добрае сэрца. Глядзі ж, матачка, яе, як роднае дачкі свае! Хай бог вам паможа. А цяпер — вы, бабкі, падумайце аб ядзе, а мне збірацца ўжо час. *(Уваходзіць Радзька са старым.)*

Р а д з ь к а. Чалом ці, баярыне! Яко прыказанне мне загадаеш, саколю?

Д а н і л а. Вось што, цівуне: нам на вайну трэба ступаці.

Р а д з ь к а. Я гэта ўжо ведаю, і сёе-тое прыгатавана, саколю.

Д а н і л а. Вот бачыш — я ў такіх справах яшчэ не бываў, а ты чалавек бывалы, ваяка дазнаны,— знаеш лепей, што трэба. Каб усё было, як трэба.

Р а д з ь к а. Будзь, саколю, спакойны. Здайся на маю старую галаву! Стары Радзька, саколю,

сораму не прычыніць. Я пад тваю міласць думаю вараным узяці, а буланага — то на повад вазьму. Той у бою паваратнейшы, хоч не так сабою стройны.

Д а н і л а. Добра, дружа мой верны! Рабі, як сам знаеш, або добра было.

Р а д з ь к а. Будзь спакойны, саколю. *(Выходзіць.)*

Ж о н к а *(уносіць кумпяк бараніны, а за ёю маці збан мёду)*. На, пасілкуйся, саколіку мой ясны! Хто табе там падасць? *(Плачучы, засцілае абрус і ставіць страву, налівае ў кубак мёду, надпівае і, сеўшы пры мужу, гладзіць яму чупрыну.)*

Д а н і л а. Хто падасць, кажаш,— то не бяда; і ў мяне рукі ё, хоч, можа, і не так будзе соладка. Але каб вайна не зацягнулася. Каб бог памог хутчэй ворага выгнаці. Ты за мяне да бога тут уздыхні.

Ж о н к а. Ой буду, буду, галубчыку сізы, бога маліці, хаця б цябе здаровенькага дамоў прывёў. І ты як табе часам маркотна стане, нагадай аба мне. *(Уцірае вочы, плача; маці тым часам сыходзіць, прыносіць сарочкі і складае ў верані ды падае старому, каторы выходзіць.)*

М а ц і. Аддай гэта Радзьку.

Д а н і л а. Хадзі, матка, выпі з намі па развітанне.

М а ц і. Да пеце ўжо хаця вы, маладыя!

Д а н і л а. Каб хутка здаровым пабачыцца.

М а ц і. Дай, божа!

Ж о н к а. Каб вораг адпаго віду вашага спалохаўся, ды ўцёк, каб і біцца не з кім было!

М а ц і. Эй, ты, сарока неразумная! А слава, а здабыча, палон дзе будуць?

Жонка. Э, ці ў нас свайго не хваціць? Праўда, голубе?

Даніла. Як бог дасць, так і будзе, а нам лепей бы ворага не знаць. *(Жонка абнімае і цалуе мужа.)*

Радзька. Ну, баярыне, гатова ўсё, саколю!

Жонка *(падаючы кубак з мёдам)*. На, вып, дружа, на дарогу, каб весялей было вам.

Радзька. Спасібог, красна маладзіца! Дай бог вам шчасця і пацеху, саколю!

Даніла. А суседзі путныя ўжо прыйшлі?

Радзька. Аднаго толькі, саколю, яшчэ не было, ды і той ужо павінен з'явіцца.

Даніла. А вось што — пакліч іх сюды ў святліцу, ды выпіце на дарогу, каб весялей на душы было. А ты, матка, страву прыкажы падаць і мёду. *(Уваходзіць Радзька і 5 путных баяр, ды кланяюцца гаспадыні шапкамі да зямлі; дзве дзеўкі прыносяць яду, трэцяя бохан хлеба, а хлопец збан мёду.)*

Баяры. Здаровы былі, баярства маладое, шчаслівай доляй упору злучаныя.

Даніла. На здароўе вам! Вот сядайце, другаве, і пасілкуйцеся на дарогу трудную на дзела, бач, ратнае.

Баяры. Спасібог, спасібог. *(Садзяцца.)*

Адзін баярын. Скора здаровым з палонам багатым дахаты вярнуціся! Здаровых дома аглядаці і прывітаці!

Галасы. Дай божа, дай божа! Соб, божа!

Баярыня. А старому можна наліць?

Даніла. Чаму ж не? Што ты пытаеш яшчэ.

Баярыня *(наліўшы)*. Выпі і ты, старэнькі,

за здароўе мужа майго ды заграй ты нам што-небудзь такое харошае, як ты ўмееш.

С т а р ы. Здаровы будзьце вы ўсе! *(Выпіўшы, выходзіць і варочаецца з кобзаю, а тым часам Даніла прашчаецца з жонкаю, з маткаю і інш. Усе наскора апраўляюць на сабе адзежу і броню і, стаўшы каля выхаду, слухаюць і падхватваюць песню; потым выходзяць за маладым з хаты; апошнімі выходзяць стары і маці. На дварэ чутно канец песні, каманда «на коні! гайда!» і тупат. Дзеўкі ўводзяць плачучую маладую баярыню, а маці ідзе за імі.)*

М а ц і *(сярдзіта)*. Чаго ты? Чаго ты так расхадзілася, як халопка якая? Знойдзеш сабе ўцеху! Не ўдавай такое няшчаснае...

*Заслона.*

## Дзея другая

1. В а я в о д а.
2. Д а н і л а.
3. Р а д з ь к а.
4. Б а я р ы.
5. Ч э л я д з ь.

Д а н і л а з м а л о д ш ы м і б а я р а м і разлажыліся ў лесе пад дубам; аглядаюць сваю броню і перакідаюцца словамі. Даніла задумёны маўчыць.

1 - ш ы б а я р ы н. Ух, яшчэ косці баляць, як той гад паабнімаў! Чуць-чуць вырабіўся.

2 - г і б а я р ы н. А мне б ужо магіла была, каб не Даніла падскочыў. Ужо на мяне тапаром замах-

нуўся, а шабля мая пераляцела напалы, а абушок як завяз у шаломе таго, то я і не мог справіцца. Ужо толькі жду, як мой дух будзе выходзіць. Ажно бачу — рука яго як паднялася ды і не спусцілася, адляцела набок з тапаром. Гляджу — і сам сабе не веру: над вухам Даніла як крыкне: «Чаго стаіш? Вораг уцякае...»

3-ці баярын. Бачыш, гады, шаблюгу маю як пазубілі!

4-ты баярын. А мне такі хтось па галаве здорава заехаў. Прачнуўся — а ўжо адны мярцы валяюцца. Чуць падняўся: балазе шышак мой крэпкі.

1-шы баярын. Ды ў цябе й галава не слабша шышака. *(Смех.)*

5-ты баярын. Цяпер, я думаю, па дамох пацягнемся.

2-гі баярын. Ды ўжо пара. Дзякаваць богу, папрацавалі праз усю весну і лета шмат захапілі.

3-ці баярын. Колькі ўжо часу будзе, як мы з дому?

1-шы баярын. Ды ўжо шэсць маладзікоў наставала, а сабраліся мы ў Загор'е якраз самаю поўняю, а цяпер — ветах. Вот і лічы...

2-гі баярын. Уга, то ўжо багата часу! А швыдка той час пры дзеле бяжыць. Гэта ж ужо 8 месяцаў.

5-ты баярын. Вот дзіва!

4-ты баярын. Ну, але цяпер вораг нас пазнае! Другі раз, мабыць, не скора завітае.

1-шы баярын. Непанадна будзе!

3-ці баярын. Вось і старшыя ідуць.

5-ты баярын. Устаньце, ваявода ідзе!

В а я в о д а. Вось дзе яны — у халадок пахаваліся! Спачываеце? Ну, па працы, то не грэх. Дзякую вам, малайцы, пастараліся!.. Сядзем, баярства, і мы з імі пасяджом, бо вельмі горача.

С т а р. б а я р. Хто цяпер не рад у халадку пасядзець!

В а я в о д а. Скажэце мёду сюды падаць!

5 - т ы б а я р ы н *(укланіўшыся)*. Як дыхнуць... *(Ідзе.)*

В а я в о д а. Ну, што, Даніла, здароў? Трэба ведаць, баярства, што сей маладзец мне дужа памог. Каб не ён, то не ведаю, як было б, бо каля мяне вельмі цесна стала. Ды якраз ён са сваімі людзьмі падскочыў, як той каршун, і зразу ворага змяшаў. І мы аправіцца ўспелі.

2 - г і б а я р ы н. Ён жа і мяне ад няхібнае смерці вызваліў. Шабля мая пырснула, чаканец у шаломе ворага ўвяз, а тут ужо нада мной тапор падняў некі вядзмедзь, ды Даніла ў тую міць руку з тапаром яму адхваціў.

В а я в о д а. Добра, Даніла, пачынаеш! Дай бог і далей так спраўляцца!

Д а н і л а. Спасібог, ваявода, за добрае слова!

В а я в о д а. Ды ты штось хмурны? Што гэта можа значыць?

Д а н і л а. Нічога, так штось, і сам не ведаю.

В а я в о д а. Можа, па маладзіцы затужыў — кажуць, вельмі красна...

Д а н і л а. Усякаму сваё дарога.

В а я в о д а. Ну, але супакойся, скора ўбачышся.

Д а н і л а. Спасібог! *(Прыносяць мёд у двух збанках.)*

Ваявода. Ну, вып'ем, Даніла, на пагібель ворага.

Галасы. На пагібель, на пагібель! Каб ён назаўсёды ахвоту ўтраціў! Дай божа! На пагібель!

2-гі стар. баярын. Шкада нам цябе, Даніла, дадому пускаць. Ты б мог у Полацку, пры вялікім князі, шмат чаго даслужыцца.

Даніла. Роднай краіне я гатоў заўсёды паслужыць, і не затым, каб даслужыцца, а затым, што гэта мая павіннасць.

Ваявода. Во, маладзец! Люблю, дай руку!

Даніла *(цалуючы ў руку)*. Спасібог! *(П'юць.)*

3-ці ст. баярын. Калі ж, ваявода, скажаце дабычу дзяліць?

Ваявода. Заўтра падзелім, а сягоння супачыць трэба.

3-ці ст. баярын. Хай будзе і заўтра.

Ваявода. Ну, але я думаю, вораг памятуе нас. Яшчэ наўз рубеж пройдзем, край ад грабежцаў ачысцім, а там — і па дамах.

2-гі ст. баярын. Памятуе, памятуе, як не памятаваць! Мала хто з іх жывот упёс.

1-шы ст. баярын. Што далі есмо ім на памяць, то далі! Гэта — праўда!

Ваявода. Ты, Даніла, даўно жанаты?

Даніла. Другі год, ваявода.

Ваявода. А прыплод маеш?

Даніла. Пакуль што не.

Ваявода. Як, і прыметы няма?

Даніла. Не было.

Ваявода. А ты, Багдане, шмат дзяцей маеш?

Багдан. Троечку.

Ваявода. О, то зух, а пябось, не старшы за Данілу.

Багдан. Крыху старшы — на годы паўтары.

1-шы баярын. Бо Даніла сваю маладзіцу шануе вельмі. *(Смяецца.)*

3-ці ст. баярын. А ты як сваю шануеш? *(Смех.)*

1-шы баярын. У мяне быў сын, ды бог не гадаваў.

2-гі баярын. А ты хочаш, каб бог табе дзеці гадаваў? А сам?

1-шы баярын. Добра, што прыдбаю. *(Смех.)*

3-ці ст. баярын. А болей няма?

1-шы баярын. Няма, хіба без мяне знойдзецца. *(Грае і спявае):*

Ой, у полі былiначку
　　Вецер пахінае,
У святліцы галубачка
　　Галубка чакае.
Адзін гадочак праходзіць,
　　Настаў і другі —
Маладая галубачка
　　Забылась тугі.
Маладзец дамоў прыехаў,
　　Галубачку застаў
З чужым галубком у пары,
　　І праўду ён пазнаў.

Ваявода. А даўно жанаты?

1-шы баярын. Гадоў пяць, а можа, і болей,— ужо не ўпомню.

2-гі баярын. Вось каб бачылі, як ён сягоння з адным кацапам абнімаўся!

3-ці ст. баярын. Мабыць, згарача яму здалося, што то маладзіца. *(Смех.)*

1-шы баярын. Добра, маладзіца, калі косці баляць, што і не павярнуцца. Вот ён — то на кацапа богу маліўся: думаў, святы.

2-гі баярын. І ты б маліўся, каб табе так прыйшлося.

3-ці баярын. Во, зараз пасварацца.

Старш. баяр. Завошта?

3-ці баярын. Яны заўсёды так.

1-шы баярын. Прыйшлося — а чаму такі спраўны.

2-гі баярын. Добра, што ты спраўны.

5-ты баярын. Даніла, Даніла! Чы ты аглух?

Даніла. Га? Чаму?

5-ты баярын. Чаму? Ці ты не чуеш, як клічу?

Даніла. А што?

5-ты баярын. Твой чалавек цябе чагось выглядае.

Даніла. А, Радзька. *(Ідзе да яго.)*

Ваявода. Ну, трэба ў табар іці. *(Усе разыходзяцца.)* Заўтра дзяльба будзе.

Даніла. Ну, што скажаш, дружа?

Радзька. Ганец з дому, саколю.

Даніла. Давай яго сюды шпыдчэй.

Радзька. Зараз, саколю! *(Ідзе і скора з чалавекам вяртаецца.)*

Ганец. Чалом вашай міласці!

Даніла. Здароў! Што з дому добрага нясеш?

Ганец. Усё па-старому. Вось карту прыслала старшая баярыня.

Даніла. Давай сюды! *(Не церпячы.)* Вось захаваў і сам не дастане!

Ганец. А як жа — каб не пераняў часам хто.

Даніла. А маладая як маецца?

Ганец. Старшая баярыня казала сказаць, што здарова і вясёла.

Даніла. А сам ты яе не бачыў? Да жывей жа!

Ганец. Бачыў, але так што... нічога не казала.

Даніла. Ды ведаеш, як выглядзіць?

Ганец. Красная.

Даніла. Я і сам ведаю, што красная, а ты кажы, чы здарова, чы не тужыць?

Ганец. Бог яе ведае. Старшая казала адно сказаці, што здарова і вясёла. Больш нічога не казала.

Радзька. Што з гэтым дурнем гаварыць! Казала, не казала...

Ганец. Вось яна, карта. Маеце!

Даніла. Нарэшце. *(Чытае, бляднеючы; прысланяецца к дрэву, трэ рукою лоб, а далей кажа.)* Можаце адысціся, а я паклічу, як трэба будзе. *(Тыя адыходзяцца, а ён чытае сабе ўголас.)* «Дарагі мой сыну! Хоч ведаю, што ліст мой будзе табе не па душы, але мушу табе павясціць загадзе, каб ты меў час прывыкнуць крыху да таго, што ў нас творыцца. Пішу я гэта не затым, каб пажаліцца, бо ведаю, што ты яе болей любіш, як мяне, а баючыся, што ты, вярнуўшыся дадому, будзеш вельмі паражан, бо твая зязюля зусім ад рук адбілася. Не слухае парады; што ні скажу — усё ёй не так.

Усё гуляла б ды гуляла. І коні пазаездзжывала, і шаты пазаношывала, і мёды парасчастоўвала, усё гасцей прымаючы, каханых частуючы. А калі я тваё імя назаву, то яна і слухаць не хоча. «Адстань, адкасніся ты, кажа, з сваім Данілам: ужо агорк ён мне». Пішу я гэтыя словы і сама плачу. Жаль мне тваё моладасці...» *(Кінуў ліст і, узяўшыся за галаву, уздыхае; потым, зацяўшы зубы, гаворыць.)* Вот табе і шчасце, вот табе і вера! І як тут верыць каму, после гэтага?! Э-э! Такая, здаецца, добрая, чыстая,— адным словам, святая. А бачыш як — горш змяі падкалоднае. Гэтак прыкідацца! Э-э-э! Прапаў я, і ўсё прапала!.. Радзька, га Радзька! Радзька, гу!

Радзька *(прыбегшы)*. Чаго, саколю!

Даніла. Пакінь ты сваё саколю! Мёду давай чым болей, а ганца таго дурня задзяржы! Чуеш!

Радзька. Чую, сак... *(Выходзіць.)*

Даніла, заламаўшы рукі за галаву, адкідваецца на траву і ляжыць, сцяўшы зубы.

Радзька. Баярыне мой, саколю, скажэце, што з вамі. Можа, стары Радзька на што прыдасца.

Даніла *(усхапіўшыся)*. Маўчы. Давай мёд! *(П'е нахілком.)*

*Завеса.*

## Дзея трэцяя

Двор Данілаў у глыбі сцэны, дом па адну старану, у акне сядзіць задуманная Даніліха. Пачуўшы топат, яна азірнулася ўправа, крыкнуўшы з радасці, і выбягае насустрач. Вароты адчыняюцца, і на двор уваходзіць Даніла, а за ім Радзька.

Ульяна. О, божа ж мой! Данілка! *(Выбягае і бяжыць к Данілу. З правай стараны выглянула галава з чорнаю шырокаю барадой і схавалася.)*

Даніла *(выхватывае шаблю)*. Стой, гадзіна!

Ульяна *(падае перад ім на калені)*. Што?! Што з табою, саколіку?! *(Убачыўшы, што той замахіваецца на яе шабляю.)* За што?

Даніла. Вось за што! *(Секануў па галаве.)*

Ульяна *(падаючы)*. За што, саколю?! *(Падскакваюць Радзька і стары з-за вугла, з ізбы выбягаюць дзве дзяўчыны і давай галасіць. Даніла стаіць, апершыся на крывавую шаблю, звесіўшы голаў.)*

Радзька *(захадзіўшыся)*. Падаць сюды намітку чы бок, ручніка і вады! *(Дзеўкі прыносяць, галосячы.)*

Стары *(збегаў, узяў мякішу хлеба і вяртаецца, размінаючы яго і гаворачы як бы да сябе)*. Напрасна, баярын, ты сваю душу загубіў. Нізашто, сам пабачыш...

Даніла. Маўчы, бо і табе!.. Нясеце яе ў святліцу!

Стары. У святліцу нельга.

Даніла. Што? Ты зноў?!

Стары. Там старшая з малым...

Даніла. З якім малым? Што ты, ашалеў? А гэты барадаты — хто?

С т а р ы. З сваім малым, што нядаўна мела, а той барадаты прыйшоў сына пабачыць.

Д а н і л а. Брэшаш, стары пёс!

С т а р ы. Сам пабачыш! *(Абмываюць з Радзькам рану і заляпляюць яе хлебам. Даніла, пастаяўшы, пайшоў па двары, скора заглянуў ува ўсе вароты, а тым часам сабралася каля Ульяны шмат народу. З ізбы выскачыў чалавек з чорнаю барадой і шмыгнуў за вароты. Даніла, заглянуўшы ў хату, падбягае к Ульяне і, цалуючы яе рукі і твар, са слёзамі просіць.)*

Д а н і л а. Ульяна, сонца маё, ачніся! Глянь на мяне! Даруй мне, шалёнаму! О, божа! Госпадзі! Я з вума сыду! Ульянка! Сонейка, даруй мне! Паглянь на мяне — праклятага! Ачуняй, сэрца! Божа, памажы! Божа, божа!

У л ь я н а. Да-ані-ла...

Д а н і л а. Ачуняй, Ульянка! Што хочаш са мной рабі! Вон гані! Забіць кажы! Адно ачуняй! Даруй!..

У л ь я н а. Бог табе, Данілка, даруе. Прашчай, голубе,— дай пацалуемся!

Д а н і л а *(прыпадаючы к ёй)*. Ой! *(Ульяна памірае ў яго на руках. Даніла глядзіць на яе акамянеўшы, а после, схамянуўшыся, кажа.)* Прывядзіце матку! *(Матку прыводзяць злякану з малым на руках.)*

Д а н і л а. Вось любуйся, маці родная! Цешся з свае работы! Тры грахі перад сабой маеш: адзін грэх — жыццё маладое нявінна загубіла; другі грэх — маё жыццё змарнавала; а трэці грэх — самы большы — бо душу маю загубіла і збойцам я стаў твору святога. А цяпер, Радзька, ты мне адзін

застаўся. Ідзем чым далей ад гэтага гнязда праклятага. Ульяну забяром ды пахаваем, каб не здзекаваліся паганыя з святога...

*(Чуваць прычытанні.)*

*Завеса.*

## 1. Г. К. ПРАКАПОВІЧ [1]

Люба Ганусю!

Быў я ўчора ў Навасад [2], але толькі праз ашуканства, а гэта так было: сказалі мне, што Ты маеш быці тамака, ну, я верыў і не верыў, аж убачыў, што паехалі з вакзала толькі дзве панны, і цябе між імі, хоч здалёку, я не прызнаў. Так нацягаўшыся цэлы дзень, я прылёг, аж прыязджае наш Ясь [3], каторы ездзіў у Прылукі [4], так я яго пытаю, каго ён спатыкаў туды едучы, а ён кажа, што панну Ганну. Я-то, скарэй апрануўшыся, у Навасады паджгаў, ажно няма там маёй Ганулі. Такая маркота мяне ўзяла, што цэлую ноч адзін па кутох туляўся, а дадому не мог пайсці: адно — што шапку недзе закінулі, а другое — не распрашчаўшысь, якась не хацелась, хоч даўней, то заўсюды так рабіў...

У нас ад 25 лютага настаяшча вёсна: вароны ў лесе крачуць, жайваронкі спяваюць, вады ўсюды бяжыць, і дарогі ўжо няма. Мусіць быць, мы з Табою ўжо да вялікага чацвярга не пабачымся. А можа, калі напішаш загадзя і не зараз выедзеш, то, можа, і ўхоплю даскочыць да Менска.

Так едзь жа, мая Галубка, з Богам! Будзь здарова і вясёла!

Хутка пабачыцца! Павек твой Карусь.

*Аўторак, 2 беразня [5] месяца, 1899 лета.*
*Прымагілле [6]*

## 2. Г. К. ПРАКАПОВІЧ

Люба Ганусю!

Ты, галубка, пэўна, на мяне гневаешся? Але бо я, па праўдзе сказаўшы, трохі і вінават, што не здагадаўся раней к табе напісаці, а то ліст мой ужо цябе ў Менску, мусіць быць, не застаў, а калі і палучыла, то перад самым ад'ездам, бо Дося[1] піша, што ты мелася выязджаці ў пятніцу, а ліст паехаў з жыдам у сераду да Койданава, з Койданава па пошце ў чацвер рана, а там пакуль да цябе дабраўся, то і пятніца прыйшла. Вінават-то я вінават, што позна ліст паслаў або што сам не прыехаў, але і не так вельмі дужа, як, можа, думаеш, бо я гэтыя часы дужа занят... У чацвер быў у Койданаве, выслухаў імшу і думаў знайду ад цябе які лісток, але мусіў без нічога дамоў вяртаціся; у нядзелю, т. е. сягоння, зноў пасылаў, але і зноў няма нічога, хоч быў пэвен, што будзе ад цябе яка вестачка, бо як толькі ўстаў, так на душы зрабілася якась добра, радасна, здаецца, каб прымеў і цалаваў бы цябе, і на руках насіў бы...

Пішы, Гануська, будзь ласкава, бо мне дужа цяжка, тым болей што не папрашчаўся з табою.

Сягоння я палучыў два лісты: адзін ад Досі, у каторым піша, што ты маеш выехаць у пятніцу, і ад Стася[2] з Масквы, а ад Брозі[3] як няма, так няма. Што там у Добасні[4] чуваць? Маці ці здарова і што цяпер парабляе? Ты там, мабыць, слабаднейша, як у Менску, то е болей часу маеш?

У чацвер я палучыў білецік ад маткі, за каторы дужа, дужа дзякую і прашу яе выбачыць, што не пішу і ёй...

Бывай, галубка, здарова і пішы да мяне!

*Твой Карусь.*

*1899*
*7 беразня месяца*
*ў Прымагіллі*

## 3. Г. К. ПРАКАПОВІЧ

*Прымагілле,*
*пятніца, 12 беразня*
*1899*

Люба Ганусю!

Учора ўвечары палучыў я твой лісток.

Дзеці, дзякаваць богу, здаровы гуляюць, у Навасад ад запусак я не быў і не ведаю, што там чуваць; да Менска-то мне трэба з'ездзіць, але як няма там маёй Галубкі, так якась няма ахвоты, і ўсё адкладываю, но хутка маю быці; Каштана і сівую кабылу я прадаў, кабылу-то яшчэ як-небудзь, а што Каштана, то з утратай, затым што да чужых людзей кідаўся; я купіў сабе адну гнедую, ростам яна не малая, гадамі маладая — чатырох лет, бяжыць добра, цягне добра, сабою складна, толькі што худая. Мы цяпер бярэзнік пілуем на майстэрку; нашы хлопцы, мусіць быць, скора на Каўказ паедуць; дому сяголета, мабыць, не буду ставіць, бо хлопцам на дарогу многа грошай трэба будзе прыстарацца, так што нам прыйдзецца ў Лісіх Нор [1] зіму празімаваці, а там зімою холадна, але нічагутка, пастараюсь зрабіці, каб было цёпла. Вот бяда, што праз той кашаль работы шмат зацягнулася і дрэва ў лесе засталося, а тут цяпер і няма на чом вывезці, бо коні ўсё маладыя, не ўцягнуты, а катора сталейша, то та скора ажара-

біцца мае, то хіба трэба будзе Сокала, або Гнедую, або абоіх, бо Чорнай не можна, бо гэта твая, хоч за яе можна было б добрыя грошы ўзяці, прадаці, а сабе якіх старычкоў цягавітых купіці, бо ў нашым лесе то трэба і коней і людзей умелых.

Я, дзякаваць богу, дагэтуль усё здароў, але Ты, мая Галубка, знаць, сама не шануешся, хоч пра другіх непакоішся...

Но! Але трэба пайсці коней паглядзеці і спаць класціся.

Бывай, зязюлю, здарова!

[P. S.] У нас тутака после вясны зноў мароз зачаўся, і снег трохі падаў, але сягоння ізноў на весну пахожа, бо і мароз невялікі, і вецер уняўся, і сонца, хоч праз туман, пазірала.

Будзь здарова і вясёла!

## 4. Г. К. ПРАКАПОВІЧ

Дзівішся, Ганусю люба, што так доўга ліст мой ішоў, але тут няма нічога дзіўнага, вось зараз растлумачу: ліст быў напісан 7-га ці 8-га, добра не помню; 9-га Міхась [1] ехаў да Менска, так я яму ліст даў; 10-га, як пішаш, быў ужо на пошце, а 13-га палучыла. Та і твой, галубка, штось не хутчэй ходзіць: бо напісан 13-га, выслан, як пішаш, 14-га, знайшоўся ў паштовым вагоне 16-га, у Койданаве — 17-га, а палучыў 19-га позна ўвечары. Ну? Але годзе таго. Вот мне тваіх вочак шкода. Ці то канешне табе цяпер шыці? [2] Бог даў, пашылася б.

Матцы дужа, дужа дзякую, што да мяне так ласкава. І скажы мне, Ганусю! Ці я гэта, як ка-

жаш, заслугоўваю? Што я такога добрага зрабіў? Бо як мне здаецца, то я саўсем не варты чалавек.

Эх! Хацелася б мне вас пабачыць, як ты з маткаю вечарамі гутарыце. Ну, але хутка пабачымся. Дзякаваць богу, што маці здарова і што ты папраўляешся. Шануйся, галубка! Да Менска штось не магу выбрацца, а 25-га то трэба канешна, бо так цямлю, што Амброжай павінен прыехаць на той час, але ўсё то тое, то другое на перашкодзе становіцца, цяпер вот кабыла, Каштанка, мае жарабіцца тымі днямі, то... некаму будзе паруліцца ўстаці ўночы паглядзець яе. Гнедая, няўрокам гаворачы, як бы ўжо крыху папраўілася, можа, што і зараблю на ёй, калі прадам.

Але Ганузя хітрэнька! Быццам пра Амброжая нічога не ведае, а аказываецца, што штось ведаеш.

Будзь, Ганусю, здарова і вясёла і матчыны ручкі выцалуй.

*Твой Карусь.*

*Лета 1899-га*
*беразня 20-га дня*
*ў Прымагіллі*

[P. S.] Заўчора, т. е. у аўторак вечарам, я прыехаў да Менска, але не пасылаў ліста, бо хацеў Амброжая перш дачакацца, каторы прыехаў учора. Дужа, дужа табе дзякую за падарачак. Амброжай табе кланяецца. Казаў ён, што хацеў бы сам к табе напісаці, але не ведае што. Ат! Не магу штось пісаці, усё мылюся.

Бывай, галубка, здарова! *Твой Карусь.*

*25*
*1899 лета ў Мінску*

## 5. ЕГО СИЯТЕЛЬСТВУ КН. СВЯТОПОЛК-МИРСКОМУ [1], МИНИСТРУ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ

### Прошение

Осмеливаюсь считать Ваше Сиятельство белорусом яко потомка наших князей, я, бедный белорус, потомок древних белорусских бояр княжества Мстиславского, уповаю, что у Вашего Сиятельства в душе хранится искра симпатии к Белоруссии, и потому прибегаю с покорнейшей просьбой к Вашему Сиятельству оказать нам величайшую милость, исходатайствовав право издавать литературно-хозяйственную газету на белорусском языке под названием «Полесье». Однакож литвины, поляки, евреи имеют свои книги и газеты, а чем же белорусы хуже их?

Еще раз бью челом и молю не отказать моей покорнейшей просьбе [2].

*Покорный проситель Казимир Костровицкий.*

*Ноября 28 дня 1904 года.*

## 6. ЛІСТ У ГАЛОЎНАЕ ЎПРАЎЛЕННЕ ПА СПРАВАХ ДРУКУ

...Так как предполагаемый редактор белорусской газеты «Полесье» капитан Дорофей Дорофеевич Бохан [1] был командирован на Дальний Восток, то я, до сих пор не имея никаких сведений о результате посланного нами этой весной прошения в отделение по делам печати о разрешении издавать газету «Полесье», имею честь заявить, что

сказанная газета будет издаваться в городе Минске [2] по подыскании знающего свое дело редактора, а также покорнейше прошу выслать мне мой документ, посланный при прошении [3].

Выслать прошу на имя врача 4 участка Полоцк-Седлецкой ж. д. на станцию Лида [4].

*Казимир Костровицкий*

*Ноября, дня, 1905.*

## 7. У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «НАША НІВА»

Паздраўляю «Нашу ніву» з пачаткам другога року побыту свайго на свеце [1] і ад шчырага сэрца зычу, каб яна расцвіла поўным красным цветам і прынесла плод нашаму беднаму беларусу. Пасылаю я ў паважаную рэдакцыю «Нашай нівы» адну стаццю, катору «Окраина» [2] пабаялася надрукаваць, як крамольную, і прашу яе надрукаваць [3], і адно пазвольце мне палажыць адзін варунак, а менавіце: стацці, каторыя буду пісаць, друкуйце так, як яны напісаны, не змяніваючы правапісьма. Я, бачыце, хачу, штобы вашу газету ўсе беларусы маглі чытаць і штобы мелі з яе карысць, а не адна Барысаўшчына і Вілейшчына...

*1907*

## 8. Я. К. КАСТРАВІЦКАМУ

Дарагі сынку!

Я... жыву цяпер на Якаўлеўскай вул. д. № 10, кв. 8. Так ты, сынок, скажы ўсім мой адрас. Я скора прыеду да Мінска.

Будзь, сынок, здаровенькі, добры, шануйся і вучыся добра.

*К. Кастравіцкі.*

*19 $\frac{16}{III}$ 10*

## 9. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

*16 ліпеня 1910*
*Мінск*
*адрес: прис, повер. Шабуня* [1]
*Преображенская, дом Русецкой*

Дарагая Ганулька!

Дагэтуль яшчэ не дабіўся, каб мяне пасадзілі [2], але ўжо ў панядзелак абяшчалі пасадзіць (т. е. 19 ліпеня). Ці то ты не палучыла ад мяне ліста, што нічога дагэтуль не пішаш? Мірак [3] ці здароў? Бо я штось яго сніў. Пішы аба ўсіх! Шкода, што я пасяшаўся выехаць ад вас, але ўсе кажуць, што я іначай не мог пастуніць, бо магло давесціся пехатою да Пухавіч з Беразыні [4] вандраваць.

Будзьце здаровы, даражэнькія!

*К. Кастравіцкі.*

## 10. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Дарагая Ганулечка!

У нядзелю 1 серпеня палучыў тваю я вестачку, але толькі дзякуючы сякой-такой пратэкцыі і ласкавасці турэмнага начальства [1] мне далі яго прачытаці з тым, штобы я пры іх парваў яго; а то затым, што ліст пісан па-польску. Вото ж ты пішы да мяне па-беларуску рускімі літарамі і адра-

суй у турму. Ты мне не напісала, чы выслала Шабуню Янкава свідзецельства аб прышчэпцы воспы. Чаму ты падаеш духам і пішаш так нявесела, ты бы павінна і мне бодрасць паддаці, а не адбіраці той, якая ё. Я ж бо маю надзею, што вярнуся да вас здароў і што зажывема лепей, як дагэтуль жылі. Калі і Янка не паступіць у гімназію, то і тады не бядуй, бо бог дасць не той, то іншы спосаб, а жыць усё-такі будзем, аж да пары, нам назначанай богам. Сеў у турму 26 ліпня.

Будзь здаровенька!

[P. S.] А вы: Янка, Мірон, Галечка і Міленка [2], будзьце здаровенькія, рахманенькія, слухмяныя, разважайце матку і памагайце ёй, як можаце, а я буду вас кахаці і мілаваці, дзетачкі мае. Пішыце да мяне, але рускімі літарамі. Я цяпер вамі толькі і пацяшаю сябе.

Тутака ў нас дужа многа галубоў, каторыя садзяцца на акне і каторых кормяць хлебнымі скарынкамі размочанымі. Кашавар наш цяперашні Іван Сарока, каторы кланяецца вам і маме. Міхась [3] тако ж тут і адзін паэт, што пісаў у «Нашу ніву» і завецца Якуб [4], тутака.

Я цяпер пайшоў у турму з лёгкаю душою, не так, як тады ў 5-м року [5].

Чакайце мяне, дзетачкі, здаровенькі з мамаю разам! Бывайце здаровы!

*Ваш Казімір Кастравіцкі.*

Адрес: Минск. губ. Крепостному [6] Казимиру Карловичу Костровицкому в тюрьме.

*1910*

## 11. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Дарагая Ганулечка!

Сягоння, то е 21 серпеня, я палучыў твой ліст, хоч у турме ён быў ужо тыдзень таму, бо з турмы пасылаюць к жандарскаму для перагляду і тады толькі палучаем. У аўторак быў у мяне на свіданні Янка. Бедны, як прыпаў да мяне, так і заплакаў. Ты нападаеш вельмі на людзей, а яно так не след, бо няма ліха без дабра, і вот пабачым, што будзем жыць, і, можа, лепей, як жылі дагэтуль; адно ты дзяржыся і шануйся, штобы была здарова, бо здароўе — то грунт. Чаму дзеці нічога не напісалі і ты аб іх нічога не пішаш?

Янка мае паступіць у гарадское вучылішча. Па арыхметыцы ён зрэзаўся, але маюць даць яму пераэкзаменоўку. Ты пішаш, што не ўмееш пісаці рускімі літарамі, а такі ж напісала, а калі можаш напісаць трохі, то як пастараешся, так напішаш болей і лепей. Я тутака патроху малюю, можа, што зараблю на будушча [1].

Я пакуль што, дзякаваць богу, здароў дзяржуся, дасыта пад'ядаю і высыпаюся колькі хачу. Рана ем цуру з цыбуляю і маслам; на абед страву з мясам, а ў суботу кашу бульбяну з салам, на вячэру ж бо п'ю чай з хлебам, з маслам. Хацелася б мне глянуць на дзетак, што яны там робяць.

Брозева [2] казала, што Галюшку хочуць узяць на выхаванне якоесь панства. Няўжо ж бы ты аддала яе?

Бывайце здаровенькі і не журыцеся.

*К. Кастравіцкі.*

Ад Сарокі і Міхася паклон.

*Субота, 21 серпеня 1910 Мінск — турма*

## 12. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Дарагая Ганулька!

Сягоння, т. е. у нядзелю, 5 верасня, я палучыў тваё пісьмо і стараюся напісаці табе што ведаю, адно мала ведаю. Янка да мяне не прыходзіў болей, хоч я прасіў Стася, штоб прыслаў яго, а болей ні з кім не бачуся цяпер. Мелася Дося прыехаць да мяне, ды штось няма яе. Сарока заўтра выходзіць на слабоду. Кепска, што ты пусціла Янку ад сябе, бо гатоў хлопец змарнавацца, як я змарнаваўся,— ведама, чужых баб апека. Ты спішыся з Каралінаю[1], можа, яна паможа табе ў Мінску прыстроіцца як. Але гэта толькі тады, калі Янка паступіць дзе, а як не, то забяры яго к сабе і чакайце маёй слабоды, а бог паможа, і неяк будзе...

Міркаў параход, Галіны і Мілены фрукты[2] я палучыў і дужа, дужа ім дзякую.

Будзьце здаровенькі!

*Ваш Казімір.*

*5 верасня 1910*
*Мінск*

## 13. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

*23 верасня 1910*
*Мінск*

1. Мірко мой даражэнькі, сыночак ты мой любенькі!

Хочацца мне пабачыць цябе, Галюшку і Міленьку, ды нельга. Сяджу я за сценамі, за мурамі, за жалезнымі варотамі і кратамі, і сядзеці мне яшчэ доўга — месяцаў дзесяць з лішкаю. Напішы

ты, Мірочак, што парабляюць мама, Галюшка і Міленька. Скажы, Мірок, маме, што ў ліпцы п. Караліна жыла на Падгорнай вуліцы, супрацiў Гасударственнага банка, у доме Ельскай, а цяпер не ведаю дзе. Я думаў, што п. Караліна да мамы пісала, бо я пакінуў ёй мамін адрас. Напішы ты, сынку, да мяне па-беларуску.

Будзь здаровенькі і маме памагай!

2. Галюшачка мая і Міленачка, і вы пішыце да мяне, як умееце! Я чуў, што Галюшка ўжо вучыцца. Янка да мяне на свіданне не прыходзіць, ці яго з кватэры не пусчаюць, ці якая другая прычына, таго я не ведаю, адно ведаю, што ён здароў і жыве ў якогась столяра, ці што. Паложым, у нядзелю ён прыходзіў з Стасевай пад вароты турмы, але на свіданне было яшчэ рана і надзірацелі іх не пусцілі, то Стасева загневалася, схапіла Янку за руку і павяла дадому.

Бывайце здаровенькі, дачушкі!

3. Пытаеш, Ганулька, што малюю,— малюю я галоўкі беларусаў і сцэнкі з камернага жыцця...[1]

Кепска, што я не наняў вам (кватэры) памяшкання дзе ў павятовым горадзе, то я бы мог там адбываць кару і мог бы часта вас аглядаць. А можа, Ян мог наняць кватэру ў Бабруйску ці ў Рэчыцы і каб туды пераехаць, а я пастараўся б, каб мяне туды перавялі. Толькі трэба добра абдумаць, ці варта. Напішы ты аб сваіх фінансах. Калі трэба, то я магу табе рублёў з дзесятак выслаць.

Будзь здаровенька! Чаму ты не напішаш, дзе Ясь жыве? Чаму аб здароўі нічога не пішаш?

*Ваш К. Кастравіцкі.*

Твой ліст я палучыў учора ўвечары.

## 14. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Дзякую вам, дзетачкі, за лісты, каторых я чакаў цэлы месяц, ды затое, як палучыў, то дужа рад быў. Пішыце, дзетачкі, усякі раз. Будзьце здаровенькі і маму шануйце.

Пытаеш, Ганулька, чаму я пытаў, ці не ездзіла дзе ты,— бачыш, я ў гэтых часах сніў... Прашу цябе, Ганулечка, не дручы ты сябе паганымі думкамі, а май надзею, што калісь будзе лепей. А такі шкода, што не ўзяў я з дому шапкі і чобатаў зімовых. Сподняя адзежа такаж дзярэцца,— адно дзве кашулі яшчэ цэлы і двое портак.

Панна Ст.[1] яшчэ на свіданне да мяне не прыходзіла, хоч мае як бы прыйсці. Янка також не прыходзіць, а чаму,— не ведаю,— хоч, кажуць, здароў.

Цяпер маё жыццё пагоршала, бо ў камеры цесна, пыльна, вокны зачынены, прагулка толькі адна, дзень кароткі... Твой ліст палучыў усяго заўчора, 25 кастрычніка. Ужо чацвёртую часць я адсядзеў, а пакуль скончу 43 гады, то палавіну адбуду.

Прашу цябе, шануй сваё здароўе, бо яно не толькі тваё, а і наша. Старайся болей есці і не журыцца... Трэба есці колькі трэба, а там бог дасць... Многім і горай бывае, як паглядзіш.

Бывайце ўсе здаровенькі!

*Ваш Казімір.*

*1910 г., кастрычніка 27 дня*
*Мінская турма*

## 15. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Ганулечка любенькая!

Сягоння дзень тваіх нарадзін і нашых заручын, так няхай нам дасць лепшае жыццё, штоб мы маглі зажыць, хоч не ў багацтве, але... у злагадзе, а також у спакоі аб будучым. А да гэтага ўсяго галоўней патрэбна здароўе цела і душы, а тады будзе нутраны спакой і добрая надзея, без чаго чалавек заўсёды няшчасны будзе.

Маю надзею ў скорасці палучыць ад цябе ліст. Здароўем сяк-так крэплюся; трохі нават пасыцеў.

Такі я шкадую, што ты Янку аддала да Мінска, бо, як бачыцца, то лепей было б яму скончыць у Беразыні народнае вучылішча, а потым паступіць дзе ў Марыну Горку або дзе ў падобнае таму вучылішча, а то можа выйсці тое, што са мною выйшла...[1]

*Твой К.*

А вы, Мірочак, Галюшка і Мілешка, што парабляеце? Ці здаровенькі вы, ці слухмяны перад мамай? Ці мяне памятуеце і любіце?

Будзьце здаровенькі вы, дзетанькі мае любенькія, будзьце добранькія і шчаслівыя! Кахайце ўсіх, не толькі сваіх братоў, сёстраў і бацькоў, але ўсіх — увесь свет; а тады вам будзе лягчэй і бяду якую перанесці. Напішыце вы, дзетачкі, да Янкі, можа, і яму гэта прыятна, як мне.

Ты, Мірочак, глядзі, каб мама не забывала есці, каб шанавалася, і старайся ёй памагаць, як можаш.

*Ваш бацька Казімір.*

*7 лістапада 1910*

## 16. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Сягоння, Ганулечка, палучыў я твой ліст з рысункамі малышоў і ім за гэта дужа дзякую.

Мілешка — маладзец, ужо яблыкі і жолуды рысуе.

Ты пішаш, штоб я папрасіў Маню [1] абшыць кашулі, а ты не ведаеш, як мне лёгка папрасіць каго; ужо месяц канчаецца, як ніхто на свіданне не прыходзіў, і што прасіў купіць мне сетчатую кашулю, то і дагэтуль не купілі. Маня была ў мяне адно раз на свіданні, Янак два разы і то не сам, а як яго прывялі, адно Стась прыходзіў, ды і той, відаць, выехаў куды, ці што.

Што ся тычыць адзежы, то сам латаю, як умею.

Паняці псіхалагічна Янку я якась не магу,— прыходзячы абодва разы, заплакаў, так, можа, ён таго саромяецца і не ідзе затым. Старайся, галубка, захаваць сваё здароўе, бо яно вельмі дарагое; а тады і мыслі весялейшы будуць і надзея заяснее. Ты скажаш, не трэба сябе надзеяю маніць, а я скажу — без надзеі і жыццё — не жыццё.

Мае чобаты і Янкаў сяннік засталіся на Залатой Горцы [2], а як іх сыскаць, то і сам не ведаю; думаў, што Дося прыедзе, так думаў праз яе, бо і яна мне аб іх пісала.

Ну, будзь ты здаровенька з усімі дзеткамі!

А, дзетачкі-малышочкі, будзьце здаровенькі і пішыце да мяне. Ты, Мірочак, напішы, што дзевачкі робяць. Папрасі також у мамы няхай ножык табе купіць, хоч бы такі, як у мяне быў. Толькі будзь асцярожан і не кідай яго нідзе, а заўсёды на месцы хавай, ён каштуе 35 кап.

А ты, Галюшка, вучыся вышываць, каб, як я прыеду, мне кашулю магла вышыць.

Хутка пабачыцца!

А, Мілесік, Мілесік! Пацалаваў бы цябе, ды не дастану.

Будзьце здаровенькі!

*Ваш тата К. Кастравіцкі.*

*20 лістапада 1910.*
*Мінск — турма*

## 17. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

*17 снежня 1910 г.*

Дзякую табе, Ганулечка, за пасылку, катора мяне дужа ўцешыла, бо я ўжо стаў журыцца, не палучаючы ад цябе ніякае вестачкі. Цяпер мне адзежы хваціць на ўсю зіму. Маляваць я маляваў усё найболей беларускія тыпы, ажно два малюнкі з турэмнага жыцця, а то нарысаваў 12 рысуначкаў Якубу Коласу да яго твораў [1].

А вам, Мірочак, Галюшка і Мілешка, дужа дзякую за пісьмы вашы. Няскора, дзетачкі, я да вас яшчэ прыеду — яшчэ зіма няхай пройдзе, і вясна, і два месяцы лета, тады толькі я буду на слабодзе...

Я здароў, адно без вас тужу. Будзьце здаровенькі, дзетачкі!

*Ваш тата.*

[P. S.] Іначай перасылаць лісты, як дагэтуль, мне не выпадае, а што доўга ідуць праз рукі жандармаў, то што зробіш, трэба пацярпець. Ды напраўду сказаць і няма аб чым пісаці, мы тут так адгароджаны ад свету, што нічога не ведаем, што за сценамі робіцца, а нелегальных дарог шукаці

не хочама, бо ўсё-такі хто-небудзь да можа пацярпець.

Калі табе цікава, то апішу ўвесь свой дзень, як я яго праводжу: прачынаюся рана ў 6, $6^1/_2$ гадзіны і, паляжаўшы крыху, пакуль празвоняць у касцёле новым [2], у каторым ужо служаць, устаю, крышу застаўшыяся ад учора скарынкі галубам, каторыя чуць свет прылятаюць на акно. Міхась перш за мяне ўстае і вяжа сець, а калі яму няма работы, то ён хлеб крышыць. Потым, як адчыняць камеру, іду апраўляцца, мыюся і снедаю; потым паверка, па паверцы што-небудзь раблю, ці малюю, ці рысую, ці чытаю што або пішу, потым прагулка парамі вакол двара, па прагулцы абед, па абедзе паваляюся. Калі дзень светлы, то, паваляўшыся, зноў што паработаю, а як цьмяны, то так да вечара праваляюся, прашатаюся па камеры. Вечарам ізноў паверка, па паверцы вечарам і Міхась ідзе спаць, а ўскорасці за ім і я, а другія чытаюць і ў шахы іграюць да позняе ночы. Я цяпер на снеданне і на вячэру з'ядаю па паўкварты малака!

Будзь здаровенька! *Ваш К. Каставіцкі.*

Сягоння, т. е. 18 сяго месяца, быў на свіданні Янка.

Паздраўляю вас з Колядамі, бо пакуль палучыце гэты ліст, то і Коляды пройдуць.

### 18. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Твой ліст, Ганулечка, я палучыў 2 сего студзеня, ды не пісаў дагэтуль затым, штоб магчы аб Янку што напісаці; тым часам, не прыждаўшы ка-

нечнае весці, пішу толькі, што чуў ад Стасевай, а менавіта: у гарадское вуч. ён не паступіў, але як бы меўся яшчэ пробаваць паступіць у гімназію Фальковіча [1], а ці паступіў, таго не ведаю.

Пытаеш пра адзежу, ці хваціць, то тако ж не магу нічога сказаць, яшчэ паўроку сядзець, можа хваціць. Адно нагавіцы суконныя скора парвуцца, бо ўжо тонкія сталі.

Кажуць, што худа выглядзіш, а ты павінна папраўіцца, штоб сілу меці.

Як толькі што дапытаю пра Янку, то напішу.

Каб ты магла мне пашыць якія нагавіцы палатняныя на лета, то добра было б.

Вы, дзетачкі малыя, просіце, штоб вам нарысаваць што, але я нічога яшчэ не нарысаваў, хіба як сам прыеду, то прывязу вам рысункаў. Будзьце вы, дзетачкі, з мамаю здаровенькі і чакайце мяне. Яшчэ сядзець столькі, колькі прасядзеў. Прыеду, значыць, у паўлета, як стануць жыта жаці.

А тым часам будзьце рахманенькі і слухмяныя і не лянуйцеся *.

Будзьце здаровенькі ўсе!

*Ваш Казімір.*

*15 студзеня 1911*
*Мінск*

## 19. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Пакараў я цябе, Ганулечка, на чатырнаццаць капеек тым, што забыўся наклеіць марку на ліст, пісаны мною ў прошлую суботу, 15 студзеня; а затым пасылаю табе дзве маркі.

---

* Сем радкоў далей выразана цэнзурай.

У нядзелю, 16 студзеня, прыходзіў да мяне Янка, каторы ўжо паступіў у гімназію Фальковіча ў старшы прыгатавіцельны клас; радзесенькі, давольны. У гэту нядзелю Янка мае зноў прыйсці. Цяпер ужо ён не плача. Не ведаю адно, як з платаю будзе, але бог — бацька! Якась яно будзе.

Чаму гэта ты нічога пра Яся і яго бабу нічога не напішаш? Ці то нічога аб іх не ведаеш?..

Пацалуй за мяне дзетачак!

26 сяго месяца размяняю другое паўгода майго заключэння ў крэпасці. Цяпер у нас пагоршала сядзець, бо народу прыбавілася, а на дварэ холадна, то вокны пазамыканы, а праз тое воздуху мала, так што часта галава баліць. Але павінна скора пацяплець.

Будзьце здаровенькі ўсе і пішыце часцей. Ты, пэўна, чула пра Бонч-Асмалоўскага [1], а також пра Гамза-Гурдзі [2], то абодва сядзяць у Мінскай турме, а Гамза судзіцца сягоння, а Бонч у панядзелак.

Я, дзякаваць богу, дзяржуся здароў пакуль што. У нас гэты тыдзень марозы, а сягоння то і вецер сярдзіты, дужа студзёна.

*Ваш Казімір.*

*22 студзеня 1911*
*Мінск*

## 20. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

*12 сакавіка 1911*

Толькі сягоння, Ганулька, палучыў я тваё пісьмо, але нічога не вычытаў, ці тыя лісты, пра каторыя я апошні раз пісаў, палучыла ці не. Не пішаш таксама нічога пра грошы. 4 сакавіка быў на свіданні ў мяне Янка з Маняю і са Стасем. Стась ка-

жа, што Фальковіч Янку хваліў перад п. Багушэўскаю [1].

У нас усё адно і тое так, што і няма аб чым пісаці. Здароўе маё, аднак, дзержыцца... Маю заробленых ужо рублёў з 15 грошай і яшчэ маю надзею рублёў колькі зарабіць. Міхась скора на волю выходзіць...

Цалую вас усіх і прашу часцей пісаці.

Будзь здаровенька.

*Твой Казімір.*

[P. S.] А вам, малышы, дзякую за лісты вашы і рысункі. Нарысаваў бы я вам што, ды лянуюся, ужо вы мне выбачайце. Бог дасць, скора ўжо прыеду, то і нарысую вам пад вашу каманду, а то не ведаю, як вам угадзіць... Але нечага рабіць, паспрабую вам нарысаваць старцаў, калі з дзяцей не рады *...

Бывайце, дзетачкі, здаровы і вясёлы.

Пішыце да мяне часта і чакайце мяне!

Цалую вас, маму крэпка, крэпка.

*Ваш К. Кастравіцкі.*

## 21. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Хрыстос васкрос!

Будзьце здаровы, дзетачкі мае, і ты, Ганулька, і не журыцеся. Скора ўжо і я на волю выйду.

У вялікую пятніцу палучыў я твой ліст, пісаны 27 сакавіка. Ад вялікага чацвярга пагода ў нас дужа цёплая; трава каля тыну паадскаквала

---

* Сем радкоў тэксту выразана цэнзурай.

больш як на корч. Хочацца дужа на волю, ды яшчэ тры месяцы з хвастом трэба высядзець.

А дзетачкі дамагаюцца рысункаў, а я, бачыце, не маю што рысаваці, усё роўна як і пісаці; няма ў вуме матэрыялу. А вы патрывайце да поўлета, пакуль я прыеду і прывязу вам рысункаў.

Каб гэта ты, Ганулька, прыслала праз Янку маю картачку, што ў Вільні знімата [1]; ды пакуль маё пісьмо дойдзе да цябе, то і Янка выедзе,— так што няхай яно так і будзе.

Бывайце ўсе здаровенькі.

*Ваш тата К. Кастравіцкі.*

*19 $\frac{11}{IV}$ 11 г.*

## 22. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Чаму ж ты, Ганулька, не напісала, на колькі табе хваціць гэтых грошай, што Амброжай прыслаў, але ўся роўна я ў скорасці вышлю табе дзесяць рублёў. Думаю выслаць 15 сяго месяца. Болей пэўне не змагу выслаць, то трэба сабе на дарогу што пакінуць. Адно ты, Ганулька, не бядуй! Будзем жывы, і бог спосаб дасць дзецям. Хіба ты не веруеш, што так доляю трывожышся? Нашай матцы горш прыходзілася, а, аднак, пагадаваліся [1]. Бог дасць, і навучацца на хлеб зарабляць і пагадуюцца. Не ў багацтве шчасце, а ў чыстым сумленні. І лепей, што нашы дзецi разумецьмуць, што ё гора на свеце, нечага другім будуць спагадаць.

А ты, Мірок, чаго ты ад мацеры ўцякаў, адно маму патрывожыў. Мне Ян казаў, як ты іх натры-

божыў, як цябе шукалі... А ты, шэльмук, другі раз так не рабі. Будзь добранькі мой!

А ты, Галюшачка, ці вучышся вышываць? Калі не вучышся, то прасі мамы, няхай паказывае...

Будзьце вы ўсе здаровенькі і вясёлы і мяне к сабе жджыце!

*1911 лета, травеня 7 дня.*

## 23. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Мушу табе, Ганулечка, падзякаваць, што ты нараіла мне ехаці да Мінска... Даведаўся я ў Мінску аб адным месцы ляснічага ў Барысаўскім павеце каля Паліка-возера [1] і дабіўся таго, што стаю першым кандыдатам на гэта месца, хоч мусіў збіць цану з 1500 р. на 800 р., бо разам нас сабралася трох кандыдатаў, і адзін з іх добра мне знаёмы, а з другімі пазнаёміўся, але тое месца адкрываецца адно тады, як лес прададуць, бо назначаныя таргі 30 кастрычніка не састаяліся. Другое месца, калі толькі яшчэ не занята, абяцаў мне ўпраўляючы гр. Чапскага ў Віцебскай губ. на 400 руб. і поўну ардынацыю... Май надзею і не журыся і галадам не марыся, а дбай болей аб сваё здароўе, бо яно не толькі тваё, а і маё і дзяцей нашых, і нам яно дужа патрэбна. Памаліся богу, штоб лес скарэй прадаўся!

Янка з 20 чысла сяго месяца будзе жыці ў пані Караліны.

Будзьце ўсе здаровенькі!

Дзетак пацалуй і з табою давай хоч мыслена пацалуемся!

Хутка пабачыцца!

*Ваш Казімір Кастравіцкі.*

*19 $\frac{2}{XI}$ 11*

## 24. Г. К. КАСТРАВІЦКАЙ

Выбачай, Ганулечка, што так доўга не пішу, але, бачыш, няма чаго, бо таго месца ў Вільні, пагаварыўшы з Досяю, не прыняў, тым болей што я заходзіў у Мінску да п. Фялінскіх, і яна мне сказала, што месца ў Жортаях за мною запэўнена... Сяджу ў Мінску, і ўжо трудна сядзець [1], бо Маню аб'ядаю... Галю бачыў, добра выглядае, дужа рада была.

Хвігуру рэжу, рэжу, ды штось спору няма, бо на памяць не помню, а для ўзору нічога не маю, дый і рабіць без вярстату пагана, аднэй рукой калупаю. Каштана таго не зглуміце. Каб гэта Рыгор павыразаў гладкія кускі, напалавінкі параскалываў ды і пакорыў, то бы добра было.

Будзьце здаровы.

*Ваш Казімір.*

*19 $\frac{26}{XII}$ 11*

***Мінск, субота.***

## КАМЕНТАРЫІ

### ПРОЗА

У кнізе змешчаны празаічныя творы Каруся Каганца, якія ўдалося выявіць у рускіх і беларускіх газетах, часопісах і календарах. Частка з іх апублікавана пры жыцці пісьменніка, а многія пасля яго смерці. Большасць твораў датуецца аўтарам, дата напісання іншых устаноўлена на аснове чарнавых рукапісаў ці ўскосных дадзеных, а год напісання некаторых устанавіць не ўдалося.

Усе празаічныя творы К. Каганца, а таксама яго вершы, камедыі і драмы, лісты друкуюцца часткова сучасным правапісам з захаваннем лексічных і стылёвых асаблівасцей мовы пісьменніка.

ПРЫЛУКІ. Газета «Северо-Западный край», 1902; пазней друкавалася ў «Нашай ніве», 1911, № 30.

ПРАМОВА. Газета «Наша ніва», 1909, № 51—52.

НАВАСАДСКАЕ ЗАМЧЫШЧА. Газета «Северо-Западный край», 1903, № 88; пазней у «Нашай ніве», 1911, № 35.

АДКУЛЬ ЗЯЗЮЛЯ ЎЗЯЛАСЯ? Газета «Вольная Беларусь», 1918, № 29.

ВІТАЎКА. Газета «Вольная Беларусь», 1918, № 32.

ЗАСУЛЬСКІЯ ТУРЭ. Газета «Северо-Западный край», 1903, № 168.

ХАЛЕРА 40-га РОКУ. Газета «Вольная Беларусь», 1917, № 15.

ЧЫМ БОЛЕЙ ХТО МАЕ, ТЫМ БОЛЕЙ ЖАДАЕ, АБО АДКУЛЬ МЯДЗВЕДЗІ НА СВЕТ УЗЯЛІСЯ. Газета «Северо-Западный край», 1902, № 48; пазней газета «Вольная Беларусь», 1918, № 32.

ТАКАЯ ДОЛЯ. Газета «Вольная Беларусь», 1918, № 36.

ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА ПЕРАЖЫТКІ ПАГАНСТВА Ў БЕЛАРУСАЎ. Газета «Северо-Западный край», 1903, № 113.

БУТРЫМАВА ПРЫГОДА. Зборнік «Адраджэнне», 1922, сш. 1.

БЫВАЛЫ ЮР У МІНСКУ. Газета «Минский листок», 5 верасня 1902.

АХОТА ВІЦГУБАРНАТАРА НА ВЯДЗЬМЕДЗЯ. Газета «Северо-Западный край», 1903, пазней «Маладняк», 1928, № 10.

З РЭФЕРАТУ НА КАЛЯДНЫ СХОД БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДЫ 1903 ГОДА. Газета «Беларусь», 1920, № 6.

МАЯ ПЕРШАЯ АХВОТА. Часопіс «Маладняк», 1928, № 10.

ПАРАДА. Газета «Беларусь», 1919, № 49.

ВОСЕННЮ. Часопіс «Маладняк», 1928, № 10.

ЗАБОЙСТВА ЗАХАРКІ. Часопіс «Маладняк», 1928,

ЖУРАВЕЛЬ І ЧАПЛЯ. Газета «Наша ніва», 1911, № 44.

ВАЎЧОК. Газета «Вольная Беларусь», 1917, № 16.

ШТО КАЖУХ, ТО НЕ ВАТА. Газета «Наша ніва», 1911, № 50.

ВАНДРОЎКА КРОПЛІ ВАДЫ. Газета «Вольная Беларусь», 1918, № 32.

СКРЫПАЧ І ВАЎКІ. Газета «Вольная Беларусь», 1918, № 32.

МАШЭКА. Газета «Вольная Беларусь», 1918, № 32.

ГОД. Газета «Беларусь», 1920, № 1.

СТРАШНАЕ ЗАКЛІНАННЕ. Зборнік «Адраджэнне», 1922, сш. 1.

НА СПЛАЎ. Зборнік «Адраджэнне», 1922, сш. 1.

НА СПЛАВЕ. Зборнік «Адраджэнне», 1922, сш. 1.

ТРЫ АЛЕШЫНЫ. Зборнік «Адраджэнне», 1922, сш. 1.

ЗАБОЙСТВА Ў ПУШЧЫ. Зборнік «Адраджэнне», 1922, ст. 1.

НАШЫЯ ПТУШКІ. Часопіс «Зоркі», 1921, № 1.

## ВЕРШЫ

Паэтычная спадчына К. Каганца, на вялікі жаль, у поўным выглядзе да нас не дайшла. Яго вершы «На сяле вечарам», «Дзяўчына», «Песня вясне», «Песня лету», «Песня восені», «Конь», «Наша доля», «Аратай», «Жняя», «Касар», «Каваль», «Столяр», «Шавец», «Кравец» і іншыя ў друк не трапілі, а рукапісы іх, трэба думаць, загінулі.

НЁМАН. Газета «Беларусь», 1919, № 43.

НАШ ПОКЛІЧ. Нелегальны ананімны зборнік «Песні» (1904).

НАШ СЫМБОЛЬ. Зборнік «Велікодная пісанка» (Пецярбург, 1904).

ЗГАДКА ПРА ГАЛУБКА. Газета «Беларусь», 1919, № 43.

*** ОЙ, У ПОЛІ ВЕЦЕР ВЕЕ. Друкуецца ўпершыню.

*** ВЫЙДУ НА ГАРУ ВЫСОКУ. Друкуецца ўпершыню.

БЕЛАРУС. Газета «Беларусь», 1919, № 48.

НАША ДОЛЯ МАЛАДЗЕЦКА. Газета «Беларусь», 1919, № 44.

ПЛАЧ БЕЛАРУСА. Газета «Беларусь», 1919, № 45.

НА МАБІЛІЗАЦЫЮ. Газета «Беларусь», 1919, № 48.

*** ЯКІ Ж ТО ВЕЦЕР БУЙНЫ ГРАЕ. Часопіс «Маладняк», 1928, № 10.

*** САЛАВЕЙКА МІЛЫ. Літ. дадатак да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 17.

*** ЖАЙВАРОНЧА МАЛЫ. Літ. дадатак да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 17.

*** СОНЕЙКА ПРЫГРЭЛА. Літ. дадатак да газеты «Савецкая Беларусь», 1928, № 17.

ПАЛЕССЕ. Газета «Беларусь», 1919, № 48.

*** БРАТЫ МАЕ РОДНЫЯ. Часопіс «Маладняк», 1928, № 10.

БАЦЬКА СЫНУ. Друкуецца ўпершыню.

СЦЯТЫ КАМЕНЬ. Газета «Наша ніва», 1911, № 27.

КАБЗАР. Газета «Наша ніва», 1910, № 3.

*** ВЕТРЫ БУЙНЫ ЗАГУЛЯЛІ. Часопіс «Маладняк», 1928, № 10.

ПЕСНЯ ЗІМЕ. Беларускі каляндар на 1914 год.

*** ДЫ НАСТАЛА Ж БО МАЁ СВЯТАНЬКА. Часопіс «Вольны сцяг», 1921, № 2(4).

*** ЛЯСЫ, БАРЫ І ДУБРОВЫ. Часопіс «Вольны сцяг», 1921, № 2(4).

*** У ТРЫ ШЛЯХІ ІДУЦЬ ЛЯХІ (з Багдана Залескага). Часопіс «Вольны сцяг», 1921, № 2(4).

Багдан Залескі (1802—1886) — польскі паэт-рамантык.

СТАРАЖОВЫ КУРГАН. Газета «Беларусь», 1919, № 43.

ПРА ПАНА ЛЕНСКАГА. Газета «Беларусь», 1919, № 43.

УСПАМІН. У поўным выглядзе друкуецца ўпершыню.

### ДРАМАТЫЧНЫЯ ТВОРЫ

Большасць драматычных твораў К. Каганца дайшло ў няскончаным выглядзе. Праўда, даследчык творчасці пісьменніка М. Каспяровіч выказаў меркаванне, што няскончаныя драматычныя творы — толькі чарнавыя варыянты, напісаныя ў турме, а скончаныя матэрыялы дзесьці загінулі.

У ІНШЫМ ШЧАСЦІ НЯШЧАСЦЕ СХАВАНА. Газета «Беларусь», 1919, № 49; выходзіла асобным выданнем (Вільня, 1919), дзе не ўсё адпавядае аўтарскаму тэксту.

МОДНЫ ШЛЯХЦЮК. Друкуецца паводле асобнага выдання: Модны шляхцюк. Бытавая камедыя ў 1 дзеі. Суполка «Загляне сонца і ў наша аконца», Пецярбург, 1910, стар. 22.

ДВОЙЧЫ ПРАПІЛІ. Газета «Беларусь», 1919, № 53—55.

СТАРАЖОВЫ КУРГАН. Газета «Беларусь», 1919, № 46.

СЫН ДАНІЛА. Газета «Беларусь», 1920, №№ 70 і 74.

### ЛІСТЫ

Пісьмы Каруся Каганца №№ 1—4, 8—24, адрасаваныя жонцы і дзецям, захоўваюцца ў аддзеле рэдкай кнігі і старадрукаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна; друкуюцца ўпершыню. Ліст № 5 захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Ленінградзе, ф. 776, воп. 14, спр. 249; упершыню ў кнізе С. Александровіча «Пуцявіны роднага слова» (Мн., 1971). № 6 упершыню ў артыкуле М. Каспяровіча «Карусь Каганец» («Маладняк», 1928, № 10). № 7 захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў бібліятэкі АН Літоўскай ССР, ф. 21, спр. 208.

№ 1

1. Пракаповіч Ганна Канстанцінаўна — будучая жонка К. Каганца — Г. К. Кастравіцкая.

2. Навасады — вёска на Койданаўшчыне, непадалёку ад Навасёлак; там жыла радня Г. К. Пракаповіч.

3. Ясь — Янка Кардэцкі, брат К. Каганца ад другога бацькі.

4. Прылукі — вёска пад Мінскам.

5. Беразень — К. Каганец так называе ў лістах месяц сакавік.

6. Прымагілле — вёска на Койданаўшчыне, дзе жыў К. Каганец.

№ 2

1. Дося — родная старэйшая сястра К. Каганца.

2. Стась — родны старэйшы брат К. Каганца.

3. Амброзі — родны старэйшы брат К. Каганца.

4. Добасня — вёска пад Бабруйскам (цяпер Кіраўскі раён Магілёўскай вобласці), там гасцявала ў радні Г. К. Пракаповіч.

№ 3

1. Лісі Норы — урочышча непадалёку ад Прымагілля, там жыў у 1899 годзе К. Каганец.

№ 4

1. Міхась — Міхаіл Кардэцкі, брат К. Каганца ад другога бацькі.

2. Пракаповіч Ганна была добрай краўчыхай.

№ 5

1. Святаполк — Мірскі П. Д. (1857—1914) паходзіў з даўняга княжацкага роду, якому калісьці належаў Мірскі замак.

2. У адказ на сваё прашэнне К. Каганец атрымаў прапанову прыслаць у Галоўнае ўпраўленне па справах друку копію дакументаў аб сваім паходжанні і адукацыі, а таксама праект праграмы газеты.

№ 6

1. Бохан Д. Д.— вядомы мінскі журналіст, быў супрацоўнікам газет «Минский листок» и «Северо-Западный край».

2. Да выдання газеты «Полесье» па розных прычынах так і не дайшло. Пазней выдавалася ў Гомелі пад такой назвай руская газета, якая нічога агульнага з задуманым выданнем К. Каганца не мела.

3. К. Каганец, відаць, паслаў у Галоўнае ўпраўленне па справах друку дакументы аб сваім паходжанні і адукацыі.

4. К. Каганец у гэты час жыў у Лідзе і працаваў дзесятнікам на будаўніцтве чыгункі.

## № 7

1. Трэба думаць, ліст напісаны ў лістападзе 1907 года (гадавіна выдання газеты «Наша ніва» споўнілася 10 лістапада 1907 г.).

2. «Окраина» — газета буржуазна-ліберальнага напрамку, выдавалася ў Мінску на рускай мове з ліпеня 1907 г. па 25 мая 1908 года.

3. Ніякіх матэрыялаў К. Каганца не было надрукавана ў газеце «Наша ніва» ні ў канцы 1907-га, ні ў 1908 годзе.

## № 8

1. Ліст адрасаваны старэйшаму сыну К. Каганца — Янку Кастравіцкаму, які вучыўся ў Мінску.

## № 9

1. Шабуня Антон Апалінаравіч — мінскі адвакат.

2. Вясною 1910 года Віленская судовая палата прысудзіла К. Каганца на год зняволення ў крэпасці. К. Каганец хацеў хутчэй сесці ў турму, каб хутчэй адбыць свой тэрмін. Мінская турма была перапоўнена, таму трэба было прыкласці намаганні, каб пасадзілі.

3. Мірак — Мірон Кастравіцкі, сын К. Каганца.

4. Беразынь — так называе К. Каганец Беразіно.

## № 10

1. Першы ліст К. Каганца, напісаны з турмы.

2. Янка, Мірон, Галечка і Міленка — дзеці К. Каганца.

3. З К. Каганцом сядзеў яго брат — Міхаіл Кардэцкі.

4. Маецца на ўвазе Якуб Колас, сядзеў ён у Мінскім астрозе з верасня 1908 года.

5. Першы раз сядзеў у турме К. Каганец з 19 снежня 1905 г. да 16 мая 1906 года.

6. У асуджаных да зняволення ў крэпасці быў крыху лягчэйшы рэжым (яны атрымлівалі 10 капеек у дзень на яду, самі варылі, мелі самавар, камера ў іх зачынялася толькі ноччу і г. д.).

## № 11

1. У турме К. Каганец маляваў карціны, рэзаў з дрэва скульптурныя фігуры.
2. Маецца на ўвазе жонка Амброзія Кастравіцкага.

## № 12

1. Караліна — хтосьці з радні К. Каганца.
2. Маюцца на ўвазе малюнкі дзяцей, якія яны прыслалі бацьку ў турму.

## № 13

1. Тады ж у турме К. Каганец рабіў ілюстрацыі да твораў Якуба Коласа, якія той пісаў у турме.

## № 14

1. Стася — хтосьці са знаёмых ці радні К. Каганца.

## № 15

1. К. Каганец вельмі баяўся за дзяцей, каб хто з іх не стаў гарбатым, як быў яго бацька і ён сам.

## № 16

1. Маня — малодшая родная сястра К. Каганца.
2. Залатая Горка — назва мясціны Мінска.

## № 17

1. На вялікі жаль, малюнкі К. Каганца да твораў Я. Коласа не захаваліся.
2. Маецца на ўвазе будынак касцёла, у якім цяпер размяшчаецца Дом кіно.

## № 18

1. Гімназія Фальковіча — прыватная сярэдняя навучальная ўстанова ў Мінску.

№ 19

1. Бонч-Асмалоўскі А. В. (1857—1930) — рэвалюцыянер-народнік, прымаў актыўны ўдзел у рэвалюцыі 1905—1907 гг.

2. Гамза-Гурдзі — актыўны ўдзельнік забастоўкі чыгуначнікаў у кастрычніку 1905 года, працаваў у канторы Любава-Роменскай чыгункі.

№ 20

1. Багушэўская — сястра жонкі Амброзія Кастравіцкага.

№ 21

1. Фота, пра якое ідзе гаворка ў лісце, захоўваецца ў дачкі паэта Галіны Казіміраўны.

№ 22

1. К. Каганец мае на ўвазе становішча іхняй сям'і, калі раптоўна памёр яго бацька, а на руках у маці засталося пяцёра дзяцей.

№ 23

1. Гаворка ідзе пра пасаду ў фальварку Жортай, дзе працаваў К. Каганец з пачатку 1912 года амаль да самай смерці.

№ 24

1. Пасля выхаду з турмы К. Каганец увесь час не мог знайсці працы.

# ЗМЕСТ

**Каганец К.**

К 12 Творы/[Уклад., прадм. і камент. С. Александровіча].— Мн.: Маст. літ., 1979—264 с., іл.

Карусь Каганец (сапраўднае прозвішча — Казімір Карлавіч Кастравіцкі) сваю радаслоўную вёў з даўняга баярскага роду: бацька быў раднёю Міхаіла-Апалінарыя Кастравіцкага, дзеда выдатнага французскага паэта Гійома Апалінэра.

Выдатны беларускі грамадскі дзеяч, драматург, паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, аўтар першых беларускіх падручнікаў, перакладчык, вучоны-мовазнаўца і фалькларыст, здольны мастак і скульптар... Шырокі абсяг дзейнасці і інтарэсаў аднаго з паплечнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Кніга найбольш поўна знаёміць з цікавай спадчынай творцы, які стаяў ля калыскі новай беларускай літаратуры і культуры.

К $\frac{70301-024}{М 302(05)-79}$ 97—78 Бел 2

---

Карусь Каганец

*(Казимир Карлович Костровицкий)*

ПРОИЗВЕДЕНИЯ

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак М. М. Купава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Я. А. Бебель.

ІБ № 831

Здадзена ў набор 19.06.78. Падп. да друку 17.01.79. АТ 01028. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Друк. высокі. Ум. друк. арк. 10,64. Ул.-выд. арк. 9,64. Тыраж 5000 экз. Зак. 1346. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

